**Марк Твэн**

# Прыгоды Тома Соўэра

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ
ЮНДЗЕТСЕКТАР
МЕНСК – 1935

## Раздзел I

– Том!

Адказу няма.

– Том!

Адказу няма.

– Куды ён дзеўся, гэты паганы хлапчук?.. Том!

Старая ссунула акуляры на кончык носа і праз верх акуляраў агледзела ўвесь пакой, потым падняла акуляры на лоб і глянула з-пад акуляраў. Яна бадай ніколі не глядзела праз акуляры, калі шукала вачыма якую-небудзь дробную рэч,– напрыклад, хлопчыка,– бо гэтыя акуляры надзяваліся толькі для форсу, для хараства, а не для сапраўднай патрэбы: убачыць праз іх можна было столькі сама, колькі праз печныя засланкі. На момант яна збянтэжылася, а потым сказала не вельмі сярдзіта, але ўсё-ж такі настолькі гучна, каб мэбля магла яе пачуць:

– Ну, трапіш ты да мяне... – я цябе...

Яна не скончыла, бо ў яе нехапіла дыхання: кажучы гэтыя словы, яна старанна поркалася пад ложкам з памялом. Але з-пад ложка яна не выцягнула нічога, апрача кошкі:

– Вось нягодны хлапчук! За ўсё сваё жыццё не бачыла такога!

Яна падышла да адчыненай дзверы і спынілася на парозе, выгледжваючы Тома ў садзе сярод зяляніны таматаў і пустазелля. Тома не было. Тады яна крыкнула мацней:

– То-о-м!

Ззаду нешта шарахнула. Яна азірнулася і злавіла за рукаў хлапчука, які збіраўся ўжо ўвільнуць ад яе.

Цёця, што гэта ў вас за спіной?

– Ну, вядома, мне трэба было глянуць у гэтую кладоўку! Што ты там рабіў?

– Нічога.

– Нічога?! Паглядзі на свае рукі, паглядзі на свой рот! Чым гэта ты выпэцкаў губы?

– Не ведаю, цёця!

– А я ведаю! Гэта – варэнне! Вось што гэта такое! Сорак разоў я табе казала, што калі ты не пакінеш у спакоі варэнне, я цябе адлупцую розгай. Давай сюды розгу!

Розга свіснула ў паветры. Небяспека была немінучая.

– Ай! Гляньце, цёця, што гэта ў вас за спіной?

Старая спалохана павярнулася, прыпадняўшы спадніцу, а хлопец шмыгнуў у бок, пералез цераз высокі плот – і знік! Цёця Поллі пастаяла хвіліну здзіўленая і збянтэжаная, потым ціха засмяялася:

– Ах ты, паганы хлапчук!.. ды няўжо-ж я ніколі не навучуся?

Ці мала ён са мной такіх штук выrabляў? Вось ужо праўду гавораць, што стары дурань за ўсіх дурняў дурнейшы, і старога-жа новым штукам не навучыш. Але-ж у яго і штукі ўсё розныя; двух аднолькавых ён не выкіне,– ці тут здагадаешся, што ён надумаўся? А калі возьмешся за палку, варта яму на хвілінку адхіліць маю ўвагу ці прымусіць мяне засмяяцца – і ўвесь мой гнеў ужо мінуў, і я яго пальцам не крану. Ведаю, ведаю, што галава ў яго поўная ўсялякай блазноты, але што-ж мне рабіць? Ён жа-ж сын маёй беднай нябожчыцы сястры, і ў мяне неяк духу нехапае адлупцаваць яго, як след. Кожны раз, калі я дам яму магчымасць унікнуць кары, мяне так мучыць сумленне, што і сказаць не магу, а калі пакараю – маё старое сэрца сціскаецца ад жалю. Ну, ды добра! Сёння няхай пагуляе, а заўтра прыдзецца засадзіць яго за работу. Жорстка будзе прымушаць яго працаваць па нядзелях, калі для ўсіх хлопчыкаў свята, але нічога не зробіш: работы ён не любіць больш за ўсё, а мне-ж трэба хоць колькі-небудзь выканаць свой абавязак у дачыненні да яго, а то скончыцца тым, што я загублю гэтага хлопчыка.

Том сапраўды бібікі біў увесь дзень, нават не глянуў у школу і вельмі добра правёў час. Ён вярнуўся дадому акурат у час, каб дапамагчы негру Джыму, хлопчыку-слузе, напіліць дроў і нашчапаць на распал або, прынамсі, расказаць Джыму пра свае прыгоды. Малодшы брат Тома, Сід (не родны брат, а стрэчны), к гэтаму часу ўжо справіўся са сваёй работай: яму было загадана набраць трэсак і стружак. Гэта быў паслухмяны, ціхі хлопчык, які ніколі не сваволіў.

Пакуль Том еў сваю вячэру і карыстаўся кожным выпадкам, каб сцягнуць кавалак цукру, цёця Поллі задавала яму хітрыя пытанні, з глыбокім сэнсам,–з надзеяй, што ён прагаварыцца і сам сябе выдасць. Як многія прастадушныя людзі, яна цешыла сябе думкай, што яна вельмі хітрая, і самыя наіўныя свае замыслы лічыла цудам хітрасці і дасціпнасці. Так і цяпер яна павяла гутарку здалёк:

– А што, у школе сёння, мабыць, было вельмі горача, Том, ці так?

– Так, цёця, досыць горача.

– Надта горача?

– Але, цёця.

– І табе захацелася купацца, Том?

Тому раптам зрабілася неяк няёмка; у галаве яго мільганула непрыемнае падазрэнне. Ён пільна паглядзеў у твар цёці Поллі, але твар гэты яму нічога не сказаў. І ён адказаў:

– Не, цёця, не надта.

Старая працягнула руку і памацала сарочку Тома.

– Але цяпер табе, відаць, не вельмі горача. Ты нікольki не спацеў.

І яна з гонарам падумала, як лоўка яна праверыла, ці сухая сарочка, а нікому і ў галаву не прышло, што яна сабе думае. Але Том ужо паспеў сцяміць, куды гне цётка. І ён папярэдзіў далейшыя роспыты:

– Нашы хлопчыкі падстаўлялі галаву пад кран, каб асвяжыцца. У мяне валасы да гэтага часу мокрыя. Бачыце!

Цётцы Поллі аж прыкра зрабілася: як магла яна выпусціць такі важны доказ? Але зараз-жа ў яе з'явілася бліскучая думка.

– Том, але каб абліць вадой галаву, табе пэўна не было патрэбы пароць каўнер у кашулі ў тым месцы, дзе я прышыла яго? А ну, расшпіліся!

Трывога знікла з твару Тома. Ён расшпіліў куртку. Каўнер сарочкі быў моцна прышыты.

– Ну, добра. Добра. Маладзец! А я была ўпэўненая, што ты гуляў і купаўся. Але на гэты раз я памылілася. Я думаю, што на справе ты лепшы, як здаешся.

Цёця Поллі была крыху незадаволена, што хітрыкі яе прапалі дарэмна, але затое яна была рада, што з гэтага часу Том ступіў на шлях паслухмянства.

Але Сід сказаў:

– Нешта мне здаецца, што вы прышывалі яго каўнер белымі ніткамі, а тут чорныя.

– Ну, вядома, я прышыла белымі ніткамі... Том!..

Але Том не захацеў чакаць працягу і, апынуўшыся за дзвярыма, крыкнуў:

– Будзе табе ад мяне за гэта, нягоднік!

Схаваўшыся ў надзейным месцы, Том агледзеў дзве вялікія іголкі, утыркнутыя за каўнер яго курткі і абмотаныя ніткамі. Адна іголка была з чорнай ніткай, другая – з белай.

– Яна не заўважыла-б, каб не гэты Сід. Ах, чорт, яна-ж рознымі ніткамі шые, то чорнымі, то белымі,– дзе-ж мне ўпомніць? Хай ужо шыла-б аднымі!.. А ўсё-такі я Сіду за гэта дам,– хай мяне чорт возьме, калі не дам!

Праз дзве хвіліны – і нават менш – ён ужо забыўся на свае непрыемнасці.

Справа ў тым, што ён навучыўся ў аднаго негра свістаць і цяпер мог без перашкоды практыкавацца ў гэтым мастацтве. Негр пераймаў свіст птушак, перарываючы яго гурканнем, для чаго трэба было трохі датыкацца языком да нёба. Чытач, мусіць, памятае, як гэта робіцца, калі ён калі-небудзь быў хлопчыкам. Дзякуючы надзвычайнай стараннасці, Том хутка зразумеў у чым тут справа.

Ён весела шагаў па вуліцы.

Улетку вечары доўгія. Яшчэ было светла. Раптам Том абарваў свой свіст. Перад ім быў чужы, незнаёмы хлопчык, крыху большы за яго самога. З'яўленне новай асобы ў такім маленькім гарадку, натуральна, выклікала напружаную цікавасць у Тома. Да таго-ж хлопчык быў добра апрануты,– добра апрануты ў будні дзень! Гэта-ж нешта незвычайнае! На ім была надта прыгожая шапачка; яго сіняя суконная куртка, шчыльна ахапляўшая цела і зашпіленая на ўсе гузікі, была зусім новая і чысцюткая, таксама як і яго штаны. На нагах у яго былі чаравікі, хоць дзень не быў святочны. На шыі ў яго была яркая істужка – гальштук! Наогул, у яго быў выгляд гарадскога франта, што абражала Тома да глыбіні душы. Чым больш глядзеў Том на гэты цуд, тым вышэй задзіраў ён свой нос, паказваючы, што не цікавіцца такім убраннем, і тым бяднейшым здаваўся яму яго ўласны касцюм. Абодва хлопчыкі не сказалі ні слова. Але варта было аднаму зрабіць крок, як рабіў крок і другі – толькі ў бок, па кругу. Пры гэтым яны ўвесь час стаялі тварам да твару і глядзелі адзін аднаму ў вочы. Нарэшце Том сказаў:

– А я магу цябе пабіць.

– Ой, глядзі, задам я табе перцу.

– Ну, паспрабуй!

– Што-ж, і адлупцую.

– Не здолееш, куды табе!

– Не, магу!

– Не, не можаш!

– Не, магу!

– Не, не можаш! Крыху памаўчалі. Потым Том сказаў:

– А як цябе завуць?

– Не твая справа!

– Ой, глядзі, задам я табе перцу!

– Ну, дык чаму не даеш?

– Скажы яшчэ два словы…

– Два словы! два словы! два словы!.. Вось табе! Ну?

– Во які спрытны! Я-бы мог, каб захацеў, адкалашмаціць цябе адной рукой, прывязаўшы другую сабе за спіну.

– Чаму-ж не калашмаціш? Ты-ж кажаш, што можаш.

– Вядома, магу! І дам, калі ты будзеш чапляцца да мяне.

– Ай, ай, ай! Бачылі мы такіх!

– Франт! Думаеш, што расфуфырыўся, дык ужо і важная асоба! Ой, які капялюш!

– А ну, паспрабуй збіць яго ў мяне з галавы! Вось тады і ўбачыш…

– Лжэш!

– Сам ты лжэш!

– Ты задзіра і манюка!

– Добра, правалівай!

– Эй ты, слухай, калі будзеш яшчэ дражніцца, я адарву табе галаву.

– Ой-ой-ой!

– І адарву!

– Дык чаго-ж чакаеш? Чаму ты ўсё пагражаеш, а на справе і няма нічога? Баішся, значыцца?

– І не думаю!

– Не, баішся!

– Не, не баюся!

– Баішся!

Зноў маўчанка, і зноў хлопчыкі абходжваюць і аглядаюць адзін аднаго.

Нарэшце яны зышліся плячо ў плячо.

– Выносся адсюль! – абвясціў Том.

– Сам выносся!

– Не жадаю.

– І я не жадаю!

І абодва сашчапіліся, палаючы нянавісцю адзін да аднаго. Але ні той ні другі не мог атрымаць перамогі. Калі, нарэшце, абодва запыхаліся і расчырванеліся, ваяўнічы запал іх крыху сцішыўся, і Том заявіў:

– Ты трус і шчанё. Пачакай, я напушчу на цябе майго старэйшага брата. Ён можа прыціснуць цябе да зямлі адным пальцам, і я прымушу яго гэта зрабіць.

– Не надта я баюся твайго старэйшага брата! У мяне самога ёсць брат, яшчэ большы за твайго, і ён можа перакінуць твайго вунь праз той плот. Гэта будзе ляпей!

Абодва браты існавалі толькі ў фантазіі хлопчыкаў.

– Лжэш!

– Ты сам лжэш!

Том вялікім пальцам нагі правёў рысу па зямлі і сказаў:

– Забараняю табе пераступаць праз гэту лінію, а не, дык я цябе так скамечу, што ты і не ўстанеш.

Чужы хлопчык паспяшаўся стаць на гэту лінію, гаворачы:

– Ну, паглядзім, як ты мяне скамячыш.

– Адчапіся! Кажу табе, лепш абыйдзі!

– Але-ж ты выхваляўся, што паб’еш мяне! Чаго-ж не б’еш?

– І паб’ю. Думаеш, не паб’ю? За два цэнты паб'ю.

Чужы хлопчык вынуў з кішэні дзве медных манеты і з насмешкай працягнуў іх Тому.

Том выбіў іх з рук ворага на зямлю.

Праз міг абодва хлопчыкі качаліся ў гразі, скруціўшыся ў клубок, як дзве кошкі. Некаторы час яны тузалі адзін аднаго за валасы, за вушы, за насы і люта рвалі адзін аднаму адзенне, пакрываючы сябе пылам і славай. Нарэшце праз дым бойкі вызначылася фігура Тома, які сядзеў вярхом на сваім ворагу і садзіў кулакамі ў спіну, прыгаварваючы:

– Вось табе, хвастун! Што? Будзе годзе?

Хлопчык дарэмна стараўся вызваліцца і гучна роў, галоўным чынам ад бяссілай злосці.

– Што? Атрымаў? Вось табе! вось табе – казаў Том, працуючы кулакамі. – Прасі ласкі, нягоднік.

Нарэшце ў чужога хлопчыка вырвалася прыдушанае «пусці!», і Том выпусціў яго, кажучы:

– Гэта табе навука. У другі раз не лезь да незнаёмых!

Чужы хлопчык пайшоў сваёй дарогай, атрасаючы пыл з адзення, усхліпваючы, сапучы носам; часам ён абарочваўся і пагражаў жорстка пабіць Тома, «хай толькі ён трапіцца яму яшчэ раз». Том адказваў яму насмешкамі і пайшоў дадому з вялікім гонарам. Але не паспеў ён завярнуцца, як чужы хлопчык запусціў у яго камень і трапіў акурат між лапатак, а сам кінуўся бегчы, як антылопа.

Том гнаўся за здраднікам аж да самага яго дома і такім чынам даведаўся, дзе ён жыве. Некаторы час ён пільнаваў ля форткі, выклікаючы ворага на адкрыты бой; але вораг толькі дражніўся ў акне, а выйсці не захацеў. Нарэшце з'явілася матка ворага, абазвала Тома брыдкім, папсаваным вулічным хлапчуком і загадала яму ісці прэч. Ён пайшоў, запэўняючы, што ідзе толькі таму, што не хоча пэцкаць рук аб такую поскудзь.

Дахаты ён вярнуўся позна ноччу і ціханька палез у акно. Але за акном яго пільнавала цётка. І, калі цётка ўбачыла, што зрабілася з яго курткай і штанамі, яе намер засадзіць яго ў свята за цяжкую працу зрабіўся цвёрдым, як дыямант.

## Раздзел II

Надышла суботняя раніца.

Том ішоў уздоўж плота з вядзерцам вапны і пэнзлем на доўгім кію. Ён глянуў на плот – і ўсё навакол зараз-жа зрабілася цмяным для яго, і глыбокі смутак ахапіў яго душу. Трыццаць метраў шырыні і дзевяць футаў вышыні! Жыццё здавалася яму нейкай бязглуздзіцай, цяжкім бярэмем.

Са ўздыхам абмакнуў ён пэнзаль у вапну і правёў ім па верхняй дошцы; паўтарыў гэта другі, трэці раз і спыніўся: о, як

мала ён зрабіў і як многа застаецца! І ён сумна сеў на лаўку.

З варот, падскокваючы і спяваючы, выбег Джым з бляшаным вядром. Насіць ваду з гарадской студні заўсёды было для Тома ненавісным працай, але цяпер ён з радасцю ўзяўся-б за гэту работу. Ён успомніў, што ля студні заўсёды збіраецца шмат народу: негры, мулаты, белыя. Хлопчыкі і дзяўчынкі, чакаючы сваёй чаргі, адпачываюць, сварацца, вядуць менавы гандаль цацкамі, б'юцца, пяюць, як жаўранкі. Ён успомніў таксама, што хоць да студні было не болей за паўтараста крокаў, Джым ніколі не вяртаўся з вадой раней, як праз гадзіну, ды і то яшчэ трэба было хадзіць па яго.

– Слухай, Джым, можа хочаш тут крыху пафарбаваць, а я замест цябе пайду па ваду?

Джым паматаў галавой.

– Не магу, маса [1] Том! Старая місіс загадала, каб я ішоў прама па ваду і не спыняўся ні з кім гутарыць па дарозе. Яна кажа: «Я ўжо ведаю, што маса Том будзе клікаць цябе бяліць сценку, дык ты яго не слухай, а ідзі па сваёй справе». Яна кажа: «Я сама пайду глядзець, як ён будзе бяліць».

– От, глупства! Мала што яна гаворыць, Джым! Яна заўсёды так гаворыць. Давай сюды вядро – я ўраз збегаю. Яна і не пазнае.

– Ой, баюся, маса Том, баюся старой пані! Яна мне галаву адарве, далібог, адарве!

– Яна? Ды яна пальцам нікога ніколі не кране; можа толькі наперсткам пачне дзяўбсці па галаве, дык гэта-ж глупства. Хто-ж на гэта звяртае ўвагу? Праўда, гаворыць яна жудасныя рэчы, але-ж ад слоў не баліць, калі толькі яна пры гэтым не плача. Джым, я дам табе мармуровую галачку... Я табе дам яшчэ маю белую кеглю.

Джым пачаў хістацца.

– Белую кеглю, Джым, дасканалую белую кеглю!

– Яно так, штука важнецкая! А толькі ўсё-ж такі, маса Том, я вельмі баюся старой пані!

Не стрымаўшыся ад спакусы, Джым паставіў-быў вядро на зямлю, але праз хвіліну падхапіў яго і з бразганнем панёсся па вуліцы, а Том энергічна пачаў мазаць плот... Гэта цёця Поллі з пантопляй у руцэ прымусіла іх узяцца кожнаму за сваю працу.

Але энергіі Тома хапіла не надоўга. Ён пачаў думаць аб тым, як весела ён збіраўся правесці гэты дзень, і яму зрабілася яшчэ горш. Сёння ўсе хлопчыкі гуляюць. Яны, вядома, збіраюцца на розныя вясёлыя гульні, прыдуць па яго – і будуць насміхацца, што яму даводзіцца так цяжка працаваць. Самая думка аб гэтым паліла яго, як агнём.

---

[1] Маса – перакручанае англійскае слова, якое азначае: паніч, пан.

Ён выцягнуў увесь свой скарб і пачаў разглядаць яго: тут былі ламаныя цацкі, мармуровыя галачкі, кубікі, featuring рознае барахло – гэтага нехопіць на тое, каб купіць сабе хоць поўгадзіны волі. Ён палажыў свае багацці ў кішэнь і адмовіўся ад спробы падкупіць таварышоў. У гэтую цяжкую і безнадзейную хвіліну на яго раптам надышло натхненне – іменна натхненне, геніяльная бліскучая думка...

Ён узяў пэнзаль і спакойна прыняўся за работу. Здалёк паказаўся Бэн Роджэрс; яго насмешак Том баяўся больш за ўсё. Бэн не ішоў, а падскокваў, ляцеў – верная адзнака, што на душы ў яго было лёгка і што ён многа добрага чакаў ад гэтага дня. Ён еў яблык і час ад часу працяжна меладычна свістаў, перамешваючы гэта з больш нізкімі нотамі «дзінь-дон-дон, дзінь-дон-дон», бо ён прадстаўляў з сябе параход.

Падышоўшы бліжэй, ён сцішыў хаду, стаў сярод вуліцы і пачаў павольна, асцярожна, з намаганнем заварочвацца, бо ён прадстаўляў з сябе «Вялікую Місуры», якая сядзіць на дзевяць футаў у вадзе. Ён быў судном, капітанам і матросам у адзін і той-жа час, так што яму даводзілася ўяўляць, што ён стаіць на ўласнай палубе, сам сабе загадвае і выконвае гэты загад.

– Стоп машына! Дзінь-дзілінь-дзінь-дзілінь-дзінь! – Ён паступова зышоў з сярэдзіны дарогі і набліжаўся да краю.– Назад! Дзілінь-дзілінь-дзінь! – Ён выцягнуўся, як перад начальствам, трымаючы рукі па швах.– Задні ход! Трымай правей! Чшш-чшш-чшш! – Правая рука яго апісвала вялікія кругі, цяпер ён прадстаўляў з сябе кола сарака футаў у акружыні.– Заварачвай левым бортам! Дзілінь-дзінь-дзінь! Чшш-чшш-чшш!

Цяпер ён апісваў кругі левай рукой.

– Стоп машына! Дзілінь-дзінь-дзінь! Не так шпарка! Заварочвай! Нос правей! Кідай канат! Жывей! Чаго стаіш? Лаві канат! Накінь пятлю вунь на тую палю! Зацягва-а-й! Адпусці! Машына стала, сэр! Дзілінь-дзінь-дзінь! Шт-шт-шт! – пераймаў ён сіпенне пары.

А Том мазаў сабе, не звяртаючы ніякай увагі на параход. Бэн са здзіўленнем паглядзеў на яго, а потым сказаў:

– Гы-гы! Трапіў бычок на вяровачку!

Адказу не было. Том, як сапраўдны мастак, цешыўся з свайго апошняга мазка, потым яшчэ крыху мазануў і адкінуўся назад, каб паглядзець.

Бэн падвёў сваё судно бліжэй і стаў з ім борт-у-борт. Том аж сліну глынаў, гледзячы на яблык, але прыкінуўся, што нічога не бачыць, і старанна працаваў.

– А ці-ж гэта не праца?

Нарэшце Бэн сказаў:

– Што, браток. засадзілі цябе за работу?

– Ах, гэта ты, Бэн? А я і не бачыў.

– Слухай, брат, я іду купацца, так! Пэўна, і табе хочацца, а? Але табе, відаць, прыдзецца працаваць. Ну, вядома, прыдзецца!

Том паглядзеў на яго і сказаў:

– Што ты завеш працай?

– А ці-ж гэта не праца?

Том зноў пачаў мазаць і сказаў нядбала:

– Можа так, а можа і не. У кожным разе яна па густу Тому Соўэру.

– Ну, ну! Не будзеш-жа ты сцвярджаць, што гэта занятак табе падабаецца?

Пэнзаль захадзіў шпарчэй.

– Падабаецца? А чаму-ж і не спадабацца? Ці-ж хлопчыкам кожны дзень даводзіцца бяліць плот?

Справа набывала новы сэнс. Бэн кінуў грызці яблык. Том мякка вадзіў пэнзлем узад і ўперад, адыходзіў назад, каб пацешыцца сваім мастацтвам, сям-там падмазваў і зноў крытычна аглядаў зробленае, а Бэн сачыў за кожным яго рухам, усё больш цікавячыся і захапляючыся. Нарэшце ён папрасіў:

– Слухай, Том, дай мне памазаць крыху!

Том падумаў і зрабіў выгляд, нібы гатоў згадзіцца, але потым парашыў іначай.

– Не, не, Бэн, нельга! Бачыш, цёця Полі надта вымагальная, плот-жа выходзіць на вуліцу. Каб яно на двор, тады іншая рэч, а тут яна вельмі строгая,– трэба бяліць вельмі старанна. Я так думаю, што з тысячы, нават, магчыма, з двух тысяч хлопчыкаў не знойдзецца ніводнага, які здолеў-бы пабяліць яго як след.

– Ды няўжо-ж? Ну! Дай мне толькі паспрабаваць, крышачку толькі. Каб я быў на тваім месцы, я-б цябе пусціў. А, Том?

– Бэн, я рады быў-бы цябе пусціць, ды цёця Полі... Вось Джым таксама хацеў, але яна не дазволіла. Прасіўся і Сід – яна і яго не пусціла. Цяпер ты разумееш, як мне цяжка даверыць гэтую работу табе. Калі ты пачнеш бяліць, ды што-небудзь выйдзе не так...

– Не, не! Я буду асцярожна. Ну, дай паспрабаваць! Слухай: я дам табе за гэта кавалак яблыка.

– Добра, давай! Але... не, Бэн, лепш не трэба – баюся я...

– Я табе ўсё аддам!

Том падаў яму пэнзаль нібы з неахвотай, але з вялікай радасцю ў душы. І пакуль былы параход «Вялікая Місуры» працаваў і пацеў на сонцы, мастак сядзеў на бочцы ў цяньку, боўтаў нагамі, еў яблык і рыхтаваў пастку для новых нявінных ахвяр.

А недастачы ў ахвярах не было: хлопчыкі адзін за адным

падыходзілі да плота; яны падыходзілі, каб пасмяяцца, а заставаліся бяліць. У той час, калі Бэн зусім змарыўся, Том ужо прадаў другую чаргу Біллі Фішару за папяровага змея; а калі і Фішар стаміўся, яго замяніў Джоні Мілер, заплаціўшы за гэта здохлым пацуком і вяроўкай,– каб прывязаць гэтага пацука за хвост і размахваць; і гэтак далей, і гэтак далей, увесь час.

А палове дня Том з няшчаснага бедняка, якім ён быў раніцой, ператварыўся ў багатыра. Апрача вышэй пералічаных багаццяў, у яго набралася: дванаццаць мармуровых шарыкаў, свісцёлка, чарапок сіняга шкла ад бутэлькі, драўляная пушка, адмычка, кавалак крэйды, шкляная затычка ад графіна, алавяны салдацік, пара палонікаў, шэсць бразгалак, аднаглазае кацянё, медная ручка ад дзвярэй, сабачы ашыйнік (толькі сабакі не было), ручка нажа, чатыры апельсінавых коркі і старая паламаная рамка ад акна з-пад страхі. Ён надта прыемна правёў час, нічога не робячы, у вялікай кампаніі, а на плоце засталіся нават тры пласты вапны! Каб у яго хапіла вапны, ён абабраў-бы ўсіх хлопчыкаў у горадзе.

## Раздзел III

Том з’явіўся перад цёткай Поллі, якая сядзела каля расчыненага акна.

– Цёця, можна мне ісці гуляць?

– Як! Ужо? Колькі-ж ты зрабіў?

– Усё зроблена, цёця.

– Том! Не мані мне! Я гэтага цярпець не магу.

– Я не маню, цёця. Усё гатова.

Цёця Поллі ўсё-ж такі не паверыла. Яна пайшла сама паглядзець і была-б рада, каб словы Тома хоць на дваццаць процантаў аказаліся правільнымі. Калі-ж яна ўбачыла, што ўвесь плот пабелены, ды яшчэ пабелены густа, у некалькі пластоў, і нават па зямлі ўздоўж плота праведзена белая паласа,– яна прышла ў невыказнае здзіўленне.

– Ну, ведаеш, гэтага ўжо ніколі не падумала-б!.. Трэба сказаць праўду, Том, ты можаш працаваць, калі захочаш. – Тут яна палічыла патрэбным змякчыць камплімент: – Толькі вельмі ўжо рэдка табе гэтага хочацца. Ну, ідзі гуляй. Толькі глядзі – прыходзь дахаты ўчас, а то я цябе!..

Яна была ў такім захапленні ад яго вялікага геройства, што павяла яго ў камору, выбрала лепшы яблык і паднесла яму, доўга разважаючы аб тым, што пасля добрасумленнай работы яблык здаецца саладзейшым. Том тым часам паспеў сцягнуць пранік.

Ён выбег на двор і ўбачыў Сіда, які падымаўся па сходах, што ішлі знадворку і вялі ў заднія пакоі верхняга паверху. У адзін

момант паветра напоўнілася гукамі звонкіх пляскачоў, якія градам пасыпаліся на Сіда. Раней як цёця Поллі паспела на дапамогу, шэсць-сем удараў ужо трапілі ў цэль, а Том пераскочыў цераз плот і знік. Была на двары і фортка, але звычайна Тому не было калі дабегчы да яе. Цяпер, калі ён разлічваўся з Сідам за тое, што той выдаў яго, паказаўшы цётцы Поллі на чорныя ніткі,– яго сэрца ахапіў салодкі спакой.

Том прайшоў прыгуменнямі і завярнуўся на гразкую дарогу, якая вывела яго за кароўі хлявы. Тут ён ужо мог не баяцца, што яго зловяць і пакараюць; ён быў у поўнай бяспецы. Таму ён адразу пайшоў на вясковую базарную плошчу, дзе, па дагаворанасці, ужо сышліся для бойкі два «ваенных» атрады хлопчыкаў.

Адной з гэтых армій камандаваў Том, другой – яго неразлучны прыяцель, Джо Гарпер. Абодва вялікія палкаводцы не маглі біцца асабіста,– гэта павінны былі рабіць простыя салдаты,– яны кіравалі бойкай, седзячы побач на ўзгорку і даючы загады праз сваіх ад'ютантаў. Пасля доўгай і цяжкай бойкі армія Тома перамагла. Затым абодва войскі падлічылі забітых, памяняліся палоннымі, дагаварыліся аб умовах і тэрміне наступнай рашаючай бойкі. Потым яны выстраіліся ў шарэнгі і цырыманіяльным маршам пайшлі адгэтуль. Том накіраваўся дадому адзін.

Ідучы каля дома, дзе жыў Джэф Тэчэр, ён убачыў у садзе незнаёмую дзяўчынку – прыгожае стварэнне з блакітнымі вачыма, жоўтымі валасамі, заплеценымі ў дзве даўгія касы, у белай летней сукенцы і вышытых панталончыках.

Ён цішком любаваўся гэтым новым ангелам, пакуль не заўважыў, што і «ангел» таксама ўбачыў яго. Тады ён зрабіў выгляд, нібы зусім не бачыць дзяўчынкі, і пачаў выяўляць сваю спрытнасць, вытвараючы ўсялякія недарэчныя штукі, як гэта ўласціва хлопчыкам, калі яны хочуць спадабацца. Так ён стараўся некалькі часу. Потым у час аднаго галаваломнага гімнастычнага практыкавання ён зірнуў у бок і ўбачыў, што дзяўчынка завярнулася і ідзе к дому.

Том апусціў нос і падышоў да плота; ён спадзяваўся, што дзяўчынка яшчэ трошкі пабудзе ў садзе. Яна сапраўды крыху затрымалася на ганку, але потым накіравался да дзвярэй. Том цяжка ўздыхнуў, калі яна паставіла ножку на парог, але раптам твар яго асвятліўся радасцю: раней як схавацца за дзвярыма, дзяўчынка азірнулася і кінула праз плот кветку. Хлопчык падбег, спыніўся за два крокі ад кветкі, прыставіў далонь да вачэй і пачаў пільна прыглядацца ўздоўж вуліцы, нібы там з'явілася нешта асабліва цікавае. Потым падняў саломінку, паставіў яе сабе на нос, і, задраўшы галаву, пачаў хістацца з боку ў бок, каб утрымаць саломінку ў роўнавазе. Такім спосабам ён патрошкі ўсё больш і

больш набліжаўся да кветкі; нарэшце наступіў на яе босай нагой, ухапіў яе сваімі гібкімі пальцамі, паскакаў на адной назе, уносячы свой скарб, і хутка схаваўся за домам. Але не надоўга – роўна настолькі, колькі патрэбна для таго, каб расшпіліць куртку і схаваць кветку на грудзях, бліжэй да сэрца, а можа і да страўніка, бо Том быў не надта моцны ў анатоміі.

Потым ён вярнуўся назад і да самага вечара вісеў на плоце, вырабляючы ўсялякія штукі. Але дзяўчынка не паказвалася, хоць Том і пацяшаў сябе надзеяй, што яна глядзіць аднекуль з акна і бачыць, як ён стараецца. Нарэшце, ён вымушаны быў пайсці дахаты, з галавой, напоўненай марамі і зданямі.

У часе вячэры ён быў у такім узбуджаным стане, што цётка толькі дзіву давалася – «што сталася з гэтым дзіцём?»

На яго добра насварыліся за тое, што ён пакаламшаціў Сіда, але ён, як відаць, зусім не пакрыўдзіўся. Ён паспрабаваў-быў сцягнуць кавалак цукру з-пад носа ў цёткі і атрымаў за гэта па руках, але зноў-жа не пакрыўдзіўся і толькі сказаў:

– Цёця, чаму вы не б’еце Сіда, калі ён бярэ ў вас цукар?

– Сід не мучыць людзей так, як ты. Каб не я, ты не выпускаў-бы з цукерніцы лап.

Цётка выйшла ў кухню, і Сід, шчаслівы, што яму ўсё дазволена, зараз-жа пацягнуўся да цукерніцы, нібы здзекваючыся з Тома. Гэта было ўжо занадта! Але цукерніца выслізнула з пальцаў Сіда, упала на падлогу і разбілася. Том быў у такой радасці, у такім захапленні, што нават стрымаў сябе і прамаўчаў. Ён рашыў не гаварыць ні слова, нават калі ўвойдзе цётка, і сядзець ціха, пакуль яна не спытаецца, хто гэта зрабіў, і тады толькі сказаць. Ён загадзя радаваўся, што «любімчыку» здорава ўляціць. Старая вярнулася і, пляснуўшы рукамі, спынілася над разбітай цукерніцай, кідаючы маланкі гневу цераз верх акуляраў. Том казаў сам сабе: «Вось яно, пачынаецца»! І ў той-жа міг ён ужо ляжаў расцягнуўшыся на падлозе. Карная рука замахнулася ўжо другі раз, але Том з плачам крыкнуў:

– Стойце! Стойце! Завошта вы б’еце мяне? Гэта-ж Сід разбіў цукерніцу!

Рука цёці Поллі замерла ў паветры. Том чакаў ад цёткі жалю і раскаяння, але яна стрымалася і толькі сказала:

– Гм! Ну, усё-такі я лічу, што табе дасталося не дарма. Ты, пэўна, таксама дурэў, пакуль мяне не было тут.

Сумленне папракала яе, ёй вельмі хацелася сказаць хлопчыку некалькі ласкавых слоў, прылашчыць яго. Том ведаў, што ў душы цётка цяпер гатова цалаваць яго ногі, і гэта давала яму суровую асалоду. Ён парашыў не рабіць ніякіх крокаў да прымірэння і не звяртаць увагі на цётчыны забяганні. Ён ведаў, што час ад часу

яна глядзіць на яго жаласнымі вачыма, затуманенымі слязмі, але не хацеў заўважаць гэтага. Ён уяўляў сабе, як ён ляжыць хворы, блізкі да смерці, а цётка схілілася над ім і чакае, каб ён сказаў, што дарue ёй; але ён паварочваецца тварам да сцяны і паміраe, не сказаўшы ні слова. Як-жа ж ёй тады будзе? Ён уяўляў сабе, як яго прыносяць дадому мёртвага, выцягнутага з вады; валасы яго ўсе змоклі, яго бедныя рукі, складзеныя на грудзях, супакоіліся навекі, і яго хворае сэрца таксама. Як-жа ж яна тады кінецца на яго труп і будзе плакаць-галасіць над ім і маліць бога, каб ён вярнуў ёй яе хлопчыка, і што яна ніколі-ніколі болей не будзе крыўдзіць яго дарма! А ён будзе ляжаць бледны, халодны, нерухомы,– туга беднага маленькага пакутніка скончылася назаўсёды... Ён так расчуліў сябе гэтымі жаласнымі карцінамі, што ўвесь час у яго вачах плавала нейкая вільгаць, якая кацілася праз край, калі ён мігаў, цякла ўніз і капала з кончыка яго носа. Яму так прыемна было пеставаць сваё гора, што ён не мог цярпець каля сябе вясёлыя твары і смех.

Таму, калі ў пакой, падскокваючы, прыбегла яго кузіна Мэры, прынесшая з сабой вясёлыя песні і сонца,– ён, пануры і хмуры, вышаў з дому. Ён бадзяўся воддалі ад таварышоў, шукаючы ціхага месца, такога-ж сумнага, як яго сэрца.

## Раздзел IV

Раніца ў нядзелю была ціхая, ясная, сонца ярка ззяла. Пасля снедання Мэры падаравала Тому новенькі толькі што куплены ножык-складанчык, цаною ў дванаццаць з паловай цэнтаў [2], і Том аж зайшоўся ад захаплення. Ласка кузіны ўсхвалявала яго да глыбіні душы. Праўда, ножык быў «бяспечны» і ім нічога нельга было рэзаць, але Том усё-ж такі ўхітрыўся парэзаць ім буфет і падрыхтаваўся ўжо ўзяцца за пісьмовы стол,– як яго паклікалі адзявацца, каб ісці ў нядзельную школу.

Мэры падала яму бляшаны тазік з вадой і кавалак мыла. Ён вышаў за дзверы і паставіў тазік на лавачку, потым абмакнуў мыла ў ваду і палажыў яго на месца; тады закасаў рукавы, асцярожна выліў ваду на зямлю, увайшоў у кухню і пачаў старанна церці сабе твар ручніком, што вісеў за дзвярыма. Але Мэры адабрала ад яго ручнік, кажучы:

– Як табе не сорамна, Том! Не трэба быць такім брыдкім. Нічога табе не станецца, калі ты памыешся.

Том быў крыху засаромлены. Тазік зноў напоўнілі вадой. На гэты раз Том спачатку пастаяў над ім, нібы збіраючыся з духам, а

---

[2] Цэнт – каля двух капеек.

потым глыбока ўздыхнуў і пачаў мыцца. Калі ён другі раз увайшоў у кухню і са сплюшчанымі вачмі пачаў мацаць рукамі рушнік, то вада і мыльная пена на яго твары усім сведчылі, што на гэты раз ён быў добрасумленны. Але тым не менш, калі ён вынырнуў з-пад рушніка, фізіяномія яго аказалася зусім нездавальняючай, бо чыстая мясціна, нібы маска, займала толькі частку твара – ад ілба да падбародка; вышэй і ніжэй ад гэтага ўчастку заставалася вялікая неабваднёная тэрыторыя, якая наверсе падымалася на лоб, а ўнізе цёмнай паласой ляжала вакол шыі.

Тады Мэры сама ўзялася за яго, і толькі пасля гэтага Том зрабіўся малайцом, з якім не сорамна паказацца на вуліцы: валасы яго былі прычэсаныя і змазаныя памадай, а кароценькія кудзеркі размешчаны прыгожа і сіметрычна. Сам-жа ён толькі старанна прыгладжваў свае валасы і пнуўся прыціснуць іх так, каб яны ляжалі на галаве зусім гладка: ён лічыў, што кучаравасць робіць яго падобным на дзяўчынку. Потым Мэры дастала яго святочны касцюм, які вось ужо два гады надзяваўся толькі па нядзелях. Калі ён адзеўся, кузіна «паправіла» яго, зашпіліла куртку на ўсе гузікі, адгарнула на плечы шырокі каўнер сарочкі, пачысціла адзенне шчоткай і, нарэшце, надзела яму на галаву саламяны капялюш.

Усё гэта вельмі ўпрыгожыла яго выгляд, але сам ён саромеўся і адчуваў сябе неяк няёмка: не прызвычаіўся ён бачыць сябе памытым і чыстым,– гэта перашкаджала яму. Ён спадзяваўся, што Мэры забудзецца на боты, але надзея гэта была дарэмная: Мэры вымазала іх, як водзіцца, жырам і прынесла яму, каб ён надзеў. Тут ён не сцярпеў і пачаў скардзіцца, што яго заўсёды прымушаюць рабіць тое, чаго ён не хоча рабіць. Але Мэры пераканаўча сказала:

– Ну, калі ласка, Том,– не будзь-жа дурны!

І ён, бармочучы, нацягнуў на ногі боты. Мэры таксама хутка ўбралася, і ўсе трое адправіліся ў нядзельную школу, якую Том ненавідзеў усім сэрцам, а Сід і Мэры любілі.

Заняткі ў школе адбываліся ад дзевяці да паловы адзінаццатай; потым пачыналася царкоўная служба. Мэры і Сід заўсёды добраахвотна заставаліся паслухаць пропаведзь пастара, а Том заставаўся супроць волі.

***

Каля паловы адзінаццатага зазваніў шчарбаты звон маленькай царквы, і зараз-жа пачаў збірацца народ да ранішняй пропаведзі. Вучні нядзельнай школы размясціліся па розных кутах царквы, сядаючы каля сваіх бацькоў, каб увесь час быць пад наглядам. Побач з цёцяй Поллі паселі Том, Сід і Мэры; пры гэтым Тома пасадзілі падалей ад расчыненага акна – ад спакуслівых

летніх відаў і сцэнак.

Царква патроху напаўнялася. Прышоў паджылы бядняк-паштмэйстэр, які раней бачыў лепшыя дні; прышоў гарадскі галава са сваёй жонкай – у ліку іншых бескарысных рэчаў у гарадку быў і гарадскі галава – і міравы суддзя, і ўдава Дуглас, прыгожая, прыбраная жанчына гадоў пад сорак, добрая, шчодрая і лагодная. Яе дом на ўзгорку быў не дом, а палац, адзіны палац у гарадку; да таго-ж гэта быў гасцінны палац, дзе наладжваліся самыя раскошныя святкаванні. Прышоў адвакат Рыверсон, новы арыстакрат з ваколіцы; з'явілася мясцовая красуня; нарэшце, апошнім прышоў узорны хлопчык Віллі Макферсон, які ахоўваў сваю маці так старанна, нібы яна была шкляная. Ён заўсёды прыводзіў з сабою ў царкву сваю маці, і ўсе мамы ставілі яго ў прыклад сваім сынам. А хлопчыкі – усе да апошняга ненавідзелі яго за тое, што ён такі добры, а галоўнае за тое, што яго ўзорнасцю заўсёды ім «тыкаюць у нос». З кішэні яго, нібы выпадкова, вытыркаўся кончык насавой хустачкі. У Тома насавой хустачкі не было, і тых хлопчыкаў, якія мелі гэтую прыналежнасць туалета, ён лічыў фарсунамі.

Пастар пачаў з гімна, які ён прачытаў з завываннем, улюбёным у тутэйшых месцах. Ён пачынаў на сярэдніх нотах, і, паступова падвышаючы голас, даходзіў да высокіх, рабіў націск на перадапошнім слове і раптам, нібы ныраючы, спускаў тон:

Няўжо-ж на ложку з кветак я буду
адпачываць,
Калі мой блізкі прызначаны змагацца
пакутваць!

У часе малітвы ўвагу Тома прыцягнула муха, якая села на спінку лаўкі перад ім. Гэтая муха нібы здзеквалася з яго: яна так спакойна церла адну аб адну свае маленькія лапкі, ахапляла імі галаву і паліравала яе так старанна, што галава, здаецца, аддзялялася ад цела і відаць была тоненькая нітачка шыі; потым заднімі ножкамі яна чысціла і скрэбла крылкі і разгладжвала іх, нібы складкі фрака, каб яны ямчэй ахаплялі цела; і ўвесь свой туалет яна рабіла не спяшаючыся, спакойна і ўпэўнена, нібы ведала, што ёй нішто не пагражае, бо Том, хоць яму і свярбелі рукі цапнуць муху,– не адважыўся гэта зрабіць у часе малітвы. Але як толькі пастар дайшоў да апошніх заключных слоў, рука Тома сама выгнулася наперад; калі-ж пачулася «аман»,– муха была ўжо злоўленая. Але цётка ўбачыла гэты манеўр і прымусіла Тома выпусціць муху.

Пастар скончыў малітвы і аднастайным гамзатым голасам пачаў пропаведзь, да таго нудную, што хутка многія ўжо дзюбалі

носам, не гледзячы на тое, што прапаведнік пагражаў грэшнікам кіпучай серай і смалой, а лік абраных, якім прызначана вечнае шчасце, даводзіў да такой маленькай лічбы, што выходзіла: такую жменьку праведнікаў не варта было і ратаваць.

Пакуты Тома аднавіліся. Раптам ён успомніў, што ў яго ў кішэні ляжыць вялікі скарб, і паспяшаўся дастаць яго. Гэта быў вялікі чорны жук з моцнымі сківіцамі – жук «кусака», як называў яго Том. Жук быў схаваны ў каробачку ад пістонаў. Калі Том адчыніў каробачку, жук у першую чаргу ўкусіў яго за палец. Зразумела, хлопчык пстрычкай адкінуў яго прэч, а пакусаны палец засунуў у рот. Жук упаў на спіну і бездапаможна круціўся, спрабуючы перавярнуцца. Том глядзеў на яго і прагнуў атрымаць яго назад, але ён ляжаў далей, як можна было дастаць. Затое ён паслужыў забавай для многіх з тых, хто не паспеў зацікавіцца пропаведдзю і сачыў цяпер за намаганнямі жука стаць на лапкі.

Але вось у царкву выпадкова забраўся пудэль, журботны, стомлены летняй гарачынёй і цішынёй; знудзіўшыся сядзець дома, ён шукаў забаў і новых уражанняў. Калі ён убачыў жука, яго панура апушчаны хвост адразу падняўся і завіляў. Ён доўга вывучаў здабычу, хадзіў вакол яе, здалёк абнюхваў; потым асмеліўся, падышоў бліжэй; потым разявіў рот, хацеў схапіць жука – і не патрапіў; паўтарыў спробу, яшчэ і яшчэ; відаць, гэта яму спадабалася; ён лёг на жывот, так што жук прышоўся яму між лап, і зноў пачаў рабіць свае спробы. Нарэшце гэта яму абрыдала, ён супакоіўся, забыўся на жука і нават пачаў драмаць; галава паступова апусцілася, і падбародак дакрануўся да ворага, які зараз-жа ўкусіў яго. Пудэль візгнуў, матнуў галавой, і жук адляцеў ад яго на два крокі і зноў паваліўся на спіну.

Тыя, хто сядзеў бліжэй і бачыў усё гэта,– аж трэсліся ад стрыманага смеху; некаторыя схавалі свае твары за веярамі і насавымі хусткамі, і Том быў зусім шчаслівы.

У пудэля быў дурны выгляд,– відаць, ён і сам адчуваў, што застаўся дурнем, але ў той-жа час яго сабачае сэрца карцела ад крыўды і жадання помсты. Таму ён падышоў да жука і асцярожна распачаў атаку: наскокваў на жука з усіх бакоў, ледзь не кранаючы ворага пярэднімі лапамі, ляскаў на яго зубамі і матаў галавой так, што пляскалі вушы. Але ўрэшце гэта яму зноў абрыдала; ён паспрабаваў-быў пагуляць з мухай, але гэта не здалося яму досыць цікавым; пасачыў за мурашкай, прыціскаючы нос да самай падлогі, але і тут хутка знудзіўся, пазяхнуў, уздыхнуў і – зусім забыўшыся на жука – усеўся на яго…

Што тут адбылося! Пудэль дзіка заскавытаў і пачаў кідацца па царкве; перад самым алтаром перабег на другі бок, стралой панёсся да дзвярэй, ад дзвярэй – назад, не спыняючы брахаць і

скуголіць, бо жук уеўся яму ў жывот і не разнімаў свае сківіцы; чым больш сабака кідаўся, тым мацней быў боль, і нарэшце пудэль ператварыўся ў нейкую лахматую камету, якая круцілася па сваёй арбіце з неймавернай хуткасцю. Скончылася тым, што ашалелы пудэль кінуўся ўбок і ўскочыў на калены свайму гаспадару, а той выкінуў яго праз акно.

Усе сядзелі чырвоныя, ледзь стрымліваючыся, каб не зарагатаць голасна. Нават прапаведнік збіўся з панталыку і хаця зараз-жа аднавіў сваю прамову, але цяпер гаварыў ужо няґладка, запінаючыся, адчуваючы, што ўсёроўна шансы на поспех страчаны, бо нават на самыя сур'ёзныя яго фразы слухачы, хаваючыся за спінкамі лавак, адгукаліся толькі прыдушанымі выгукамі самай паганай вясёласці, нібы прапаведнік сказаў нешта надзвычайна забаўнае.

Усе ўздыхнулі з палягчэннем, калі гэтая пакута скончылася, і пастар сказаў «аман».

Том Соўэр ішоў дадому вясёлы, кажучы сабе, што і царкоўная служба часам можа быць не надта ўжо нуднай, калі толькі ўнесці ў яе некаторую рознастайнасць. Адно толькі псавала яго радасць: ён нічога не меў супроць таго, каб пудэль пагуляў з яго жуком,– але навошта-ж было зусім забіраць яго? Гэта ўжо нядобрасумленна.

## Раздзел V

У панядзелак Том Соўэр прачнуўся зусім няшчасным. З ім заўсёды так было па панядзелках, бо гэтым днём пачынаўся тыдзень новых пакут у школе. Ён нават шкадаваў, што ўчора было свята, бо пасля волі зварот у няволю быў яшчэ цяжэйшым.

Том ляжаў і думаў. Раптам ён адчуў, што хоча захварэць, каб застацца дома і не хадзіць у школу. Сапраўды, ці нельга на што-небудзь захварэць? Ён даследваў сябе,– нідзе не баліць. Памацаў сябе яшчэ раз. На гэты раз яму здалося, нібы ў яго пачынае калоць у жываце, і ён узрадаваўся, спадзяючыся, што боль узмацніцца. Але боль, наадварот, пачаў сцішацца і паступова зусім знік.

Том зноў пачаў меркаваць і раптам успомніў, што ў яго хістаецца зуб. Гэта было вельмі дарэчы; ён ужо збіраўся «завыць як сабака», але раптам яму прышло ў галаву, што калі ён скажа пра зуб, то цётка возьме ды і вырве яму зуб,– а гэта балюча. Таму ён парашыў, што зуб лепш пакінуць на запас і пашукаць чаго-небудзь іншага.

Некаторы час нічога не знаходзілася. Потым ён успомніў, як доктар расказваў пра адну хваробу, якая палажыла хворага ў ложак на тры тыдні ды яшчэ пагражала стратай пальца. Хлопчык

паспешна выцягнуў з-пад коўдры вялікі палец і пачаў яго аглядаць. Але ён не ведаў, якія адзнакі гэтай хваробы. У кожным разе паспрабаваць варта было-б, і ён пачаў енчыць.

Але Сід спаў.

Том застагнаў яшчэ больш, і яму здалося, што палец у яго сапраўды баліць.

Сід не адгукаўся.

Том нават запыхаўся ад намаганняў. Ён адпачыў крыху, набраў паветра ў лёгкія і выпусціў некалькі дасканалых енкаў.

Сід толькі хроп.

Гэта злавала Тома. Ён паклікаў: «Сід! Сід!» і тузануў брата за плячо. Гэта падзейнічала, і Том зноў застагнаў. Сід пазяхнуў, пацягнуўся, прыпадняўся на лакцю, засоп і ўтаропіўся на Тома. Той усё енчыў. Сід гукнуў яго:

– Том! Слухай, Том!

Адказу не было.

– Ты чуеш, Том? Том, што з табой?

І Сід у сваю чаргу тузануў брата. трывожна ўглядаючыся яму ў твар.

Том жаласна прастагнаў:

– Пакінь, Сід, не чапай мяне!

– Ды што з табой, Том? Я паклікаю цёцю.

– Не, не трэба. Можа гэта пройдзе. Нікога не клікай. Не трэба.

– Ну вось яшчэ! Вядома, паклікаю. Ды не стагні ты так! Гэта-ж жах! Даўно гэта з табой?

– Некалькі гадзін. Ой! Калі ласка, не торгай мяне, Сід! Ты мяне заморыш.

– Чаму-ж ты раней не разбудзіў мяне? Том, браток, не стагні так: мяне аж мароз дзярэ па скуры. Што ў цябе баліць?

– Я ўсё табе дарую, Сід! (Стогн.) Усё, што ты зрабіў мне дрэннага. Калі мяне не будзе…

– О, Том, няўжо-ж ты паміраеш? Том, родненькі, не памірай! Не трэба. Можа…

– Я ўсім дарую, Сід! (Стогн.) Скажы ім гэта. Я маю рамку ад акна і аднавокае кацянё аддай той дзяўчынцы, што нядаўна прыехала, і скажы ёй…

Але Сід схапіў сваё адзенне і знік. Том так старанна ўяўляў сябе хворым, што сапраўды ўжо хварэў, і стогн яго быў зусім натуральны.

Сід імчаўся ўніз па лесвіцы і крычаў:

– Цёця Поллі, ідзіце хутчэй! Том памірае!

– Памірае?

– Але! Чаго-ж вы чакаеце? Ідзіце хутчэй!

– Глупства! Не веру!

Але тым не менш яна ўжо бегла нагару, а Сід і Мэры за ёй. І твар у яе зрабіўся зусім бледны, і губы дрыжэлі. Падбегшы да пасцелі Тома, яна ледзь магла прамовіць:

– Том, любы, што з табой?

– Ох, цёця, я...

– Што з табой, дзіця маё?

– Ох, цёця, у мяне антонаў агонь у пальцы.

Старая ўпала на крэсла і засмяялася, потым заплакала, потым зноў засмяялася і заплакала.

Ад гэтага ёй палягчэла, і яна сказала:

– Ну і напалохаў-жа ж ты мяне! А цяпер досыць: кінь гэтыя глупствы і ўставай!

Стогны спыніліся, і палец адразу-ж перастаў балець. Хлопчык, крыху засаромлены, паясніў:

– Цёця Поллі, мне здавалася, што ён зусім здрантвеў. І ён так балеў, што я нават забыўся на зуб.

– Бач, якая справа! А што ў цябе з зубам?

– Адзін зуб хістаецца і страшэнна баліць, аж цярпець нельга.

– Ну, годзе, годзе, а то зноў пачнеш стагнаць. Адчыні рот! Так, зуб сапраўды хістаецца, але з гэтага не паміраюць. Мэры, прынясі мне шаўкавінку і галавешку з кухні!

– Цётачка, не трэба,– ён ужо не баліць! Я не буду стагнаць, нават калі ён і зноў забаліць. Я і выгляду не падам. Калі ласка, цёця, не трэба! Я не хачу сядзець дома, я хачу ісці ў школу.

– А-а, дык вось яно што! Ты ўсю гэтую гісторыю выдумаў толькі для таго, каб не ісці ў школу, а замест таго ісці вудзіць рыбу? Ах, Том, Том, я так цябе люблю, а ты нібы наўмысля робіш мне розныя брыдоты, псуеш маё старое сэрца.

Тымчасам прынеслі прылады для зубадрання. Цёця Поллі зрабіла пятлю на канцы шаўкавінкі, надзела яе на хворы зуб і моцна сцягнула, а другі канец прывязала да ложка; потым схапіла палаючую галаўню і сунула яе ў твар хлопчыку. Міг – і зуб павіснуў на нітцы ля ложка.

Але ўсе пакуты так або іначай узнагароджваюцца. Калі Том, паснедаўшы, з’явіўся ў школу, усе таварышы зайздросцілі яму, бо пустата, якая стварылася ў верхнім радзе яго зубоў, дазваляла яму пляваць зусім новым і незвычайным спосабам. За ім хадзіла цэлая чарада дзетвары, зацікаўленая такой з’явай: адзін хлопчык, які парэзаў сабе палец і да гэтага часу карыстаўся агульнай увагай і пашанай,– цяпер адразу страціў усіх сваіх прыхільнікаў, і слава яго змеркла. Ён быў вельмі пакрыўджаны і з няшчырай пагардай абвясціў, што нічога не варта так плявацца, як Том Соўэр; але другі хлопчык адказаў на гэта: «а ну, паспрабуй!» – і той адышоў,

як развенчаны герой.

Неўзабаве пасля таго Том сустрэўся з Гекльберы Фінам, сынам усім вядомага ў горадзе п'яніцы. Усе мамы ў горадзе шчыра ненавідзелі Гекльберы і разам з тым баяліся яго, бо ён быў гультай, брыдкі, невыхаваны і не прызнаваў ніякіх законаў. Том, як і іншыя хлопчыкі з «прыстойных» дамоў, зайздросціў адрынутаму Гекльберы, які мог увесь дзень нічога не рабіць. Тому таксама было сурова забаронена гуляць з гэтым абадранцам, але акурат таму ён і карыстаўся кожным выпадкам, каб пагуляць з ім.

Гекльберы апранаўся ў неданоскі з плеч дарослых людзей; вопратка яго ва ўсе пары году квітнела рознакаляровымі плямамі і вісела лахманамі. Капялюш яго быў зусім разбураны: ад яго (палёў звешваўся ўніз вялікі кавалак у выглядзе поўмесяца. Куртка на ім даходзіла яму да пят, і заднія гузікі размясціліся куды ніжэй спіны. Штаны трымаліся нямаведама як і спускаліся ззаду вялізным пустым мехам, а ў нізе валакліся па зямлі памялом. Гекльберы быў вольнай птушкай, бадзяўся, дзе хацеў, у добрае надвор'е начаваў дзе-небудзь ля чужога ганка, а ў дрэннае,– у пустых бочках. Яго не прымушалі хадзіць у школу і ў царкву, яму не было каго слухацца, над ім не было гаспадара.

Ён мог вудзіць рыбу ці купацца, калі і дзе хацеў, і сядзець у вадзе, колькі ўлезе. Ніхто не забараняў яму біцца. Клаўся спаць ён, калі хацеў, хоць сярод ночы. Увесну ён першы з усіх хлопчыкаў пачынаў хадзіць босы і ўвосень апошні надзяваў скураныя боты. Яму не трэба было ні мыцца, ні надзяваць чыстае адзенне, і лаяўся ён дасканала. Словам, гэты хлопчык меў усё тое, што надае вартасць жыццю. Так думалі ўсе затузаныя, скаваныя «добрым выхаваннем» хлопчыкі з «прыстойных дамоў» ў Пітэрсборо.

Том гукнуў мілага валацугу:

– Эй, Гекльберы! Хадзі сюды!

– Сам ідзі, калі хочаш!

– Што гэта ў цябе?

– Здохлы кот.

– Дай, братка, паглядзець! Бач ты, зусім здрантвеў. Дзе ты яго здабыў?

– Купіў у аднаго хлопчыка.

– Што даў?

– Сіні білецік і бычыны пузыр, які дастаў на бойні.

– А дзе ты ўзяў сіні білецік?

– Купіў у Бэна Роджэрса два тыдні назад за пугу.

– Слухай, Гек, а на што можа спатрэбіцца мёртвы кот?

– На што патрэбны? А барадаўкі знішчаць.

– Ну? Няўжо? Я ведаю спосаб лепшы.

– Давай спрачацца, што не. Якое?

– Гнілая вада.

– Гнілая вада! Нікуды яна не варта, твая гнілая вада.

– Не варта?! А ты калі-небудзь прабаваў знішчаць ёю бародаўкі?

– Не, не прабаваў. А Боб Танер прабаваў.

– Адкуль ты гэта ведаеш?

– Ён казаў Джэфу Тэчэру, а Джэф – Джонні Бэкеру, а Джонні – Джыму Холмсу, а Джым – Бэну Роджэрсу, а Бэн – аднаму негру, а негр – мне. Вось і ведаю.

– Ну, дык што з таго? Усе яны хлусяць. Прынамсі ўсе, апрача негра, бо я яго не ведаю. Але я яшчэ не бачыў негра, які-б не маніў. Глупства!.. Цяпер ты мне скажы, як знішчаў бародаўкі Боб Танер?

– Ды так, узяў ды абмакнуў руку ў дажджавую ваду, што набралася ў гнілым дупле.

– Сярод белага дня?

– Вядома.

– Стаяць тварам да пня?

– Але. Прынамсі, так я памятаю.

– Гаварыў ён што-небудзь пры гэтым?

– А гэтага ўжо не ведаю.

– Ага! Як будзеш знішчаць бародаўкі гнілой вадой, калі не ведаеш, як прыступіцца да справы! З такога глупства, вядома, нічога не выйдзе. Трэба пайсці аднаму ў самую пушчу, зазначыць мясцінку, дзе ёсць такі пень з дажджавой вадой, і роўна а поўначы, стаўшы спіной да пня, апусціць руку ў ваду, прыгаварваючы:

Ячмень-зерне, ячмень-зерне, рассыпся мукою,
Гніль-вада, гніль-вада, вазьмі мае бародаўкі!

«А потым трэба хуценька адыйсці на адзінаццаць крокаў, заплюшчыўшы вочы, і пасля таго тры разы павярнуцца на месцы і па дарозе дадому ні з кім не гаварыць. Калі ты скажаш хоць адно слова, усе чары прападуць».

– Так, яно падобна на праўду, толькі Боб Танер рабіў не так.

– Ды ўжо-ж пэўна не так! Ён з усіх рэбят у горадзе самы барадаўчаты. Ну, а як іх знішчаць здохлымі катамі?

– А вось як. Вазьмі ката і ідзі з ім на могілкі, каля поўначы, на такое месца, дзе пахаваны які-небудзь злы чалавек, і вось у поўнач з’явіцца чорт, а можа – і два, і тры; але ты іх не ўбачыш, толькі пачуеш, нібы вецер зашуміць, а можа і пачуеш, як яны будуць размаўляць паміж сабой. І калі яны павалакуць мерцвяка, ты кінь ім услед ката і скажы: «Чорт за мерцвяком, кот за чортам, бародаўкі за катом,– тут і справе канец, а мне вось больш не трэба!» Ад гэтага кожная бародаўка знікне.

– Выходзіць, што так. Ты калі-небудзь прабаваў, Гек?

– Не, мне старая цётка Гопкінс казала.

– Ну, калі так, значыцца, праўда: кажуць, яна вядзьмарка.

– Кажуць! Ды я напэўна ведаю, што яна чараўніца. Яна бацьку сапсавала. Бацька сам казаў. Раз ён ідзе і бачыць, што яна на яго «напушчае». Ён узяў камень ды і кінуў у яе, яна ўхілілася. І што-ж ты думаеш: у гэтую самую ноч ён скаціўся з павеці, дзе спаў п'яны, і зламаў сабе руку.

– Якія жахі! Але як-жа ж ён пазнаў, што яна на яго «напушчае»?

– Ну вось яшчэ! Бацька казаў, што пазнаць – плёвая рэч. Бацька кажа: калі які чалавек на цябе пільна глядзіць, ды яшчэ пры гэтым мармоча сам сабе,– абавязкова псоту напушчае. Таму, калі чараўнік мармоча сам сабе, гэта азначае – ён малітву чытае наадварот.

– Слухай, Гек, ты калі будзеш прабаваць з катом?

– Сёння ноччу. Я так думаю, чэрці абавязкова прыдуць па старога Вільямса.

– Ды яго-ж яшчэ ў суботу пахавалі, Гек. Яны, мусіць, ужо пацягнулі яго ў суботу ўначы.

– Ну, што ты гаворыш? Як-жа ж яны маглі пацягнуць яго перад поўначчу? А з поўначы ўжо падышла нядзеля. Я нешта не чуў, каб чэрці маглі вольна швэндацца па зямлі ў нядзелю.

– Гэта праўда. Я аб гэтым не падумаў. Возьмеш мяне з сабой?

– Вядома, калі ты не баішся.

– Баюся! Ну вось яшчэ! Ты мяўкнеш пад акном?

– Добра, і калі табе можна выйсці, ты сам мяўкні ў адказ. А то мінулы раз ты столькі пратрымаў мяне дарма. Ужо-ж я мяўкаў, мяўкаў, пакуль стары Гейс не пачаў кідаць у мяне каменнем, кажучы: «Чорт-бы пабраў гэтую кошку!» За гэта я пабіў яму акно цэглай,– толькі ты нікому не кажы.

– Добра, У тую ноч я не мог мяўкаць: цёця ўвесь час сачыла за мной. Але сёння я абавязкова мяўкну. Слухай, Гек, што гэта ў цябе?

– Ды нічога такога,– клешч.

– Дзе ты яго ўзяў?

– А ў лесе.

– Што возьмеш за яго?

– Не ведаю. Мне неахвотна яго прадаваць.

– Як хочаш. Ды і клешч малюсенькі.

– Ужо-ж! Чужое заўсёды стараюцца зганіць. А мне і такі клешч добры. Для мяне і гэтага досыць.

– Кляшчоў у лесе колькі хочаш. Я мог-бы набраць тысячу, каб захацеў.

– Зачым-жа ж справа стаіць? Чаму-ж ты не ідзеш у лес? Ага! сам ведаеш, што гэта табе не ўдалося-б. А я табе скажу, што гэты клешч вельмі ранні, першы, якога я знайшоў сёлета.

– Слухай, Гек, я табе дам за яго свой зуб.

– Дай паглядзець!

Том дастаў паперку і асцярожна разгарнуў яе. Гекльберы ўважліва агледзеў зуб. Спакуса была вялікая. Нарэшце ён спытаўся:

– Гэта сапраўдны?

Том падняў верхнюю губу і паказаў дзірку.

– Ну, добра,– па руках.

Том палажыў кляшча ў карабок ад пістонаў, які яшчэ нядаўна служыў турмой жуку, і хлопчыкі разышліся, кожны адчуваючы сябе багацейшым.

Дайшоўшы да маленькага дома, дзе змяшчалася школа, Том шпарка ўвайшоў з выглядам чалавека, які добрасумленна спяшаецца на лекцыі, павесіў шапку на цвік і з працавітай спешкай сеў на лаўку. Настаўнік сядзеў на высокім шчарбатым крэсле і спакойна драмаў пад ціхі гул галасоў. Прыход Тома разбудзіў яго.

– Томас Соўэр!

Том ведаў, што калі настаўнік называе яго поўным імем, дык добрага чакаць ад гэтага нельга.

– Сэр?

– Хадзі сюды! Ну, сэр, чаму вы сёння зноў спазніліся?

Тому лёгка было-б выкруціцца, зманіць, але ён збіўся з панталыку і, не падумаўшы, адказаў:

– Я спыніўся пагутарыць з Гекльберы Фінам.

У настаўніка аж дух захапіла; ён збянтэжана азіраўся навакол. Гудзенне сціхла. Школьнікі дзівіліся, ці не звар'яцеў гэты смяльчак. Настаўнік пачаў:

– Ты... ты што зрабіў?

– Я спыніўся пагутарыць з Гекльберы Фінам. Памыліцца ў сэнсе гэтых слоў было немагчыма.

– Том Соўэр, гэта самае незвычайнае прызнанне, якое я чуў на сваім вяку. За такую дзёрзкасць мала лінейкі. Здымай куртку!

Рука настаўніка працавала, пакуль не змарылася. Пук лазы зменшыўся значна. Потым быў загад:

– Цяпер ідзі і садзіся з дзяўчатамі! І хай гэта паслужыць табе навукай.

Хіхіканне, якое чулася ў класе, збянтэжыла хлопчыка, і ён сеў побач з той незнаёмай дзяўчынкай, перад якой ён столькі «фігураваў» у суботу. Дзяўчынка трасанула галоўкай і адсунулася ад яго. Том сядзеў ціха, абапёршыся на парту, і, здаецца, старанна чытаў. Праз некаторы час ён перастаў быць цэнтрам агульнай увагі, і клас

зноў напоўніўся звычайным школьным гудзеннем. Тады Том пачаў цішком пазіраць на суседку. Тая заўважыла гэта, скрывіла твар і на хвіліну павярнулася да яго спіной. Калі-ж яна асцярожна зноў павярнулася да яго тварам, перад ёю ляжаў персік. Дзяўчынка адштурхнула яго. Том зноў ціханька пасунуў. Яна зноў адсунула, але ўжо не так варожа. Том цярпліва палажыў персік зноў на месца,– і яна пакінула яго там. Том накрэмзаў на грыфельнай дошцы: «Калі ласка, вазьміце,– у мяне ёсць яшчэ». Дзяўчынка паглядзела на дошку, але нічога не адказала. Хлопчык зноў пачаў нешта крэмзаць, засланяючыся ад яе левай рукой. Дзяўчынка спачатку прыкідвалася, што не звяртае ўвагі, але потым прыродная чалавечая цікавасць пачала, відаць, прачынацца ў ёй. Хлопчык крэмзаў, нібы нічога не бачыў. Дзяўчынка паспрабавала зірнуць, што ён піша, але так, каб не вельмі сябе выдаць. Том зноў-жа не падаў знаку, што ён заўважыў яе цікавасць. Нарэшце яна не вытрымала і нерашуча шапнула:

– Дайце паглядзець!

Том паказаў частку досыць карыкатурнага рысунка дома з пакатым дахам і дымам, які высоўваўся з коміна, як пробачнік. Дзяўчынка паступова зацікавілася яго работай і забылася на ўсё ў свеце. Калі Том скончыў, яна доўга глядзела, а потым шапнула:

– Якое хараство! Цяпер нарысуйце чалавека.

Мастак паставіў на дварэ перад домам чалавека, падобнага на пад'ёмны кран, і такога высокага, што ён мог-бы пераступіць цераз дом. Але дзяўчынка не належала да суровых крытыкаў. Яна задаволілася вырадкам і прашаптала:

– Які прыгожы! Цяпер нарысуйце мяне побач з ім. Том нарысаваў пясочны гадзіннік, зверху прыладзіў да яго поўны месяц, дадаў саламяныя ручкі і ножкі і ў растапыраныя пальцы ўлажыў вялізны веер. Дзяўчынка сказала:

– І гэта таксама прыгожа. Хацела-б я ўмець рысаваць.

– Гэта не цяжка,– шапнуў Том. – Я вас навучу.

– Ну, праўда? Калі?

– На вялікім перапынку. Вы пойдзеце дадому абедаць?

– Магчыма, не пайду.

– Добра. Як вас завуць?

– Бэкі Тэчэр. А вас? Але-ж я ведаю,– Томас Соўэр.

– Мяне называюць так перад тым, як караць. Калі-ж я добра трымаю сябе, мяне клічуць проста Том. Вы будзеце мяне зваць Том, так?

– Так.

Том зноў пачаў нешта пісаць на дошцы, хаваючы ад дзяўчынкі напісанае. Але цяпер ужо яна не адсоўвалася, а прасіла паказаць. Том адмаўляўся:

– Там нічога няма.
– Не, ёсць!
– Не, няма. Ды вам і глядзець зусім не хочацца.
– Не, хочацца, сапраўды хочацца. Калі ласка, пакажыце!
– Вы каму-небудзь скажаце.
– Не скажу, чэснае слова, не скажу!
– Нікому, ні адной жывой душы? Пакуль жывыя?
– Нікому не скажу. Пакажыце-ж!
– Ды вам-жа ж зусім і не хочацца...
– Калі вы такі ўпарты, Том, я ўсёроўна ўбачу.

І яна палажыла сваю маленькую ручку на яго руку. Пачалася лёгкая барацьба. Том рабіў выгляд, нібы сур'ёзна ўпінаецца, але пакрыху адсоўваў сваю руку, і нарэшце адкрыліся словы: «Я вас кахаю!»

– Ах, які вы брыдкі! – і дзяўчынка досыць балюча ўдарыла яго па руцэ, але пачырванела не без прыемнасці.

У гэты самы момант Том адчуў, што караючая рука моцна ўхапіла яго за вуха і прыпадымае з лаўкі. Такім чынам яго павялі праз увесь клас, на другі бок, і пасадзілі на яго ўласнае месца, пры агульных насмешках вучняў. Некалькі жудасных хвілін стаяў настаўнік над ім, не кажучы ні слова, потым таксама моўчкі пайшоў да свайго трона.

Калі школа супакоілася, Том добрасумленна хацеў прымусіць сябе займацца, але для гэтага ён быў надта ўсхваляваны. У часе чытання ён блытаў словы, на геаграфіі ператвараў азёры ў горы, горы ў рэкі, а рэкі ў астравы, так што выходзіў першабытны хаос, які быў перад стварэннем свету. У дыктоўцы ён нарабіў безліч памылак у самых простых словах,– адным словам, спусціўся да апошняга вучня і вымушан быў уступіць другому бляшаную мядальку, якую ён з гонарам насіў некалькі месяцаў.

## Раздзел VI

Чым больш Том стараўся прыкаваць сваю ўвагу да кнігі, тым больш раскідваліся яго думкі, так што нарэшце, уздыхнуўшы і зяхнуўшы, ён перастаў старацца. Яму здавалася, што вялікі перапынак ніколі не прыдзе. У паветры стаяла мёртвая ціша – ні гуку, ні дыхання. З усіх снатворных дзён гэты быў самы снатворны. Усыпляючае мармытанне дваццаці пяці школьнікаў, паўтараючых заданне, баюкала душу, як чароўнае гудзенне пчол.

Том усім сэрцам прагнуў вырвацца на волю, або хоць знайсці што-небудзь цікавае, каб запоўніць час, які цягнуўся так нудна. Ён сунуў руку ў кішэню, і твар яго раптам асвятліўся радасцю. Ён цішком выцягнуў з кішэні карабок, вынуў кляшча і палажыў яго

на даўгую плоскую парту. Клешч у гэты момант пэўна адчуў удзячнасць, але не надоўга: бо як толькі ён задумаў уцячы, Том булаўкай павярнуў яго назад.

Побач з Томам сядзеў яго сардэчны прыяцель, які нудзіўся не менш за яго. Ён вельмі ўзрадваўся такой забаве і адразу зацікавіўся ёю. Сардэчнага прыяцеля звалі Джо Гарпер. Хлопчыкі ўвесь тыдзень былі неразлучныя, а ў святы ваявалі адзін супроць аднаго на чале двух варожых армій. Джо таксама выцягнуў з курткі булаўку і пачаў памагаць прыяцелю ганяць кляшча. Абодва чым далей, тым больш захапляліся гэтым заняткам. Нарэшце Том абвясціў, што яны толькі перашкаджаюць адзін аднаму і ніводзін не атрымоўвае поўнага задавальнення. Ён палажыў на парту грыфельную дошку таварыша і правёў пасярэдзіне лінію зверху данізу.

– Угавор такі: пакуль клешч будзе на тваім баку, ты можаш ганяць яго куды хочаш, а я ўжо не буду чапаць яго, але-ж, калі ты яго ўпусціш і ён уцячэ да мяне, тады ўжо ты яго не чапай, пакуль ён зноў не пяройдзе на твой бок. Згодзен?

– Добра. Давай пачынаць!

Клешч вельмі хутка ўцёк ад Тома і перайшоў экватар. Джо доўга важдаўся з ім, а потым клешч і ад яго ўцёк, вярнуўся назад. Гэтыя пераходы паўтараліся некалькі разоў. Пакуль адзін хлопчык ганяў кляшча, цалкам захоплены гэтым цікавым заняткам, другі з не меншай цікавасцю, сачыў за ім. Абодва схілілі галовы над дошкай і забыліся на ўвесь свет.

Нарэшце шчасце, відаць, назусім перайшло на бок Джо. Клешч, узбуджаны і ўсхваляваны не менш за саміх хлопчыкаў, кідаўся туды і сюды, але кожны раз, як толькі ён збіраўся перайсці да Тома і ў таго свярбелі рукі, каб пачынаць, Джо булаўкай спрытна заварочваў кляшча ў другі бок і пакідаў яго за сабой. Том нарэшце не вытрымаў: надта ўжо вялікая была спакуса. Ён працягнуў руку і сваёй булаўкай загарадзіў дарогу кляшчу. Джо ўскочыў, як ашпараны:

– Том, не чапай!

– Я хачу толькі крыху падагнаць яго, Джо!

– Гэта нячэсна, сэр! Пакінь яго ў спакоі!

– Ды ну цябе,– я-ж трошкі.

– Пакіньце кляшча ў спакоі, гавораць вам!

– Не жадаю.

– Ты не маеш права чапаць: ён на маім баку.

– А клешч чый?

– Мне ўсёроўна, чый ён,– ён на маім баку, і ты не маеш права яго чапаць!

– Што? Не маю права!? Клешч мой, і я магу рабіць з ім, што

захачу!

У гэты момант Том атрымаў здаравенны ўдар па спіне; другі такі-ж удар трапіў у плячо Джо, а потым на працягу двух мінут настаўнік з вялікай стараннасцю выбіваў пыл з куртак, а школа ўся рагатала. Хлопчыкі былі так захоплены сваёй гульнёй, што не заўважылі, як перад гэтым у класе раптам зрабілася ціха. Справа ў тым, што настаўнік падкраўся да іх ціха, на пальцах і досыць доўга стаяў ззаду, сочачы за гульнёй, а потым ужо дадаў ёй і з свайго боку больш рознастайнасці.

Калі нарэшце прышло дванаццаць гадзін і настаў вялікі перапынак, Том вышаў са школы з адной групай школьнікаў, Бэкі – з другой. Праз некаторы час яны сустрэліся на лужку і вярнуліся разам у пустую школу. Яны селі блізенька адзін ля аднаго і палажылі перад сабой грыфельную дошку. Том даў Бэкі грыфель і ейнаю рукою нарысаваў другі дом, дзівоснай архітэктуры. Калі цікавасць да мастацтва прайшла, яны сталі проста балакаць адзін з адным.

Том пытаўся:

– Ты любіш пацукоў?

– Фу! я іх цярпець не магу.

– Яно так,– жывых і я не люблю. Але я кажу пра здохлых; ім можна завязаць вяроўку на шыю і круціць вакол галавы.

– Не, пацукоў я наогул не люблю. А вось што я люблю,– жаваць разінку.

– І я таксама. Шкода толькі, што яе ў мяне няма.

– У такім разе ў мяне крыху ёсць. Я дам табе пажаваць, толькі ты мне потым аддай назад.

Гэта было прыемна, і яны пачалі жаваць па чарзе, матаючы нагамі ад празмернай прыемнасці.

– Ты была калі-небудзь у цырку?

– Была, і тата абяцаў яшчэ раз павесці мяне, калі я буду добрая.

– Я быў у цырку тры-чатыры, многа разоў! Там заўсёды прадстаўляюць што-небудзь новае. Я, калі вырасту, паступлю клоунам у цырк.

– Праўда? Вось добра! Яны ўсе такія прыгожанькія, стракаценькія!

– Але, але, і пры гэтым кучу грошай заграбаюць… Бэн казаў, па далару ў дзень. Слухай, Бэкі, ці была ты калі-небудзь заручаная?

– Што гэта значыць?

– Ну, заручаная, каб выйсці замуж?

– Не.

– А хацела-б?

– Не ведаю. У якім гэта выглядзе?

– У якім выглядзе? Ды ні ў якім. Ты проста гаворыш хлопчыку, што ніколі ні за каго не пойдзеш, апрача яго,– разумееш, ніколі! – потым цалуеш яго, вось і ўсё. Гэта кожны можа зрабіць!

– Цалаваць? Навошта-ж цалаваць?

– Ну, затым, каб... ды таму, што звычай такі... Усе гэта робяць.

– Усе?

– Ну але, усе закаханыя. Ты памятаеш, што я напісаў на дошцы?

– Памятаю.

– Што-ж?

– Не скажу.

– Тады можа мне сказаць?

– Так, скажы... але толькі калі-небудзь у другі раз.

– Не, цяпер.

– Не, не трэба – лепш заўтра.

– Не, не, цяпер, Бэкі. Я ціханька, я шапну табе на вушка.

Бэкі не ведала, што сказаць, а Том палічыў яе маўчанне за згоду, прылажыў губы да самага яе вуха і паўтарыў гэтыя словы. Потым сказаў:

– Цяпер ты мне шапні тое-ж самае.

Яна доўга адмаўлялася, потым папрасіла:

– Адвярніся, каб не бачыць мяне,– тады скажу. Толькі ты нікому не расказвай,– чуеш, Том? – нікому, нікому! Добра?

– Не, не, я нікому не скажу, будзь спакойная. Ну, Бэкі!

Ён адвярнуў твар, і яна саромліва прашаптала:

– Я... вас... кахаю!

Потым ускочыла і пачала бегаць вакол парт, ратуючыся ад Тома, які ганяўся за ёй; потым зашылася ў кут і закрыла твар белым фартухом.

– Ну, Бэкі,– абвясціў Том,– цяпер усё ўжо скончана,– засталося толькі пацалавацца.

І ён цягнуў яе за фартух і за рукі.

Трохі-па-трохі яна здалася і апусціла рукі, а Том пацалаваў яе проста ў губы, кажучы:

– Ну, вось і ўсё, Бэкі. Цяпер ты ўжо нікога не павінна любіць, апрача мяне, і ні за кога, апрача мяне, не выходзіць замуж, ніколі, ніколі і навекі вякоў. Ты абяцаеш?

– Так, я нікога не буду любіць, Том, апрача цябе, і ні за кога другога не пайду замуж. І ты глядзі, ні з кім не жаніся, апрача мяне.

– Ды ўжо-ж, вядома,– такі ўгавор. І калі пойдзеш у школу ці са школы, ідзі са мной,– калі нікога з старэйшых не будзе блізка,– і ў гульні выбірай мяне, а я буду цябе выбіраць. Так заўсёды робяць

заручаныя.

– Я ніколі не чула пра гэта. Гэта вельмі міла!

– Гэта надзвычайна весела! Мы з Эмі Лорэнс…

Шырока расчыненыя ясныя вочкі сказалі Тому, што ён даў маху, і ён спыніўся збянтэжаны.

– Том! Дык я ўжо не першая, з якой ты быў заручаны?

Дзяўчынка заплакала.

– Не плач, Бэкі. Я не кахаю яе больш.

– Не, кахаеш! Ах, Том, ты сам ведаеш, што кахаеш.

Том хацеў-быў абняць яе, але яна адштурхнула яго, павярнулася тварам да сцяны і зноў заплакала. Том пачаў суцяшаць яе, называючы ласкавымі імёнамі, зноў паспрабаваў абняць, але яна зноў адштурхнула яго. Тады ў ім абудзіўся гонар. Ён пакрыўдзіўся і вышаў.

На вуліцы ён пастаяў крыху, усхвалявана пераступаючы з нагі на нагу і пазіраючы на дзверы з надзеяй, што Бэкі раздумаецца і прыдзе за ім. Але яна не прыходзіла. Тому зрабілася ніякавата: а што, калі ён адзін вінаваты? Яму было вельмі цяжка прымусіць сябе зрабіць першы крок да прымірэння, але ён пабароў гонар і вярнуўся.

Бэкі ўсё стаяла ў куце і плакала, прыціскаючыся тварам да сцяны. У Тома ёкнула серца. Ён падышоў да яе, пастаяў крыху і, не ведаючы з чаго пачаць, выцягнуў галоўную сваю каштоўнасць – медны шарык ад пакрыўкі для жароўні – і, паводзячы ім перад яе вачыма, сказаў:

– Прашу цябе, Бэкі, не плач. Ну, хочаш, я табе падарую гэта!

Яна адштурхнула яго руку. Шарык паляцеў на падлогу.

Тады Том зноў пайшоў на вуліцу і парашыў пайсці далёка за ўзвышшы, каб у гэты дзень больш ужо не вяртацца ў школу. Бэкі раптам западозрыла нешта нядобрае. Яна пабегла да дзвярэй – Тома не было відаць. Яна абегла вакол дома, спадзяючыся знайсці яго на лужку для гульняў, але яго і там не было. Тады яна стала клікаць:

– Том! Том, вярніся!

Яна напружана прыслухалася, але водгуку не было. Вакол усё было ціха і пустынна. Яна села і зноў расплакалася; сумленне мучыла яе. Тымчасам пачалі збірацца школьнікі; трэба было затоіць сваё гора і спакойна сядзець на працягу доўгіх, нудных лекцый. У яе не было прыяцеляў сярод чужых дзяцей, ёй не было з кім падзяліць свой смутак.

## Раздзел VII

Том ішоў па полі зігзагамі, заварочваючы то направа, то налева, пакуль не пакінуў далёка за сабой тую дарогу, па якой звычайна вярталіся дадому школьнікі. Праз поўгадзіны ён быў ужо каля замка Дуглас на вяршыні ўзвышша, і будынак школы ледзь відаць быў унізе, у лагчыне.

Том паглыбіўся ў лес, вельмі густы, прабраўся без сцежак у самую пушчу і прысеў адпачыць пад шырокім дубам. Ён доўга сядзеў, паставіўшы локці на калены і абапёршыся падбародкам на рукі, сядзеў і думаў. Ён думаў пра тое, як добра ляжаць у магіле, спаць і вечна марыць, калі вецер шэпча ў лісцях дрэў, калыша траву і кветкі на магіле, і няма чаго сумаваць, няма аб чым гараваць ніколі, ніколі! Узяць хоць-бы гэтае дзяўчо... Ну што ён зрабіў ёй? Нічога. А яна прагнала яго, як сабаку – проста як сабаку. Калі-небудзь пашкадуе; можа тады, калі ўжо будзе позна. Ах, каб можна было памерці часова!

А што, калі ён зараз пойдзе, куды вочы глядзяць, таемна знікне для ўсіх? Што, калі ён пойдзе далёка-далёка, за мора, у невядомыя краі, з тым, каб ніколі ўжо не вяртацца? І як ёй тады будзе?..

Ён успомніў, як ён збіраўся зрабіцца клоунам, але цяпер гэтая думка была яму ўжо агіднай. Не, ён пойдзе ў салдаты і вернецца дадому праз многа гадоў, пакрыты ранамі і славай. Або, яшчэ лепш, пойдзе да індзейцаў, будзе паляваць з імі на буйвалаў, узбірацца па горных сцежках на непрыступныя кручы, бадзяцца па раўнінах далёкага Захаду, дзе няма ніякіх сцежак, і калі-небудзь вернецца дадому вялікім правадыром, увесь у пер'ях, размалёваны, страшны, і сунецца адразу ў нядзельную школу ў сонную летнюю раніцу з ваяўнічым клічам, ад якога кроў стыне ў жылах. Вось вылупяць вочы ўсе таварышы! Вось будуць яму зайздросціць!

Але не, ён ведае нешта лепшае. Ён будзе яшчэ піратам, морскім разбойнікам! Вось яно што. Цяпер ён ясна бачыў перад сабой сваю будучыню, асвятлёную неапісальнай славай. Яго слава будзе грымець па ўсім свеце; ад яго імя будуць дрыжаць народы! Як горда будзе ён насіцца па бурных морах, уздымаючы хвалі сваім даўгім чорным караблём – «Дух Буры», з чорным флагам на высокай мачце! І, дасягнуўшы вяршыні сваёй славы, ён раптам з'явіцца ў родным гарадку, у царкве, увесь чорны, загарэлы, засівераны, у чорнай аксамітнай камізэльцы і такіх самых штанах, у высокіх батфортах, з чырвонай перавязкай цераз плячо; за поясам пісталеты, нож, заржавелы ад пралітай крыві, на галаве мяккі капялюш з пышнымі пер'ямі, у руцэ чорны флаг, а па ім вышыты чэрап і скрыжаваныя косці. І ўсе ў захапленні будуць шаптаць: «Гэта Том Соўэр, пірат, чорны мсцівец іспанскіх мораў!»

Так, гэта вырашана! Шлях яго выбраны. Ён заўтра-ж уцячэ з дому. А каб быць гатовым да раніцы, трэба пачаць зборы зараз-жа. Паглядзім, што ў яго ёсць.

Недалёка быў гнілы пень. Том падышоў да яго і пачаў капаць каля яго сваім ножыкам. Хутка па гуку ён распазнаў пустату. Ён засунуў туды руку і ўрачыста прамовіў заклінанне:

– Чаго яшчэ тут няма, з'явіся! Што ёсць, застанься!

Том вынуў са схову чыстую сасновую скрыначку. Там ляжала мармуровая галачка. Том здзівіўся незвычайна. Ён з недаўменнем скроб патыліцу і мармытаў:

– Не, гэта немагчыма! Што-ж гэта такое?

Ён са злосцю кінуў галачку і пачаў разважаць. Справа ў тым, што яго ашукалі забабоны, якія ён і яго таварышы лічылі за абсалютную ісціну. Забабоны абвяшчалі, што калі закапаць галачку, сказаўшы над ёю пэўныя заклінанні, і на працягу двух тыдняў не чапаць яе, а потым адкапаць з тымі словамі, якія былі сказаны Томам, то замест адной галачкі вы знойдзеце ўсе, якія вы калі-небудзь згубілі, хоць-бы яны былі згублены і вельмі далёка адна ад адной. Але вопыт безумоўна не ўдаўся, і вера Тома была глыбока падарвана. Ён чуў многа разоў аб удалых спробах, але ніколі – пра няўдалыя. Ён забыўся, што і сам ён спрабаваў гэта не раз, але толькі потым ніколі не мог знайсці месца, дзе схаваў галачку. Ён доўга раздумваў і нарэшце парашыў, што тут не абышлося без якой-небудзь вядзьмаркі, якая, на зло яму, зняла замову.

Але яму хацелася канчаткова пераканацца ў гэтым; ён адшукаў чыстую пясчаную мясцінку з ямкай накшталт лейкі пасярэдзіне, прылажыў губы да гэтай ямкі і пачаў клікаць:

Бука, бука, ты прыдзі
І ўсю праўду раскажы.
Бука, бука, ты прыдзі
І ўсю праўду раскажы.

Пясок заварушыўся, паказаўся «бука» – маленькі чорны жук, і зараз-жа схаваўся спалоханы.

– Ён не хоча сказаць! Значыцца, гэта вядзьмарка зрабіла. Я так і ведаў.

Тому добра было вядома, што з вядзьмаркамі цягацца цяжка, і ён павесіў нос. Потым яму прышло ў галаву, што не дрэнна было-б знайсці тую галачку, якую ён кінуў; ён пачаў поўзаць па траве, але нічога не знайшоў. Ён вярнуўся да свайго таемніка і асцярожна паставіў скрыначку на месца, потым стаў акурат так, як ён стаяў, калі кінуў галачку, затым вынуў з кішэні другі кавалак мармуру і кінуў яго ў той-жа самы бок, кажучы:

– Брат, ідзі, знайдзі брата!

Ён заўважыў, куды ўпаў шарык, знайшоў яго і пачаў шукаць першы, але ўсёроўна знайсці не мог. Ён паспрабаваў яшчэ раз, другі, трэці, і нарэшце дасягнуў поспеху: абодва шарыкі ляжалі зусім блізка адзін ля аднаго.

У гэты момант у зялёным гушчары пачуўся слабы гук дзіцячай бляшанай трубы. Том зараз-жа скінуў з сябе куртку і штаны, падперазаўся шлейкамі, разгарнуй кучу галля за гнілым пнём, выцягнуў адтуль нязграбна зробленыя лук і стралу, драўляны меч, бляшаную трубу, мігам узброіўся і, босы, ў адной кашулі, паімчаўся насустрач ворагу.

Пад вялікім вязам ён спыніўся, пратрубіў сігнал у адказ, скамандаваў свайму неіснуючаму атраду: «Стой, рэбяты, хавайся, пакуль не затрублю!» – і пачаў чакаць, ваяўніча азіраючыся па баках. З'явіўся Джо Гарпер у такім-жа лёгкім адзенні і таксама ўзброены. Том гукнуў яго:

– Стой! Хто адважваецца хадзіць па Шэрвудскім лесе без майго дазволу?

– Г'ю Гісборн не мае патрэбы прасіць у каго-б там ні было дазволу! Хто ты, які…

– «Адважваецца так гаварыць са мной», – паспешна падказаў Том, бо яны гаварылі напамяць, «па кнізе».

– Хто ты, які адважваецца так гаварыць са мной?

– Хто я? Я – Робін Гуд [3], як зараз-жа пераканаецца ў гэтым твой паганы труп.

– Значыцца, гэта ты, славуты разбойнік? Я рады паспрачацца з табой аб тым, хто гаспадар у гэтым слаўным лесе. Выходзь!

Яны ўзяліся за свае драўляныя мячы, кінуўшы астатнюю зброю на зямлю, сталі ў баявую позу, нага да нагі, і вось пачаўся паядынак. Нарэшце Том сказаў:

– Ну, біцца, дык біцца! Паддай палу!

І яны так старанна «паддавалі палу», што хутка абодва запыхаліся і спацелі.

– Валіся-ж! – крыкнуў Том. – Чаму-ж ты не валішся?

– Не буду я валіцца! Сам валіся,– табе-ж яшчэ горш прыходзіцца.

– Ну, дык што з таго? Гэта нічога не знача. Я не магу валіцца. У кніжцы-ж не так,– там сказана: «І ён адным лоўкім ударам у спіну паваліў на зямлю беднага Г'ю Гісборна». Ты павінен даць мне мажлівасць ударыць цябе ў спіну.

Супроць такога аўтарытэту супярэчыць нельга было: Джо

---

[3] Робін Гуд быў славуты англійскі разбойнік, які рабаваў багатых і раздаваў іх дабро бедным.

павярнуўся, прыняў удар і ўпаў.

– Ну, а цяпер,– сказаў Джо, падымаючыся на ногі,– ты дай мне забіць цябе; гэта будзе сумленна.

– Але-ж гэтага нельга, гэтага ў кнізе няма.

– З твайго боку гэта нядобрасумленна!

– Ну, ціха, Джо,– ты-ж можаш быць манахам Тэукам і прыстукнуць мяне кіем па галаве. Або, хочаш, я буду шэрыф натынгемскі, а ты Робін Гуд, і ты заб’еш мяне.

Гэта спадабалася Гарперу, і гульня пачалася зноў. Потым Том зноў зрабіўся Робінам Гудам і зышоўся крывёю, дзякуючы здрадзе манашкі, якая даглядала яго рану; тады Джо, які прадстаўляў з сябе цэлы атрад плачучых разбойнікаў, з жалем адцягнуў яго прэч, улажыў у яго аслаблыя рукі лук, і Том сказаў: «Дзе ўпадзе гэтая страла, там пахавайце беднага Робіна Гуда, пад дрэвам у зялёным гаі». Потым ён пусціў стралу, адкінуўся назад і паваліўся-б мёртвым, каб не трапіў у крапіву, што прымусіла яго ўскочыць з неўласцівай нябожчыку жвавасцю.

Хлопчыкі адзеліся, схавалі ў зацішным месцы сваю зброю і разам пайшлі далей, шчыра шкадуючы, што цяпер няма разбойнікаў. Яны запэўнялі, што ахвотней згадзіліся-б быць год разбойнікамі ў Шэрвудскім лесе, як прэзідэнтам Злучаных Штатаў усё сваё жыццё.

## Раздзел VIII

У гэты вечар Том з Сідам, як заўсёды, а палове дзесятай пайшлі спаць. Сід хутка заснуў, але Том не спаў, нецярпліва чакаючы сігналу. Ён не знаходзіў сабе месца ад хвалявання, яму здавалася, што ўжо недалёка ад світання, але ў гэты момант ён пачуў, як гадзіннік прабіў дзесяць. Толькі дзесяць! Было ад чаго прыйсці ў роспач. Ён не мог нават круціцца і дрыгаць нагамі, як таго вымагалі яго ўзбуджаныя нервы, бо баяўся разбудзіць Сіда. Таму ён ціха ляжаў у цемры з адкрытымі вачыма.

Навокал была жахлівая ціша, але паступова з ёй ледзь значна пачалі вылучацца розныя гукі. Перш за ўсё – ціканне гадзінніка, потым таямнічае патрэскванне старых бэлек, слабае рыпанне ступенек лесвіцы. Відаць, у доме швэндалі духі. З пакоя цёці Полі даносіўся ціхі мірны храп.

Потым пачалося назольнае цвіркатанне цвіркуноў, якіх ніякія сілы чалавечыя не могуць выгнаць з жылых памяшканняў, і пачулася злавеснае «цік-цік» жука-гадзіншчыка ў сцяне, ля галавы Тома. Том здрыгануўся: гэта азначала, што нехта памрэ. Затым недзе далёка завыў сабака, і яшчэ далей у адказ яму – другі. Том перажываў цяжкія мінуты. Нарэшце ён пераканаўся, што час

скончыўся і пачалася вечнасць, і супроць сваёй волі пачаў драмаць. Гадзіннік прабіў адзінаццаць, але Том не чуў гэтага.

Раптам праз сон ён распазнаў смутнае мяўканне кошкі. Недзе блізка стукнула акно, пачуўся голас: «Пшла прэч, праклятая!», і аб сцяну са звонам бразнулася пустая бутэлька. Том ускочыў, як ашпараны, мігам адзеўся, вылез праз акно і папоўз па даху, разы са два ціха мяўкнуўшы ў адказ; потым пераскочыў на страху хлевушка і адтуль саскочыў на зямлю.

Гекльберы Фін чакаў яго з дохлым катом ў руках. Абодва хлопчыкі хутка зніклі ў цемры. Праз поўгадзіны яны ўжо прабіраліся па высокай траве могілак.

Могілкі былі даўнейшыя і, як раней рабіліся на Захадзе, знаходзіліся на ўзгорку, мілі за паўтары ад вёскі. Яны былі агарожаны старым дашчатым плотам, які то выгінаўся ў сярэдзіну, то ў процілеглы бок, але нідзе не стаяў прама. Усе могілкі зараслі пустазеллем, у якім танулі паасобныя магілы. На магілах не было ніводнага помніка; замест гэтага стаялі гнілыя дошкі, закругленыя ўверсе, выедзеныя чарвяком і гатовыя паваліцца на зямлю. На ўсіх дошках калісьці былі надпісы з імёнамі нябожчыкаў; але літары так сцерліся, што цяпер іх нельга было-б прачытаць і пры святле.

Вецер ціха і жалабна стагнаў у верхавінах дрэў, і хлопчыкам рабілася яшчэ больш страшна. Яны мала гаварылі між сабой і то толькі шэптам: час і месца, урачыстая цішыня і таемнасць наводзілі на іх жах. Яны знайшлі свежую магілу, якую шукалі, і сталі каля трох вялікіх вязаў, за два крокі ад магілы.

Так яны стаялі і чакалі, як ім здалося, вельмі доўга. Здалёк крычала сава, і гэта былі адзіныя гукі, якія парушалі мёртвую цішу. Думкі Тома так прыгняталі яго, што ён адчуў патрэбу пачаць гутарку.

– Як ты думаеш, Гек,– пачаў ён шэптам,– раззлуюцца нябожчыкі на нас, што мы прышлі сюды?

Гекльберы шапнуў у адказ:

– Хто іх ведае! А жудасна тут. Праўда?

– Ну, вядома!

Настала доўгае маўчанне. Абодва хлопчыкі думалі пра адно і тое самае. Потым Том шапнуў:

– Слухай, Гек, як ты думаеш, Вільямс чуе, што мы гаворым?

– Вядома, чуе. Прынамсі, душа яго чуе.

Зноў пауза.

– Шкада, што я назваў яго проста Вільямс, а не містэр Вільямс. Але-ж я не хацеў яго абразіць. Яго ўсе так называлі.

– Трэба быць больш асцярожным, Том, калі гаворыш пра нябожчыкаў.

Гэтая заўвага адбіла ў Тома ахвоту весці далейшую гутарку.

Але раптам ён схапіў таварыша за руку.

– Тсс!

– Што там такое?

І абодва, моцна прыціснуўшыся адзін да аднаго, чакалі што будзе.

– Тсс! вось зноў! Ты чуеш?

– Я…

– Ага! цяпер і ты пачуў.

– Том, яны ідуць! Гэта яны! Што нам рабіць?

– Не ведаю. Ты думаеш, яны нас убачаць?

– Ох, Том, яны-ж у цемры бачаць, як кошкі! І навошта толькі я пайшоў!..

– Ды ты не бойся… Я думаю, яны нас не крануць. – Мы-ж нічога дрэннага не робім. Калі мы стоімся, можа яны нас і зусім не заўважаць.

– Паспрабуем. Але-ж толькі ой як страшна! Я ўвесь дрыжу.

– Тсс! слухай!

Хлопчыкі, ледзь дыхаючы, шчыльней прыціснуліся адзін да аднаго. З другога канца могілак данасіліся прыглушаныя галасы.

– Глядзі! Ты бачыш? – шапнуў Том.

– Што гэта, Том? Гэта пякельны агонь! Ах, Том, як страшна!

З цемры высунуліся нейкія цмяныя фігуры. Перад імі калыхаўся стары бляшаны ліхтар, рассыпаючы па зямлі безліч іскраў святла.

– Гэта, напэўна, чэрці!–трасучыся шапнуў Гекльберы. – Аж тры! Прапала мая галава!

– Ды ты не бойся – яны нас не крануць.

– Тсс!

– Што такое, Гек?

– Гэта людзі! Прынамсі, адзін з іх. Гэта стары Меф Потэр. Я пазнаў яго голас.

– Ну? Не можа быць!

– Далібог, пазнаў. Ты стаіся, не дыхай. Ён нас не ўбачыць, – дзе яму! Стары пэўна п’яны, як заўсёды.

– Добра, стаюся. Вось яны ўсталі. Відаць, шукаюць нешта. Вось зноў ідуць сюды. Бач, як бягуць. Во як пруць! Ну, пэўна сюды! Слухай, Гек, я і другі голас пазнаў – гэта індзеец Джо!

– Ну, вядома, пракляты метыс! Лепш ужо тады гэта былі-б чэрці. І што ім тут трэба?

Але тут хлопчыкі і шаптацца перасталі, бо ўсе гэтыя тры фігуры дайшлі да магілы і спыніліся недалёка ад таго месца, дзе схаваліся нашы героі.

– Тут! – сказаў трэці і падняў ліхтар так, што асвятліў сабе твар. Хлопчыкі пазналі маладога доктара Рабінзона.

Потэр і індзеец Джо неслі насілкі, на іх ляжала вяроўка і дзве рыдлёўкі. Яны палажылі на зямлю насілкі і пачалі раскапваць магілу.

Доктар паставіў ліхтар на беразе магілы, а сам сеў на зямлю, прысланіўшыся спіною да аднаго з вязаў.

Ён быў так блізка, што хлопчыкі маглі дакрануцца да яго.

– Хутчэй, браткі! – казаў ён ціха. – Кожную хвіліну можа ўзыйсці месяц.

Яны нешта буркнулі ў адказ і дружна ўзяліся за рыдлёўкі. Некаторы час нічога не было чуваць, апрача шурхання зямлі. Гук гэты наводзіў сум сваёй аднастайнасцю. Нарэшце пачуўся глухі стук аб дрэва: рыдлёўка стукнулася аб дамавіну, і праз некалькі мінут яе выцягнулі наверх. Тымі-ж рыдлёўкамі паднялі крышку, выцягнулі мерцвяка і груба кінулі яго на зямлю. У гэты момант месяц выплыў з-за хмар і асвятліў сіні, страшны твар нябожчыка.

Яго палажылі на загадзя падрыхтаваныя насілкі, накрылі коўдрай і прывязалі вяроўкай. Потэр вынуў вялікі складаны нож, адрэзаў лішні канец вяроўкі і сказаў:

– Ну, гатова ваша праклятая работа. Цяпер давайце яшчэ пяць залатых, а то мы яго так тут і кінем.

– Разумныя словы прыемна слухаць,– падтрымаў індзеец Джо.

– Дазвольце! Гэта што азначае? – засупярэчыў доктар. – Вы-ж патрабавалі ўсе грошы наперад, і я заплаціў вам.

– Так, і яшчэ нешта вы зрабілі,– сказаў Джо, падышоўшы да доктара, які ўстаў на ногі. – Пяць гадоў назад вы мяне выгналі з кухні вашага бацькі, куды я зайшоў папрасіць чаго-небудзь з’есці. Вы сказалі, што я прышоў з нядобрай думкай. А калі я пакляўся адпомсціць вам за гэта хоць праз сто гадоў, ваш бацька пасадзіў мяне ў турму, як валацугу. Вы думалі, я пра гэта забыўся? Нездарма ў мяне індзейская кроў. Цяпер вы ў мяне ў руках, і мы з вамі палічымся, так і ведайце!

Ён пагражаў доктару кулаком у самы твар. Той раптам замахнуўся і адным ударам паваліў індзейца на зямлю. У Потэра ад здзіўлення вываліўся з рук нож, і ён крыкнуў:

– Эй, вы! Гэта што такое? Я таварыша біць не дазволю!

І ён кінуўся на доктара. Яны сашчапіліся і пачалі барацца, напружваючы ўсе сілы, тапчучы траву і ўзрываючы нагамі мяккую зямлю. Індзеец Джо ўскочыў на ногі; вочы яго гарэлі нянавісцю. Ён падняў кінуты Потэрам нож і, крадучыся, як кошка, увесь выгнуты, пачаў кружыцца вакол барцоў, выглядаючы зручны момант.

Раптам доктар вызваліўся з абдымкаў праціўніка, схапіў цяжкую дошку з магілы Вільямса і зваліў ёю Потэра на зямлю. У

той-жа момант метыс усадзіў увесь нож у грудзі маладога чалавека. Той захістаўся і паваліўся на Потэра, запэцкаўшы яго сваёй крывёю.

У гэтую мінуту насунуліся хмары і схавалі ад вачэй мімавольных гледачоў усю гэту жудасную сцэну; перапалоханыя хлопчыкі як мага кінуліся бегчы прэч.

Калі месяц зноў вынырнуў з-за хмар, індзеец Джо стаяў над двума распасцертымі на зямлі фігурамі. Доктар прамармытаў нешта незразумелае, разы са два ўздыхнуў і сціх.

– Ну, чорт цябе дзяры! – сказаў метыс. – Цяпер мы з табой квіты.

Ён абадраў мерцвяка, потым улажыў няшчасны нож у правую руку Потэра і ўсеўся на перакуленую дамавіну. Прайшло тры, чатыры, пяць мінут... Потэр паварушыўся і застагнаў. Ён сціснуў у руцэ нож, паднёс яго к вачам, уздрыгануўся і выпусціў нож з рук. Потым падняўся і сеў, адапхнуў ад сябе мёртвае цела доктара, паглядзеў на яго, потым мутнымі вачыма агледзеўся навакол і сустрэў позірк метыса.

– Што гэта? Як яно здарылася, Джо?

– Справа дрэнная,– сказаў той, не варухнуўшыся з месца. – Навошта ты яго гэтак?

– Я? І не думаў.

– Гавары, каму хочаш! Гэтым справы не вернеш!

Потэр збялеў і ўвесь затросся:

– Я думаў, у мяне хмель вышаў. Увечары-ж я не піў. Але ў мяне да гэтага часу шуміць у галаве – горш нават, як ішлі мы сюды... Усё неяк пераблыталася, нічога не магу прыпомніць. Скажы мне, Джо, сумленна скажы, браце, няўжо-ж гэта я яго прыстукнуў? Я-ж яго не хацеў забіваць, у мяне і ў думках не было, клянуся душой і чэсцю. Джо! скажы мне, як гэта вышла? Ой, які жах! Ён быў такі малады і здольны...

– Як вышла? Ну, вядома, вы пачалі біцца; ён стукнуў цябе дошкай па галаве; ты зваліўся; а потым устаў, хістаючыся і спатыкаючыся, выхапіў нож ды і ўсадзіў яму ў грудзі акурат у той момант, як ён зноў садануў цябе. Ну, пасля таго ўжо ты як паваліўся, так і ляжаў да гэтага часу, як калода.

– Ох, я сам не ведаў, што раблю! Праваліцца мне на гэтым месцы, калі маню! Гэта ўсё ад гарэлкі,– п'яны я быў,– ну і распаліўся на яго таксама – з-за цябе... Я нават і нажом уладаць не ўмею. Біцца здаралася, яно так, але толькі без нажа, на кулачкі. Гэта ўсім вядома. Джо, родненькі, не выдавай! Дай слова, што не выдаш, Джо! Я заўсёды цябе любіў, заўсёды стаяў за цябе. Ты сам ведаеш... Ты нікому не скажаш, Джо?

І няшчасны Потэр апусціўся на калены парад подлым

забойцам, з адчаем працягваючы да яго рукі.

– Добра, Меф Потэр, ты заўсёды адносіўся да мяне сумленна, і я зраблю таксама. Будзь спакойны, маё слова пэўнае. Тут і гаварыць больш няма чаго.

– Джо, ты ангел! Я буду благаслаўляць цябе да апошняй хвіліны.

І Потэр заплакаў.

– Ну, годзе ўжо! Няма чаго кныхаць. Ідзі вунь той дарогай, ды жыва! А я пайду гэтай. Ды глядзі, слядоў за сабой не пакідай!

Потэр пусціўся трушком, потым наддаў ходу і пабег як мага. Метыс стаяў, глядзеў яму ўслед і мармытаў:

– Калі ён сапраўды так здурэў ад удару і выпіўкі, як яно здаецца, то ён і не ўспомніць пра нож. А калі і ўспомніць, адбегшыся далёка, то пабаіцца вярнуцца сюды,– курынае сэрца!

Праз некалькі мінут на забітага, на труп, загорнуты ў коўдру, на дамавіну без крышкі і на разрытую магілу глядзеў толькі месяц. Навакол зноў было ціха.

## Раздзел IX

Хлопчыкі анямелі ад жаху. Не спыняючыся, беглі яны к гарадку. Часам яны трывожна азіраліся, нібы хто за імі гнаўся. Кожны пень на дарозе здаваўся ім страшным ворагам, ад якога ў іх сціскалася сэрца. Калі яны прабеглі каля хутарка, што быў недалёка ад ваколіцы, на іх забрахалі сабакі, і ад гэтага ў хлапцоў нібы крыллі выраслі.

– Толькі-б нам дабегчы да старой гарбарні, пакуль мы не страцім сілы! – прашаптаў Том, задыхнуўшыся. – Я ўжо, здаецца, больш не магу.

Гекльберы ў адказ толькі соп. Хлопчыкі напружвалі апошнія сілы. Нарэшце яны падбеглі да гарбарні, праскочылі праз адчыненыя дзверы і паваліліся зусім змораныя. Трохі счакаўшы, пульс іх пачаў біцца раўней, і Том шапнуў:

– Гек, як табе здаецца, што з гэтага выйдзе?

– Калі доктар Рабінзон памрэ, я думаю, выйдзе шыбеніца.

– Ды што ты?

– Я напэўна ведаю.

Том падумаў, потым сказаў:

– Хто-ж раскажа? Мы?

– Што ты? Звар’яцеў? Ты толькі ўяві сабе, што справа як-небудзь павернецца на карысць індзейцу Джо, або ён уцячэ і яго не павесяць,– ды ён-жа-ж тады нас абавязкова заб’е. Ужо нам тады не мінуць смерці.

– Я і сам гэта думаю, Гек.

– Калі ўжо каму данасіць, дык няхай Меф Потэр даносіць; у яго на гэта дуроты хопіць. Ён-жа ж заўсёды п’яны.

Том нічога не сказаў – ён думаў; потым шапнуў:

– Гек, але-ж Меф Потэр не ведае,– як-жа ж ён можа данесці?

– Гэта-ж як ён не ведае?

– А, вядома, не ведае. Яму-ж доктар трэснуў па галаве акурат у той момант, калі індзеец Джо ўсадзіў у доктара нож. Дзе-ж яму было бачыць?

– І то праўда!

– Апрача таго, хто ведае, можа ад гэтага ўдару яму і капут ужо.

– Не, Том, гэта наўрад. Ён проста быў п’яны. Я гэта заўважыў. Ды ён і заўсёды п'яны. Калі мой бацька п’яны, яго можна трэснуць па галаве хоць цэлай вежай,– нічога яму не станецца. Ён сам кажа. Таксама і з Мефам Потэрам.

Вось каб ён быў цвярозы, то, магчыма, ад такога пачастунку і сканаў-бы...

Том зноў падумаў.

– Гек, ты ўпэўнены, што мы не абмовімся?

– Ды ўжо хочаш-не-хочаш, а трымаць язык за зубамі трэба. Сам разумееш... Гэтаму д’яблу метысу прыдушыць нас усёроўна, што прыдушыць пару кацянят. Калі толькі мы прагаворымся, а яго не павесяць – прапалі нашы галовы! Слухай, Том! Калі ўжо нам хочаш ці не,– трэба маўчаць, давай мы адзін аднаму паклянемся, што будзем трымаць язык прывязаным.

– Я гатоў, Гек. Гэта самае лепшае. Ну, падымай руку...

– О, не! Гэта не гадзіцца. Гэта добра ў звычайных справах, у глупствах, асабліва з дзяўчатамі, бо яны, нарэшце, усёроўна выкруцяцца і выкажуць, калі раззлуюцца; а ў гэтай справе трэба, каб дагавор быў пісаны і абавязкова крывёю.

Тому такая справа вельмі спадабалася. Яна была таямнічая, суровая і страшная. Пры святле месяца Том знайшоў чыстую сасновую трэсачку, выцягнуў з кішэні кавалак сурыка, сеў так, каб святло падала на трэску, і сяк-так накрэмзаў наступныя радкі, на кожным слове прыцмокваючы языком:

> Гек Фін і Том Соўэр мы абодва клянемся што мы будзем трымаць язык за зубамі адносна гэтай справы і няхай мы ўпадзем мёртвымі на месцы калі хоць адным словам абмовімся.

Гек прышоў у захапленне ад здольнасці Тома так хутка пісаць, ды яшчэ такім высокім стылем. Ён выцягнуў з сваёй курткі булаўку і хацеў ужо пракалоць сабе палец, але Том спыніў яго:

– Пачакай, не рабі гэтага – булаўка медная. На ёй можа быць атрута.

– Якая?

– Іржа такая. Паспрабуй праглынуць, тады ўбачыш.

Тады Том узяў адну з сваіх іголак, і кожны хлопчык па чарзе ўкалоў сабе палец і выціснуў з яго каплю крыві.

Зрабіўшы гэта некалькі разоў і карыстаючыся мізінцам заместа пяра, Том вывеў унізе пачатковыя літары свайго імя, потым навучыў Гекльберы, як напісаць Г. Ф., і дагавор быў падпісаны. Яны ўрачыста, з рознымі царамоніямі і заклінаннямі закапалі трэску каля самай сцяны, лічачы, што цяпер іхнія языкі замкнутыя назаўсёды і ключы закінуты.

Праз дзірку на другім канцы напалову разбуранага будынка прабралася чалавечая постаць, але хлопчыкі яе не заўважылі.

– Том,– прашаптаў Гекльберы,– ты ўпэўнены, што пасля гэтага мы ўжо не прагаворымся ніколі?

– Вядома, упэўнены. Што-б ні здарылася, мы цяпер – магіла. Мы зараз-жа на месцы павалімся мёртвымі, калі прагаворымся. Ці-ж ты забыў?

– Яно так, ды...

Раптам недалёка ад іх, усяго за якіх-небудзь крокаў дзесяць, пачулася працяглае сумнае сабачае выццё. Хлопчыкі ў спалоху прыціснуліся адзін да аднаго.

– На каго-ж гэта яна з нас? – прашаптаў Гекльберы.

– Не ведаю, паглядзі ў шчэлку, ды хутчэй-жа?

– Не, ты паглядзі!

– Не магу, не магу я, Гек!

– Ды паглядзі, Том. Вось зноў...

– О! як я рады! – прашаптаў Том. – Я пазнаю брэх: гэта сабака Гарбізона.

– Ну, дзякуй богу! Ведаеш, я проста на смерць перапалохаўся,– я думаў, што бадзяжны сабака.

У гэты час сабака зноў завыў. У хлопчыкаў зноў сціснулася сэрца.

– Ох, не! Гэта не Гарбізонаў сабака,– прашаптаў Гекльберы. – Паглядзі яшчэ, Том.

Том, дрыжучы ад страху, зірнуў праз шчэлку і ледзь чутна прамовіў:

– О, Гек, гэта бадзяжны сабака!

– Глядзі, Том, глядзі, на каго ён брэша?

– Пэўна на нас абодвых. Мы-ж поплеч, зусім блізка адзін ля аднаго. Ох, Гек, прапалі мы з табой! Я-ж ужо ведаю куды траплю. Я такі грэшны...

– А я заўсёды гуляю, замест таго, каб вучыцца, раблю акурат

тое, што мне забаронена… Я мог-бы быць добрым і паслухмяным, як Сід, каб толькі пастараўся, але мне, вядома, не хацелася. Ну, калі толькі я на гэты раз выкараскаюся, то абяцаю вывучыць напамяць усю біблію!

Том ціханька ўсхліпваў.

– Ты грэшны?! – і Гекльберы таксама пачаў усхліпваць. – Які-ж ты грэшны? Ты – ангел у параўнанні са мной!

Том праглынуў слёзы і шапнуў:

– Глядзі, Гек, глядзі! – ён стаіць задам да нас.

Гек узрадаваўся і прыціснуўся да шчэлкі.

– Сапраўды задам… Ён і раней так стаяў?

– Ну але, а я, дурань, і не звярнуў увагі. Вось добра! Але-ж на каго ён можа брахаць?

Сабака сціх. Том настаражыўся.

– Тсс! Што гэта?

– Нібы… нібы свіння рохкае. Не, гэта нехта храпе, Том.

– Храпе-е? Ды дзе-ж храпе, Гек?

– Мабыць у тым канцы. Храп нібы адтуль ідзе. Бацька тут часам начаваў разам са свіннямі, але ён ужо калі захрапіць, дык толькі трымайся – з ног саб’е! Ды ён, я думаю, больш і не вернецца ніколі ў гэты горад.

Энергія абудзілася ў хлопцаў.

– Гек, ты пойдзеш туды, калі я цябе павяду?

– Неахвота мне ісці, Том. А што, калі там індзеец Джо ?

Але спакуса была надта вялікай, і хлопчыкі парашылі пайсці паглядзець, умовіўшыся, што зараз-жа завярнуцца назад, калі храп спыніцца. Ціханька, на пальцах, пачалі яны красціся к спячаму. Праз некалькі крокаў Том наступіў на дубец: той зламаўся і храснуў. Спячы застагнаў, перавярнуўся на бок, і прамень месяца ўпаў на яго твар. У хлапцоў кроў застыла ў жылах, і самі яны застылі на месцы, калі спячы паварушыўся; але цяпер страх мінуў: гэта быў Меф Потэр.

Хлопцы вылезлі праз дзірку ў сцяне і збіраліся ўжо разыйсціся, як зноў пачулася злавеснае, працяглае выццё. Абодва разам адвярнуліся і ўбачылі чужога сабаку, які стаяў за два крокі ад таго месца, дзе ляжаў Потэр.

– Ды гэта-ж ён на яго! – у адзін голас усклікнулі хлопчыкі.

– А ведаеш што? Кажуць, каля дома Джоні Мілера выў прыблудны сабака акурат у поўнач,– гэта было тыдні два назад,– і начная ластаўка пела ў яго на сцяне ў той-жа самы вечар, а да гэтага часу ніхто ў доме не памёр.

– Я ведаю. Ну, дык што з таго? А ці-ж Грэсі Мілер пасля таго ў суботу не трапіла ў печку і не апяклася?

– Так, але-ж яна не памёрла. Яна нават папраўляецца.

– Добра, пачакай, убачыш, што будзе. Ёй ужо не выздаравець. Справа скончаная, усёроўна як і Мефа Потэра. Гэта негры гавораць, а яны ўжо ведаюць, Гек.

І хлопчыкі разышліся.

Калі Том улез праз акно назад у спальню, ноч амаль мінула. Ён ціха раздзеўся і мігам заснуў, рады, што ніхто не даведаўся пра яго начное падарожжа. Ён не ведаў, што Сід, які нібы хроп, сапраўды не спаў і прачнуўся каля гадзіны таму.

Калі Том расплюшчыў вочы, Сід даўно ўжо адзеўся і вышаў. Па святлу і па ўсім відаць было, што час ужо позні. Том вельмі здзівіўся: чаму яго не пабудзілі, не лезлі да яго, каб ён уставаў, як гэта рабілася звычайна? Яму зрабілася жудасна, ён адчуваў нешта нядобрае. У пяць мінут ён адзеўся і сышоў ўніз, хаця яму хацелася яшчэ паспаць. Уся сям'я была ў зборы і сядзела за сталом, але снеданне ўжо скончылася. Ніхто нічога не сказаў Тому, не папікнуў яго, але па вачах цёткі ён пазнаў, што яна ведае. Усе маўчалі, і ва ўсіх быў такі ўрачысты выгляд, што вінаваты пахаладзеў ад страху. Ён сеў і стараўся быць вясёлым – але дарэмна! Ніхто нават не ўхмыльнуўся на яго жарты, і ён таксама змоўк, адчуваючы, як сціснулася яго сэрца.

Пасля снедання цётка адвяла яго ў бок, і Том бадай павесялеў, спадзяючыся, што справа скончыцца лупцоўкай. Але вышла не так. Цётка заплакала, пытаючыся, як у яго хапіла духу так разбіць яе старое сэрца, і сказала, што цяпер ужо ён можа рабіць, што толькі захоча: загубіць сябе, абняславіць яе сівую галаву, звесці яе ў магілу – усёроўна выпраўляць яго бескарысна; яна ўжо больш не будзе і прабаваць.

Гэта было горш за ўсякую лупцоўку, і сэрца ў Тома балела цяпер больш, як яго стомленае цела. Ён сам расплакаўся, прасіў дараваць яму, панадаваў абяцанняў выправіцца і нарэшце быў адпушчаны, але адчуваў, што дараванне цётчына няпоўнае і давер'е яму вельмі слабае.

Ён вышаў з дому і быў такі няшчасны, што нават не падумаў адпомсціць Сіду, які выдаў яго, і Сід зусім дарма паспяшаўся ўцячы ад яго праз заднія дзверы. Том прышоў у школу смутны, пахмуры і выцярпеў разам з Джо Гарперам кару за ўчарашнюю гульню ў косці з выглядам чалавека, душа якога прыгнечана горам і не звяртае ўвагі на такія дробязі.

Вярнуўшыся на сваё месца, ён палажыў рукі на парту, а галаву на рукі і ўтаропіўся ў сцяну вачыма пакутніка. Локаць яго ўпіраўся ў нейкі цвёрды прадмет, і рука балела. Але ён не скора адсунуў руку, уздыхнуў і ўзяў гэты прадмет. Ён быў загорнуты ў паперу. Том разгарнуў – і глыбокі, даўгі, цяжкі ўздых вырваўся з яго грудзей, і сэрца яго разбілася…

Гэта быў яго медны шарык з жароўні!

Апошняя саломінка зламала спіну вярблюда.

## Раздзел X

А поўдні па ўсім гарадку раптам разнеслася страшная вестка. Не трэба было і тэлеграфа, аб якім ў той час і думаць не маглі,– вестка гэтая пераходзіла з вуснаў у вусны, ад суседзяў к суседзям, з дома ў дом з няменшай шпаркасцю. Вядома, школьнікаў у гэты дзень адпусцілі па хатах: увесь горад палічыў-бы за дзіва, каб настаўнік не здагадаўся гэта зрабіць.

Каля забітага знайшлі скрываўлены нож і казалі, што ён належыць Мефу Потэру. Казалі таксама, што ноччу, гадзін каля двух, адзін жыхар, вяртаючыся дадому, патрапіў на Потэра, які мыўся ў рэчцы, і што Потэр, убачыўшы яго, зараз-жа схаваўся – факт падазронны, асабліва ўмыванне, для Потэра такая справа была вельмі незвычайнай. Казалі таксама, што паліцыя ператрэсла ўвесь горад, шукаючы забойцу, але нідзе не магла яго знайсці; што ва ўсе бакі разасланы коннікі, і шэрыф упэўнен, што злачынцу зловяць яшчэ да вечара.

Увесь горад пабываў на могілках. Том забыўся на сваё разбітае сэрца і далучыўся да іншых – не таму, што ён вельмі хацеў, ён лепш хацеў-бы быць за тысячу міль адсюль,– але яго туды цягнула нейкая незразумелая сіла. Прышоўшы на могілкі, ён праціснуўся наперад і зноў убачыў страшную карціну. Яму здавалася, што з таго часу, калі ён быў тут, прайшла цэлая вечнасць. Нехта шчыпнуў яго за руку. Ён адвярнуўся – каля яго стаяў Гекльберы.

Яны пераэірнуліся, баючыся, каб хто не заўважыў чаго ў іхніх позірках, але ўсе былі занятыя страшным відовішчам.

Няшчасны дзяцюк! Небарака!

Вось вурок тым, хто крадзе трупы. А Потэра-ж павесяць, калі зловяць. Не мінуць яму шыбеніцы – такая была агульная думка.

Том задрыжэў ад галавы да ног, убачыўшы недалёка пахмуры твар індзейца Джо. У гэты момант натоўп пасунуўся назад, і пачуліся крыкі:

– Гэта ён, ён! Сам ідзе!

– Хто, хто? – спыталася разам дваццаць галасоў.

– Меф Потэр!

– Глядзіце, спыніўся. Вось паварочвае! Трымайце яго, а то ўцячэ!

Разявакі, што сядзелі на дрэвах над галавою Тома, паведамілі, што ён і не думае ўцякаць,– ён толькі засаромлены і не ведае, што рабіць.

– Якая бессаромнасць! – сказаў адзін з натоўпу. – Прышоў палюбавацца на сваё злачынства і не чакаў, што тут людзі.

Натоўп рассунуўся, і да магілы ўрачыста падышоў шэрыф, ведучы за руку Потэра. У небаракі твар быў зусім збянтэжаны, і ў вачах быў шалёны страх. Убачыўшы забітага, ён затросся ўсім целам, закрыў твар рукамі і заплакаў.

– Я не забіваў яго, сябры мае, – казаў ён, плачучы,– чэснае слова даю вам, не забіваў.

– Хто-ж абвінавачвае цябе? – загрымеў нечы голас. Страла трапіла ў цэль. Потэр падняў галаву і агледзеўся навакол з жаласнай безнадзейнасцю ў вачах. Убачыўшы індзейца Джо, ён усклікнуў:

– О, Джо! Ты абяцаў мне, што ніколі…

– Гэта ваш нож? – перапыніў яго шэрыф, паказваючы яму нож.

Потэр паваліўся-б, каб яго не падтрымалі і не апусцілі ціханька на зямлю. Потым ён сказаў:

– Нешта падказвала мне, што калі я не пайду туды і не знайду… – Ён здрыгануўся і, безнадзейна махнуўшы рукою, сказаў: – Скажы ім, Джо,– цяпер ужо няма чаго!..

Гекльберы і Том з невыказным жахам глядзелі, як забойца без ніякага сораму расказваў выдуманую ім сцэну забойства. Хлопчыкі кожную хвіліну чакалі, што вось-вось сярод яснага неба бліснe маланка і ўдарыць у забойцу, і дзівіліся, чаму так марудзіць бож’я кара. Тады-б яны маглі парушыць клятву і выратаваць невінаватага Потэра. Цяпер-жа, калі Джо і па сканчэнні расказа застаўся цэлы і не пашкоджаны, гэтая баязлівая думка знікла зусім: ясная справа, гэты злодзей прадаў душу д’яблу, а дзе ўжо ўмяшаецца д’ябал, там чалавек не совайся, а то дабра не будзе.

Нехта спытаў Потэра:

– Чаму-ж ты не ўцёк і не схаваўся? Навошта прышоў сюды ?

– Я не мог іначай, не мог! – прастагнаў Потэр. – Я хацеў бегчы, але мяне самі ногі прынеслі сюды!

І ён зноў зарыдаў.

Індзеец Джо таксама спакойна паўтарыў сваё паказанне праз некалькі мінут на допыце, пад прысягай, і хлопчыкі, убачыўшы, што гром нябесны ўсёроўна не забівае яго,– канчаткова пераканаліся, што метыс прадаў душу чорту.

Яны надта баяліся яго, але ў той-жа час ён быў для іх цяпер цікавей за ўсё ў свеце, і яны не маглі адвесці ад яго твара сваіх зачараваных вачэй. Самі яны парашылі, калі трапіцца выпадак, пасачыць за ім уначы, каб хоць адным вокам убачыць яго страшнага ўладара.

Жудасная тайна і сумленне доўга не давалі Тому спаць, і

аднаго разу ў час снедання Сід сказаў яму:

– Том, ты так круцішся і гаворыш у сне, што няма магчымасці заснуць,– я палову ночы не спаў.

Том збляднеў і апусціў вочы.

– Гэта дрэнны знак,– сур'ёзна сказала цёця Поллі. – Што ў цябе на душы, Том?

– Нічога! Нічога!

Але рукі хлопчыка дрыжэлі так, што ён разліў каву.

– І гаворыш ты ўсё нейкія недарэчнасці,– казаў Сід. – Напрыклад, мінулай ноччу ты казаў: «Гэта кроў, кроў, вось што гэта такое!» І ўсё паўтараеш тое самае. А потым гаворыш: «Не мардуйце мяне так,– я скажу». Што такое ты скажаш?

Усё закружылася і паплыла перад вачыма Тома. Цяжка сказаць, што было-б далей, каб у гэтую мінуту супакоеная цётка Поллі, сама таго не ведаючы, не прышла на дапамогу Тому.

– Гэта ўсё ад таго жудаснага забойства. Мне самой яно сніцца бадай што кожную ноч. Часам я бачу ў сне, нібы гэта я яго забіла.

Мэры сказала, што з ёй бывае тое самае, і Сід, як відаць, задаволіўся гэтымі тлумачэннямі.

Том скарыстаў першы повад, каб хутчэй адыйсці ад сваякоў і пасля гэтага з тыдзень скардзіўся на боль зубоў і сціскаў сабе на ноч сківіцы хусткай, каб не балбатаць ва сне. Ён не ведаў, што Сід наўмысля не спаў па начах, часам аслабляў павязку і, абапёршыся на локці, прыслухоўваўся к словам брата, а потым зноў папраўляў павязку.

Але праз некаторы час непакой і згрызоты Тома пачалі сцішацца; яму надакучала скардзіцца на боль зубоў, і ён ужо не завязваў галавы на ноч. Калі Сід і зрабіў якія-небудзь вывады з урыўкаў слоў, якія яго брат гаварыў праз сон,– ён нікому аб гэтым не гаварыў.

Том кожны дзень, ці праз дзень, прабіраўся да маленькага акна турмы, дзе сядзеў «забойца», і кантрабандай прыносіў яму розныя ласункі, якія яму траплялася здабыць. Будынак турмы быў невялікі; ён быў пабудаваны з цэглы на балоце, на самым канцы гарадка. Вартаўніка пры ёй не было – спадзяваліся на краты ў вокнах,– ды ў ёй і рэдка хто сядзеў. Гэтыя маленькія падарункі значна супакойвалі сумленне Тома.

Жыхары гарадка мелі вялікае жаданне пакараць метыса

Джо за крадзеж трупаў, вымазаўшы яго смалой, выкачаўшы ў пер'ях і выгнаўшы ў такім выглядзе з горада. Але яго ўсе так баяліся, што не знаходзілася нікога, хто адважыўся-б пачаць, а таму гэты намер быў пакінуты. На допыце метыс абодва разы пачынаў свой расказ проста з бойкі, не кажучы пра папярэдняе запаганенне магілы і крадзеж трупа; з гэтай прычыны палічылі за

лепшае пакуль не ўзнімаць гэтага пытання на судзе.

## Раздзел XI

У Тома з'явілася новае гора: Бэкі Тэчэр перастала хадзіць у школу. Том некалькі дзён стараўся прыглушыць свой сум, але не мог. Ён пачаў па начах хадзіць вакол яе дома, і адчуваў сябе вельмі няшчасным. Бэкі была хворая. А што, калі яна памрэ? Гэтая думка прыводзіла яго да роспачы. Ён не цікавіўся больш ні вайной, ні нават морскім разбоем. Уся прывабнасць жыцця знікла, засталося толькі нудная неабходнасць. Ён закінуў нават свой абруч і палку: яны не цешылі яго болей.

Цётка занепакоілася аб яго здароўі і пачала яго лячыць, спрабуючы на ім усялякія сродкі. Яна была з тых людзей, якія захапляюцца ўсялякімі патэнтаванымі лякарствамі і кожным новым зеллем, і яна безупынна рабіла спробы. Як толькі ў медыцыне з'яўлялася што-небудзь новенькае, яна зараз-жа спяшалася выпрабаваць гэтую навінку – не на сабе, бо сама яна ніколі не хварэла, але на першым, хто трапляўся ёй пад руку.

У той час толькі што ўваходзіла ў моду лячэнне вадой, і прыгнечаны стан Тома трапіўся вельмі дарэчы. Цётка падымала яго з пасцелі ледзь золак, вяла ў сарай для дроў, аблівала яго халоднай вадой і дачырвана церла рушнікам, жорсткім як скрабло; потым загортвала яго ў мокрую прасціну і накрывала цёплымі коўдрамі, каб ён добра прапацеў, і небарака пацеў да таго, што, як ён казаў, у яго «ўсе плямы з душы вышлі напаверх скрозь скуру».

Не гледзячы на ўсё гэта, хлопчык усёроўна бляднеў і худзеў, і выгляд яго быў мізэрны. Цётка далучыла да ранейшага лячэння гарачыя ванны, сідзячыя ванны, душы і апусканне ў ваду. Хлопчык заставаўся панурым, як хаўтурныя драбіны. Цётка дадала да вады лёгкую аўсяную дыету і плястры ад скулляў. Яна кожны дзень ліла ў яго, нібы ў гладыш, усялякія лякарствы.

Паступова Том зрабіўся абыякім да ўсяго на свеце, і гэта трывожыла старую цётку да глыбіні душы. Трэба было, чаго-б гэта ні каштавала, вывесці яго з такога стану. Тут яна ўпершыню пачула пра новае лякарства, «болесупакойнік», і зараз-жа выпісала вялікую колькасць гэтага лякарства – пакаштавала яго, і сэрца яе напоўнілася ўдзячнасцю: гэта быў сапраўдны вадкі агонь! Яна пакінула вадзяное лячэнне і ўсклала ўсе свае надзеі на новае зелле. Яна дала Тому выпіць поўную чайную лыжку і з хваляваннем чакала выніку. Трывога яе адразу прайшла, і душа супакоілася, бо абыякавасць у Тома адразу знікла. Каб хлопчыка пасадзілі на гарачае вуголле, ён не мог-бы выявіць больш гарачага ўдзелу ў гэтай спробе.

Том адчуў, што трэба ўжо і сапраўды прачнуцца. Ён пачаў прыдумваць усялякія спосабы вызваліцца ад далейшых вопытаў над сабой і нарэшце натрапіў на думку прытварыцца, што «болесупакойнік» прышоўся яму вельмі да густу. Ён так часта прасіў, каб яму далі гэтага зелля, што густу. Ён так часта прасіў, каб яму далі гэтага зелля, што нарэшце надакучыў цётцы, і тая загадала яму прымаць лякарства самому, калі захоча, а да яе больш не лезці.

Каб гэта быў Сід, цётка была-б не толькі задаволеная, але і спакойная, а як справа тычылася Тома, то яна паціху наглядала за бутэлькай. Лякарства сапраўды змяншалася, але ёй і ў галаву не прыходзіла, што Том заместа сябе лечыць шчыліну ў падлозе.

Аднаго разу, калі ён такім чынам выліваў лякарства ў шчыліну, да яго падышоў цётчын руды кот, муркаючы і прагна пазіраючы на лыжку, нібы просячы, каб і яму далі пакаштаваць.

– Ох, Піт, не прасі,– зусім табе гэта не трэба.

Але Піт даў зразумець, што яму гэта трэба.

– Глядзі, не памыліся,– пашкадуеш…

Піт выказаў упэўненасць, што не пашкадуе.

– Ну, калі ўжо ты так просіш, я дам, я не зайздросны, але глядзі, калі табе не спадабаецца,– дзякуй сябе самога.

Піт згадзіўся. Том расчыніў яму рот і ўліў туды лыжку «болесупакойніка». Піт падскочыў на два метры, выдаў ваяўнічы кліч і пачаў кідацца па пакою, натыкаючыся на мэблю, перакульваючы вазоны з кветкамі і ўзнімаючы страшэнную мітусню. Потым ён, задраўшы галаву, пачаў танцаваць на задніх лапах у шалёным захапленні і галасіць на ўвесь дом пра сваё невыказнае шчасце. Потым зноў пачаў кідацца па ўсім доме, несучы на сваім шляху хаос і руйнаванне. Цёця Полі ўвайшла акурат у той момант, калі ён, зрабіўшы некалькі фінальных сальто-мартале, з лютым мяўканнем выскачыў у адчыненае акно, захапіўшы з сабой тыя вазоны, якія яшчэ заставаліся цэлымі.

Старая скамянела ад здзіўлення, гледзячы праз верх акуляраў на гэтую карціну, а Том качаўся па падлозе ад смеху.

– Том, скажы, калі ласка, што такое з нашым катом?

– Не ведаю, цёця,– ледзь мог вымавіць Том.

– За ўсё сваё жыццё не бачыла нічога падобнага! З чаго-б гэта ён?

– Сапраўды не ведаю, цёця Полі. Мабыць каты заўсёды так танцуюць, калі яны вельмі задаволеныя.

– Ці так?

У голасе цёткі было нешта такое, што прымусіла Тома насцярожыцца.

– Ну так, цёця. Прынамсі, я так думаю.

– Ты думаеш?

– Але, цёця.

Цётка нахілілася. Том з цікавасцю і трывогай сачыў за яе рухамі, але занадта позна здагадаўся, куды яна «гне». З-пад ложка высоўваўся доказ – чайная лыжка. Цёця Поллі падняла яе і паднесла да самага носа хлопчыка. Том апусціў вочы і пасунуўся назад. Цёця Поллі стукнула яго па галаве наперсткам.

– А ну, мой любы, скажы мне, завошта ты так мардуеш бедную жывёліну?

– Я даў яму лякарства, шкадуючы яго, бо ў яго-ж няма цёткі.

– Няма цёткі! што за глупства ты вярзеш, дурное хлапчанё! Якое гэта можа мець дачыненне да таго, што ты нарабіў?

– Вельмі вялікае. Каб у яго была цётка, яна сама паклапацілася-б аб ім. Яна высмаліла-б яму ўсе вантробы без ніякай літасці, як чалавеку!

Цёця Поллі раптам адчула сябе вінаватай. Яе лячэнне стала перад ёй у новым выглядзе: тое, што было жорсткім у дачыненні да ката, магло быць жорсткім і ў дачыненні да дзіцяці. Яна памякчэла, адчула жаль да Тома. У яе нават слёзы выступілі на вочы, яна пагладзіла хлопчыка па галаве і лагодна сказала:

– Я-ж старалася на тваю карысць, Том. І гэта пайшло табе на карысць.

Том сур'ёзна паглядзеў ёй у твар. Толькі куты яго рота крыху уздрыгвалі.

– Я ведаю, цётанька, што вы жадалі мне дабра, і я-ж Піту жадаў дабра. Яму гэта таксама пайшло на карысць. Я ніколі яшчэ не бачыў яго ў такім вясёлым…

– Ну, годзе, годзе ўжо, Том, не засмучай мяне. Трымай сябе добра, будзь разумнікам, і табе не прыдзецца прымаць ніякіх лякарстваў.

Том прышоў у школу да заняткаў. Настаўнік заўважыў, што такія незвычайныя здарэнні паўтараліся ў апошні час бадай што кожны дзень. І сёння, таксама, як заўсёды ў апошні час, заместа таго, каб гуляць з таварышамі, хлопчык круціўся па дварэ і каля варот. Ён адмовіўся ад гульні, кажучы, што ён не зусім здаровы, і выгляд яго сапраўды быў не вельмі добры. Ён прытвараўся, што глядзіць у розныя бакі, але ў сапраўднасці ўвесь час глядзеў на дарогу.

Як толькі здалёк паказаўся Джэф Тэчэр, Том прасвятлеўся, але праз мінуту зноў зрабіўся сумным. У школе Том не адставаў ад Джэфа ні на хвіліну і ўсяляк стараўся накіраваць гутарку на яго сястру, але той быў крыху дурнаваты і не разумеў намёкаў. Том усё чакаў і чакаў, кожны раз радуючыся, калі здалёк паказвалася светлая сукенка; калі-ж выяўлялася, што гэтая сукенка надзета не

на той, каго ён чакаў, то пачынаў ненавідзець гэтую асобу. Нарэшце сукенкі перасталі з’яўляцца, і Том зусім павесіў нос.

Сумны і задуменны ён увайшоў у пусты клас і сеў на сваё месца, каб марыць і пакутваць. У гэты момант ля варот паказалася яшчэ адна сукенка… У Тома ёкнула сэрца. У адзін момант ён апынуўся на дварэ і пачаў лютаваць, як індзеец: ён крычаў, рагатаў, ганяўся за таварышамі, скакаў праз плот з небяспекай для жыцця, хадзіў на галаве,– адным словам, геройстваваў і вытвараў усялякія штукі, не забываючыся ўвесь час скосу пазіраць у бок Бэкі – ці глядзіць яна. Але яна, відаць, нічога не бачыла і нават не глядзела ў яго бок. Няўжо-ж яна нават не прымячае яго?

Тады ён перанёс арэну сваіх геройстваў бліжэй да яе, лётаў вакол яе з ваяўнічым клічам, садраў з аднаго хлопчыка капялюш і закінуў яго на дах, уварваўся ў натоўп хлопчыкаў, параскідаў іх ва ўсе бакі і сам выцяўся на зямлі пад нагамі ў Бэкі. Яна адвярнулася, задраўшы носік, і ён чуў, як яна сказала сяброўцы:

– Некаторыя хлапчукі думаюць, што яны страх якія спрытныя… а яны пустыя хвастуны…

Том устаў з палаючым тварам і, апусціўшы галаву, павалокся ў школу.

## Раздзел XII

На душы ў Тома было смутна і пахмурна. Ён казаў сабе, што ён адзінок, усімі пакінуты, што ніхто яго не любіць… Потым, калі даведаюцца, да чаго яго давялі, можа і пашкадуюць.. Ён стараўся быць добрым, але яму перашкаджалі… Калі ім так ужо хочацца вызваліцца ад яго, то што-ж? Ён адыйдзе, і хай сабе лаюць яго, колькі хочуць… Ды і чаму-ж не лаяць? Ці-ж адзінокі, усімі пакінуты хлопчык мае права скардзіцца? Так, яго нарэшце прымусілі зрабіцца злачынцам… іншага шляху няма…

З такімі думкамі ён прайшоў ужо луг, як да яго даляцеў звон школьнага званка, які склікаў вучняў на пасляабедзеныя заняткі. Том заплакаў пры думцы, што ён ужо ніколі-ніколі больш не пачуе гэтага добра знаёмага гуку. Прымірыцца з гэтым было цяжка, але нічога не зробіш. Калі яго адштурхоўваюць, кідаюць на волю лёсу, трэба скарыцца. Але ён ім даруе… І Том зарыдаў яшчэ горш.

Акурат у гэты момант ён сустрэўся са сваім неразлучным прыяцелем, Джо Гарперам. У яго таксама быў пахмурны выгляд, і ў душы, відаць, таксама быў горкі і рашучы план. Безумоўна, яны абодва складалі «дзве душы, ахопленыя адзінай думкай».

Том выцер слёзы рукавом і паведаміў свайму таварышу, што ён рашыў пакінуць дом, дзе з ім так дрэнна абыходзяцца і дзе ён ні ў кім не знаходзіць спачування, і ніколі не вяртацца. У канцы ён

выказаў надзею, што Джо не забудзецца на яго.

Але тут выявілася, што Джо толькі што хацеў сказаць Тому тое самае і шукаў яго дзеля гэтага самага. Маці адсцёбала яго за тое, што ён нібы выпіў слівкі, а ён не толькі не каштаваў іх, але нават ніколі не бачыў. Відаць, ён абрыдаў матцы, і яна хоча вызваліцца ад яго. Калі так, яму нічога не застаецца, як выканаць яе жаданне. Ён спадзяецца, што яна будзе шчаслівая і ніколі не пашкадуе, што кінула свайго хлопчыка ў халодны, бяздушны свет, дзе ён будзе пакутваць і памрэ.

Хлопчыкі сумна пайшлі далей, дагаварыўшыся стаяць адзін за аднаго, як браты, і ніколі не разлучацца, пакуль смерць не вызваліць іх абодвых ад пакут. Потым яны пачалі складаць планы. Джо хацеў зрабіцца пустэльнікам, жыць у пячоры, жывіцца сухімі скарынкамі і памерці ад холаду, голаду і гора, але, паслухаўшы Тома, згадзіўся з ім, што злачыннае жыццё куды выгадней, і парашыў зрабіцца піратам.

За тры мілі ад горада, дзе рака Місісіпі дасягае больш мілі ў шырыню, ёсць даўгі, вузкі, лясісты востраў з пясчанай мялізнай – дасканалае месца для разбойніцкага прытулку. Востраў бязлюдны і ляжыць бліжэй к процілегламу берагу, які зарос густым, бадай некранутым лесам. Абмеркаваўшы ўсё гэта, нашы героі парашылі абраць гэты востраў сваёй рэзідэнцыяй. Толькі ім не прыйшлося ў галаву спытаць сябе, на каго яны накіруюць свае напады.

Потым яны знайшлі Гекльберы Фіна, і той ахвотна далучыўся да іх; бо яму было ўсёроўна, якую прафесію выбраць. Яны дагаварыліся сустрэцца на беразе ракі, у пустынным месцы, за дзве мілі вышэй ад вёскі, у свой аблюбаваны час – поўнач. Там стаяў невялікі плыт, якім яны парашылі аўладаць. Умовіліся, што кожны возьме з сабой вудачкі і кручкі, а таксама харчовыя прыпасы, якія ім пашанцуе здабыць – па магчымасці самым суровым і таямнічым спосабам, як належыць разбойнікам. Разам з тым яны распаўсюдзілі сярод таварышоў прывабную вестку, што хутка ў горадзе «нешта пачуюць». Усіх, каму быў сказаны гэты цмяны намёк, прасілі трымаць язык за зубамі і чакаць.

А поўначы Том з’явіўся на месца з вараным кумпяком і некаторымі іншымі харчамі і схаваў усё гэта ў густым зарасніку на ўзгорку, адкуль відаць было месца сустрэчы. Ноч была зорная і вельмі ціхая. Вялізная рака была спакойная, як сонны акіян. Том прыслухаўся – ані гуку. Тады ён ціха, працягла свіснуў. Яму адказаў свіст з гушчару. Том свіснуў яшчэ два разы, і зноў яму адказалі таксама. Потым нечы перайначаны голас спытаўся:

– Хто ідзе?

– Том Соўэр, Чорны Мсцівец. Назавіце вашы імёны!

– Гек Фін–Чырвоная Рука і Джо Гарпер – Уладар Мораў.

Гэтыя назвы былі запазычаны з прыгодніцкіх раманаў.

– Добра, кажыце пароль!

У ночнай цішыні адначасова пачуўся хрыпаты шэпт двух галасоў:

– «Кроў»!

Том пакаціў са ўзгорка свой кумпяк і сам пакаціўся за ім, прычым крыху пацярпелі яго вопратка і скура на кумпяку. Са ўзгорка можна было спусціцца на бераг па дасканалай, зручнай сцежцы, але ён, як шчыры разбойнік, выбіраў небяспечныя і цяжкія шляхі.

Уладар Мораў таксама прынёс кумпяк і ледзь прывалок яго да месца. Фін – Чырвоная Рука – сцягнуў недзе кацялок і цэлы пук недаспелага тытуновага лісця, а таксама некалькі сцяблоў маісу на люлькі, хоць ніводзін з піратаў не курыў і не жаваў тытуну, апрача яго самога.

Чорны Мсцівец абвясціў, што няма чаго і думаць ісці ў дарогу без агню. Гэта была слушная думка, бо запалкі ў тыя часы былі яшчэ мала вядомыя. Хлопчыкі ўбачылі агонь на вялікім плыце, крокаў за дзвесці ўверх па рацэ, падкраліся туды і сцягнулі галаўню. З гэтага яны зрабілі сабе цэлую прыгоду: увесь час «цыкалі» адзін на аднаго, прылажыўшы палец да вуснаў заклікалі да цішыні, хапаліся рукамі за свае неіснуючыя кінжалы і злавесным шэптам загадвалі адзін аднаму, калі толькі «вораг» варухнецца «усадзіць яму нож у грудзі да самай ручкі», бо «мёртвы не выдасць». Яны добра ведалі, што плытнікі гулялі ў вёсцы, але яны павінны былі весці сябе па-разбойніцку.

Пасля таго яны рушылі ў дарогу. Том даваў загады. Гек дзейнічаў вяслом наперадзе, Джо – ззаду. Том удаваў сябе за капітана: сурова хмурыў бровы, скрыжаваўшы рукі на грудзях, камандваў:

– Трымай па ветру!

– Ёсць, сэр!

– Трымай прама, прама!

– Ёсць, сэр!

– Адпусці крыху!

– Ёсць, сэр!

Але ўсе гэтыя загады даваліся так сабе і нічога не азначалі, бо плыт спакойна плыў пасярэдзіне ракі.

– Якія парусы паднятыя?

– Ніжнія, сэр.

– Усе на палубу! Жыва! Шэсць малайцоў на фок-мачту! Варушыся!

– Ёсць, сэр!

– Распусці вялікі парус! Варушыся, хлопцы!

– Ёсць, сэр!

– Трымай к ветру! Кіруй убок,– бачыш, насустрач брыг! Лявей, лявей! Ну, братва! Наваліся дружней!

– Ёсць, сэр!

Плыт выплыў на самую сярэдзіну ракі, хлопчыкі накіравалі яго па цячэнню і палажылі вёслы. Усю наступную гадзіну яны бадай што не гаварылі адзін з адным. Плыт праплыў міма таго гарадка, дзе яны нарадзіліся і выраслі. Горад спакойна спаў: сям там яшчэ свяціліся агеньчыкі, адбіваючыся ў вадзе, дзе глыбока, як дыяманты ззялі зоркі. Усе абываталі адпачывалі, не падазраючы, якая вялікая падзея адбываецца ў гэты момант.

Чорны Мсцівец усё яшчэ стаяў сярод плыта, гледзячы ў апошні раз на тыя месцы, дзе яму так добра жылося раней і дзе ён так пакутваў за апошні час. Яму вельмі хацелася, каб усе бачылі цяпер, як ён плыве сярод бурнага мора і смела глядзіць у твар смерці, ідучы насустрач пагібелі з хмурай усмешкай на вуснах. Маленькае напружанне фантазіі – і Джэксонаў востраў адсунуўся ў бясконцую далечыню. І Том «у апошні раз» паглядзеў на родны горад, з разбітым сэрцам, але задаволены.

Яго таварышы таксама глядзелі ў апошні раз і так доўга, што ледзь было не праехалі міма вострава; але паспелі схамянуцца і папярэдзіць небяспеку. Каля двух гадзін ночы плыт сеў на мель крокаў за дзвесце ад таго месца, дзе яны парашылі размясціцца, і яны доўга хадзілі ўзад і ўперад, пакуль не перацягалі туды ўсю сваю здабычу. Паміж іншым яны ўзялі з плыта стары парус і напялі яго ў прытульным кутку лесу, як палатку, каб засланіць свае прадукты. Самі-ж яны парашылі спаць у добрае надвор'е пад адкрытым небам, як належыць разбойнікам.

Яны расклалі агонь крокаў са дваццаць ад краю лесу, засмажылі сабе на патэльні крыху свініны на вячэру і з'елі палову ўзятых булак. Надзвычайна цікава было вячэраць такім чынам на прыволлі, у першабытным лесе, на недаследваным і нежылым востраве, воддалі ад чалавечага жылля, і хлопчыкі казалі, што яны больш ніколі не вернуцца да культурнага жыцця. Агонь асвятляў іх твары, кідаў чырвоныя водбліскі на тоўстыя камлі дрэў, на бліскучую зеляніну дзікага вінаграду. Калі былі з'едзены апошнія кавалачкі мяса і апошняя лустачка хлеба хлопчыкі з поўным задавальненнем выцягнуліся на траве.

– Ну, ці-ж гэта не весела? – сказаў Джо.

– Вельмі весела,– азваўся Том.

– Што сказалі-б іншыя хлопчыкі, каб убачылі нас?

– Што? Ды яны проста памерлі-б ад зайздрасці. Ці не так, Гек?

– Ды ўжо-ж так! – сказаў Гекльберы. – Не ведаю, як вы, а я

задаволены. Мне нічога лепшага і не трэба.

Звычайна я нават не наядаюся дасыта… І потым сюды ўжо ніхто не прыдзе і не паб’е чалавека нямаведама за што.

– Такое жыццё акурат для мяне,– сказаў Том. – Не трэба ўставаць рана, не трэба хадзіць у школу, не трэба мыцца і рабіць усялякія глупствы,– нічога гэтага не трэба…

– А што-ж робяць піраты? – спытаўся Гек Фін.

– О! яны жывуць вельмі весела: бяруць у палон караблі і паляць іх, грошы закапваюць у зямлю на сваім востраве, у якім-небудзь страшным месцы, дзе іх пільнуюць здані, вядзьмаркі і ўсялякая чартаўня. А матросаў і пасажыраў яны забіваюць і выкідаюць за борт.

А жанчын вязуць да сябе на востраў,– уставіў Джо,– жанчын яны не забіваюць.

– Але,– падтрымаў яго Том,–жанчын яны не забіваюць. Яны надта шляхетныя людзі. І потым жанчыны заўсёды красуні.

– А якое на іх убранне багатае! – з захапленнем усклікнуў Джо. – Усё ў золаце, срэбры, у брыльянтах!

– На кім? – спытаўся Гек.

– Ды на піратах.

Гек Фін паглядзеў на сваё ўбранне і сумна сказаў:

– Ну, а маё ўбранне зусім не разбойніцкае… Але-ж у мяне няма другога.

Хлопчыкі суцяшалі яго, кажучы, што прыгожага ўбрання чакаць яму нядоўга прыдзецца: як толькі яны пачнуць свае наскокі, у іх будзе і золата, і ўбранне, і ўсё. А для пачатку добра будзе і ў лахманах, хаця багатыя разбойнікі звычайна набываюць сабе адпаведны гарнітур, калі прыступаюць да справы.

Патроху размова спынілася: у маленькіх уцекачоў зліпаліся вочы, іх браў сон. Люлька выслізнула з пальцаў Чырвонай Рукі, і ён заснуў сном змаранага праведніка. Уладар Мораў і Чорны Мсцівец заснулі не так хутка. Яны зусім ужо гатовы былі заснуць, але ў сярэдзіне ў іх нешта не хацела супакоіцца. Іх мучыла сумленне. Яны пачыналі трошкі разумець, што зрабілі нядобра, уцёкшы з дому, потым успомнілі скрадзенае мяса і тады пачаліся сапраўдныя пакуты. Яны спрабавалі супакоіць сумленне, успамінаючы, што ім здаралася і раней шмат разоў цягаць з кладоўкі пячэнне і яблыкі, але сумленне лічыла гэтыя довады надта слабымі і не сцішалася. І хлопцы павінны былі згадзіцца, што спёрці пячэнне ці яблык – гэта не важна, а ўзяць кумпяк, свіны бок, наогул што-небудзь каштоўнае – гэта ўжо сапраўднае злачынства.

Таму яны парашылі, што пакуль яны будуць піратамі, яны не заплямяць свайго разбойніцкага гонару ганебным злачынствам – крадзежам. З гэтай умовай сумленне пагадзілася часова

замірыцца, і нашыя разбойнікі мірна паснулі.

## Раздзел XIII

Раніцою, прачнуўшыся, Том не адразу сцяміў, дзе ён.

Ён сеў, агледзеўся навакол, пацёр вочы і тады толькі зразумеў. Была прахалодная, шэрая раніца, світала. Цішыня лесу навакол навявала чароўнае пачуццё спакою. Ніводзін лісток не варушыўся, ніводзін гук не парушаў высокіх дум прыроды. На лісцях і траве ляжала, як пэрлы, раса. Агонь заглух пад белым пластам попелу, і толькі сіні дымок тонкім струменем віўся ў паветры. Джо і Гек спалі. Далёка ў глыбіні лесу крыкнула птушка, адгукнулася другая, недзе застукаў дзяцел. Адпаведна таму, як святлеў ранішні туман, раслі і множыліся гукі,– усюды прачыналася жыццё.

Раптам аднекуль з’явілася цэлая працэсія мурашак, і ўсе яны ўзяліся за работу; адзін адважна валок мёртвага павука ў пяць разоў большага за сябе самога і ўхітрыўся ўцягнуць яго на пень.

Божая кароўка, уся ў кропках, ускараскалася на галавакружальную вышыню травянога сцябла. Том схіліўся да яе і сказаў:

Божая кароўка, божая кароўка, ляці дадому.

Дом твой гарыць, а дзеткі адны.

Божая кароўка паслухалася і паляцела паглядзець дзетак. Том нават не здзівіўся: ён даўно ведаў, што божая кароўка кожнаму лёгка верыць, і, карыстаючыся гэтым, ён не раз ужо ашукваў яе.

Потым з’явіўся чорны жук, цяжка цягнучы сваё круглае цела, і Том дакрануўся да яго, каб бачыць, як ён прыцісне лапкі да цела і прытворыцца мёртвым.

Птушкі тымчасам паднялі страшэнны гам. Амерыканскі дрозд, родны брат еўрапейскага дразда-перасмешніка, усеўся на дрэве, над самай галавой Тома, і з захапленнем выводзіў свае трэлі, перадражніваючы суседзяў. Нібы блакітны агеньчык, мільганула ў паветры крыклівая сава, села на галінку зусім каля хлопчыка, схіліла галаву на бок і з вялікай цікавасцю ўтаропілася на чужака. Шпарка прабегла шэрая вавёрка і другі звярок, большы, лісінай пароды. Ён час ад часу спыняўся, каб паглядзець і папляткарыць наконт нечаканых гасцей. Звяркі, відаць, ніколі раней не бачылі людзей і нават не ведалі, ці баяцца ім ці не.

Уся прырода прачнулася. Праз густое лісце, як стрэлы, пранікалі сонечныя праменні. У паветры з’явілася некалькі матылёў. Том расштурхаў сваіх піратаў і праз дзве мінуты яны, раздзетыя, ужо ганяліся адзін за адным, дурэючы і штурхаючыся па белым пясчаным беразе. Яны зусім не цікавіліся сваім гарадком, які спаў далёка, за велічнай вадзяной пустыняй. Выпадковы струмень знёс

іхні плыт, але хлопчыкі былі нават задаволены гэтым. Гэтым яны нібы спальвалі мост паміж сабой і цывілізаваным светам.

Яны вярнуліся ў лагер надзвычайна свежымі, бадзёрымі і страшэнна галоднымі. Хутка паходны касцёр запалаў зноў. Гек знайшоў недалёка крыніцу чыстай халоднай вады, хлопчыкі зрабілі сабе чарпакі з шырокіх дубовых і арэхавых лісцяў і парашылі, што вада з дамешкай гор, лясной цішы і прахалоды зусім не горшая за каву. Джо пачаў наразаць ветчыну на снеданне, але Том і Гек папрасілі яго крыху пачакаць: яны знайшлі на беразе ўтульную мясцінку і закінулі вудачкі. Дабыча з’явілася адразу-ж. Джо не паспеў яшчэ страціць цярплівасць, як яны вярнуліся з двума вялікімі акунямі, ляшчом, двума язямі ды яшчэ дробнай рыбай – словам, са спажывай, якой можна было-б пакарміць цэлую сям’ю. Яны засмажылі рыбу разам з ветчынай і здзівіліся: ніколі яшчэ рыба не здавалася ім такой смачнай. Яны не ведалі, што рыбу лепш за ўсё смажыць зараз-жа пасля таго, як яна злоўлена, і не думалі пра тое, якім добрым прысмакам з’яўляецца сон на чыстым паветры, беганіна, купанне, а галоўнае – голад.

Паснедаўшы, яны паляглі ў цяньку, пакуль Гек выкурыў люльку, а потым пайшлі ўсе разам на разведку. Яны весела шагалі праз спарахнелыя пні, праціскаліся праз густы хмызняк, між дрэвамі, зверху да нізу павітымі паўзучым дзікім вінаградам. Раз-по-раз яны траплялі ў прыгожыя куткі, засланыя смарагдавым дыванам і аздобленыя кветкамі.

Яны выявілі, што востраў мае каля трох міль даўжыні і чверць мілі шырыні, і што процілеглы бераг аддзяляўся ад яго вузкай пратокай, шырынёю не больш за сотню крокаў.

Купаліся яны, мусіць, кожную гадзіну і таму вярнуліся ў лагер ужо значна пазней пасля поўдня. Яны былі надта галодныя, таму рыбы больш не лавілі, а замест гэтага надзвычайна добра папалуднавалі халоднай ветчыной і зноў паляглі ў цяньку адпачыць і пагутарыць. Але гутарка хутка пачала перапыняцца, а потым і зусім сціхла. Урачыстая цішыня лесу, пачуццё адзіноцтва, адлучэнне ад людзей пачыналі рабіць свой уплыў на хлопчыкаў. Яны задумаліся. Яны пачалі адчуваць нейкую невыразную нуду,– гэта пачыналася нуда па доме. Нават Фін – Чырвоная Рука – і той марыў пра знаёмы ганак і пустыя бочкі. Але кожны сароміўся сваёй слабасці, і ніхто не адважыўся выказаць голасна сваю думку.

Ужо некалькі часу хлопчыкі чулі здалёк нейкі асаблівы гук, як мы часам чуем ціканне гадзінніка, зусім не думаючы, што гэта такое. Але таямнічы гук паступова рабіўся больш выразным, і ўжо нельга было не звярнуць на яго ўвагі. Хлопчыкі ўсхапіліся, пераглянуліся і пачалі прыслухоўвацца. Настала доўгая цішыня, а потым здалёк пачулася глухое, сумнае «бум!»

– Што гэта?–шэптам усклікнуў Джо.

– Зразумець не магу! – такім-жа шэптам адказаў Том.

– Гэта, браткі, гром,–спалохана сказаў Гекльберы,– бо гром…

– Маўчы ты! – сыкнуў на яго Том. – Слухай лепш!

Яны пачакалі мінуту, якая здалася ім вечнасцю, і потым сярод урачыстай цішыні паўтарылася тое самае дзіўнае, глухое «бум».

– Пойдзем, браткі, паглядзім!

Усе тры ўскочылі і пабеглі к берагу, што быў супроць гарадка. Рассунулі кусты, выглянулі. Пасярэдзіне ракі, на мілю ніжэй ад гарадка плыў невялікі катэр; апрача таго ўзад і ўперад шнырыла многа лодак, але хлопчыкі не маглі разгледзець, што рабілі людзі, якія там сядзелі. Раптам над катэрам узвіўся слуп белага дыму,– і трэці раз той-жа глухі, смутны гук данёсся да нашых герояў.

– Цяпер я ведаю, у чым справа! – усклікнуў Том. – Нехта ўтапіўся.

– Ну, вядома,– падтрымаў Гек. Тое самае было і летась, калі ўтапіўся Біль Тэрнер; тады таксама стралялі з гарматы над вадой,– кажуць, ад гэтага ўтопленікі ўсплываюць напаверх. А яшчэ бяруць хлеб, кладуць у яго жывое срэбра і пускаюць на ваду: дзе ляжыць утопленік, там хлеб і спыніцца.

– Але, я чуў гэта,– сказаў Джо,– толькі не разумею, чаму гэта хлеб спыняецца.

– Тут справа не ў хлебе,– растлумачыў Том,– а ў тым, якія над ім словы гавораць, калі пускаюць яго па вадзе.

– І зусім нічога не гавораць! – засупярэчыў Гек. – Я сам бачыў, як пускалі на ваду, і зусім нічога не гаварылі.

–Дзіўна!.. – сказаў Том. – А можа яны пацiху гавораць, самі сабе. Ну, вядома! Аб гэтым адразу можна было здагадацца.

Хлопчыкі згадзіліся, што Том гаворыць слушна, бо цяжка было паверыць, каб звычайная луста хлеба, без замовы, магла дзейнічаць так разумна ў такой важнай справе.

– Ух, як хацеў-бы я цяпер трапіць туды! – усклікнуў Джо.

– І я таксама,– падхапіў Гек.– Вельмі ўжо хочацца ведаць, хто гэта ўтапіўся.

Хлопчыкі прыслухоўваліся і чакалі. Раптам у Тома ў галаве мільганула здагадка:

– Браточкі! Я-ж ведаю, хто гэта ўтапіўся: гэта мы!

Яны адразу адчулі сябе героямі. Ды і як было ім не ганарыцца! Іх шукаюць, аплакваюць, праз іх пасылаюць лодкі; праз іх людзі церпяць, ліюць слёзы, абвінавачваюць сябе ў несправядлівасці і ў нячуласці да бедных загінуўшых хлопчыкаў, шкадуюць іх, перажываюць дакоры сумлення, а галоўнае – і гэта лепш за ўсё – пра іх гаворыць увесь горад, ім зайздросцяць усе хлопчыкі. Ну, ці-ж можа быць лепей? Дзеля аднаго гэтага, калі на

то пайшло, варта зрабіцца разбойнікамі.

З надыходам змроку катэр вярнуўся на месца, лодкі зніклі, а піраты вярнуліся ў лагер. Яны радаваліся і задаваліся тым, што нарабілі сваёй радні і суседзям столькі клопату.

Яны налавілі рыбы, павячэралі і пачалі ўяўляць сабе, што цяпер гавораць і думаюць аб іх у горадзе, як усе гаруюць – і ад усяго гэтага хлопцам было вельмі прыемна. Але калі ночныя цені агарнулі іх, гутарка паступова спынілася; усе тры пільна глядзелі на агонь, а думкі іх, відаць, былі далёка. Уздым мінуў, і Джо з Томам не маглі не ўспомніць пра некаторых блізкіх ім асоб, якім наўрад ці было весела ад гэтай забаўнай штукі. З'явіліся сумненні, трывога. Абодва адчувалі сябе няшчаснымі: часам у іх вырываўся цяжкі ўздых. Джо нават адважыўся спытацца ў таварышоў, як яны глядзяць на зварот у горад,– не цяпер, вядома, але…

Том накінуўся на яго з насмешкамі, знішчыў яго сваёй пагардай. Гек далучыўся да Тома, і няшчасны герой паспяшаўся растлумачыць, што ён гэта толькі так. Ён усяляк стараўся зняць з сябе абвінавачанне ў тым, што адчуў нуду па дому, і быў-бы рады застацца толькі пад падазрэннем. На гэты раз бунт быў прыдушаны ў самым пачатку.

Тымчасам надышла ноч, і хлопчыкі падрыхтаваліся да сну. Першым заснуў Гек, за ім Джо, а Том некаторы час ляжаў нерухома, прыслухоўваючыся да таварышоў. Потым ён ціха ўстаў і пачаў нешта шукаць у траве. Ён знайшоў некалькі кавалкаў белай кары фігавага дрэва, выбраў два з іх і, стаўшы на калены каля агню, накрэмзаў на іх некалькі радкоў сваім сурыкам. Адзін кавалак кары ён скруціў і схаваў у кішэню, а другі палажыў у капялюш Джо. Апрача таго ён палажыў у капялюш некалькі каштоўнасцей з свайго скарбу: кавалак крэйды, гумы, тры кручка для вудачкі і адзін з шарыкаў, вядомы ім пад назвай «сапраўдны крышталь». Потым асцярожна пайшоў прэч і, адышоўшы досыць далёка, пусціўся бегчы к берагу.

## Раздзел XIV

Праз некалькі мінут Том ужо ішоў па мялізне, у вадзе, накіроўваючыся к ілінойскаму берагу. Ён прайшоў поўдарогі, пакуль вада дайшла яму да пояса, а далей ужо не давала ісці цячэнне і тады Том смела пусціўся плысці. Да процілеглага берага заставалася якіх-небудзь сто шагоў. Ён плыў супроць цячэння, але яго адносіла ўніз куды шпарчэй, як ён думаў. Але ўсё-ж такі, ён нарэшце дабраўся да берага і некаторы час ішоў уздоўж яго, пакуль не знайшоў зручнага месца, каб выйсці. Тут ён сунуў руку ў кішэнь, пераканаўся, што кара ёсць, і пайшоў далей лесам па

беразе, не звяртаючы ўвагі на тое, што з адзення яго цякла вада.

Было ўжо каля дзесяці гадзін, калі ён вышаў на адкрытае месца супроць вёскі і ўбачыў катэр, які стаяў пад дрэвамі ля высокага берага. Усё было ціха.

Пры святле зорак Том ціха краўся па беразе, напружана ўглядаючыся ў раку, саслізнуў у ваду, праплыў некалькі крокаў і ўлез у човен, які на кожны выпадак быў прывязаны да кармы катэра. Ён улёгся на дне чаўна, пад лаўкі, і са сціснутым сэрцам пачаў чакаць, што будзе.

Пачуўся звон шчарбатага званка, і нечы голас скамандваў: «Адпускай!» Праз мінуту борт катэра падняўся высока над чаўном, і флацілія рушыла ў дарогу. Том радаваўся сваёй удачы, ведаючы, што катэр у гэты дзень далей гарадка не пойдзе.

Прайшло дванаццаць ці пятнаццаць нудных мінут. Колы катэра спыніліся. Том вылез з чаўна і ў цемры паплыў к берагу. Каб не напароцца на выпадковага прахожага, ён выйшаў на бераг крокаў на пяцьдзесят ніжэй, як яму было трэба, выбіраў самыя пустынныя вуліцы і задворкамі дабраўся да дома сваёй цёткі.

Ён пералез праз плот і зірнуў у акно цётчынай спальні, бо, там відаць было святло. У пакоі сядзелі: цёця Поллі, Сід, Мэры і матка Джо Гарпера і гутарылі паміж сабой.

Яны сядзелі каля ложка, які стаяў між імі і дзвярыма. Том падышоў да дзвярэй і пачаў ціха адсоўваць засаўку; потым ціхань-ка штурхануў дзверы; яны рыпнулі; ён націскаў далей, уздрыгваючы ад кожнага рыпу; нарэшце стварылася шчыліна, праз якую ён мог пралезці на каленках і ён прасунуў галаву і папоўз.

– Чаму гэта полымя свечкі так закалыхалася? – сказала цёця Поллі. – (Том папоўз шпарчэй.) – Мабыць дзверы адчыненыя. Ну, вядома так. Што за дзіва такое? Ідзі зачыні дзверы, Сід!

Том акурат паспеў схавацца пад ложак. Ён крыху аддыхаўся, а потым падпоўз так блізка, што мог-бы дакрануцца да цётчынай нагі.

– Ды вось я і кажу,– прадаўжала цёця Поллі,– што ён быў зусім не злы, не дрэнны хлопчык, толькі свавольнік вялікі, прайдзісвет,– вядома, як хлопчык: скача, нібы жарабя тое. Хіба з яго можна спаганяць? Ён ніколі нічога не рабіў са злым намерам, і сэрца ў яго было залатое.

І яна заплакала.

– Вось таксама і мой Джо, заўсёды гатоў быў дурэць, на гэта заўсёды быў першы, а добры, добры, лепш не трэба!.. Божа, даруй мне грэшнай! Як падумаю, што я яго адлупцавала за сліўкі, а сама забылася, што гэта-ж я сама іх выліла, таму што яны пракіслі... Як успомню, што ніколі больш не ўбачу яго на гэтым свеце, ніколі, ніколі, ніколі! Бедны мой пакрыўджаны хлопчык!

І місіс Гарпер зарыдала так, нібы сэрца ў яе разрывалася на кавалкі.

– Я спадзяюся, што Тому лепш там, дзе ён цяпер – сказаў Сід. – Але, каб ён з некаторага боку быў-бы лепшым на зямлі...

– Сід! – (Том адчуў, як загарэліся ў цёткі вочы, хоць і не мог гэтага бачыць.) – Я не дазволю гаварыць дрэнна пра майго Тома цяпер, калі яго няма! Ох, місіс Гарпер, я ўжо і не ведаю, як я гэта перажыву. Проста не магу даць веры, што яго ўжо няма! Ён быў для мяне такой пацехай, хоць і раздзіраў маё старое сэрца.

– Але, гэта цяжка, ох як цяжка! Яшчэ ў мінулую суботу мой Джо стрэліў з дзіцячага пісталета пад самым маім носам, і я трэснула яго так, што ён пакаціўся. Не ведала я тады, як хутка... як хутка... Каб я ведала, я-б тады пацалавала і благаславіла яго.

– Ну але, але, я зусім разумею вашы адчуванні, місіс Гарпер, зусім разумею. Не далей як учора перад абедам мой Том напаіў ката «болесупакойнікам». Бедная жывёліна так кідалася–я думала, у доме не застанецца ніводнай рэчы цэлай. І я таксама,– даруй мне, божа,– ледзь галаву яму не прабіла сваім наперсткам. Бедны мой хлопчык, бедны мой нябожчык! Ну, цяпер ужо скончыліся ўсе яго няшчасці. І апошнія словы, якія я пачула ад яго, былі дакорам...

Але ўспаміны аб гэтым былі надта ўжо цяжкімі для старой, і яна расплакалася. Том пад ложкам таксама ўсхліпваў, але больш ад жалю да сябе самога. Ён чуў, як плакала Мэры, час ад часу памінаючы яго ласкавым словам. Усё гэта вельмі ўздымала яго ў яго ўласных вачах. Але гора цёткі вельмі расчуліла яго; яму хацелася вылезці з-пад ложка і парадаваць яе, кінуўшыся да яе ў абдымкі; апрача ўсяго, гэта быў-бы такі дасканалы тэатральны эфект. Але ён устрымаўся ад спакусы і ляжаў ціха, прыслухоўваючыся да гутаркі.

З паасобных фраз ён даведаўся, як тлумачылі сабе іхняе знікненне: спачатку думалі, што яны ўтапіліся, купаючыся, потым заўважылі, што няма плыта; пасля нехта з хлопчыкаў успомніў, што загінуўшыя таварышы абяцалі хутка чымсьці здзівіць увесь горад. Тады мясцовыя мудрацы, абмеркаваўшы справу так і гэтак, парашылі, што хлопчыкі паехалі на плыце з тым, каб высадзіцца ў бліжэйшым горадзе; але а поўдні плыт знайшлі прыбітым да берага міль за пяць-шэсць ніжэй вёскі, і тады ўсе надзеі прапалі; вырашана было, што хлопчыкі безумоўна ўтапіліся,– іначай голад прыгнаў-бы іх дахаты к ночы, калі не раней. Што тычыцца дарэмных пошукаў трупаў, то няўдачу аб'яснілі тым, што катастрофа здарылася на самай сярэдзіне ракі,– іначай хлопчыкі дабраліся-б да берага, бо яны добра ўмелі плаваць.

Быў вечар серады. Калі да нядзелі трупаў не знойдуць,

значыцца ніякай надзеі ўжо няма, і ў нядзелю было вырашана справіць малебства па памершых. Пры гэтым слове Том уздрыгануўся, яму зрабілася страшна.

Місіс Гарпер, плачучы, развіталася з усімі і накіравалася-была да дзвярэй, але спынілася, і абедзве асірацелыя жанчыны кінуліся адна да адной у абдымкі, каб яшчэ паплакаць разам перад тым, як разлучыцца.

Цёця Поллі надзвычайна пяшчотна пацалавала на нач Сіда і Мэры, прычым Сід захныкаў, а Мэры пайшла ўся ў слязах.

Тому яшчэ доўга прышлося ляжаць ціха пад ложкам нават і пасля таго, як цётка лягла спаць; яна ўвесь час трывожна паварочвалася, кашляла і цяжка ўздыхвала. Але нарэшце яна сціхла і толькі часам енчыла ў сне. Том вылез з-пад ложка, асцярожна ўстаў і, засланіўшы рукою свечку, доўга глядзеў на старую.

Ён яе шкадаваў ад усяго сэрца. Ён выцягнуў з кішэні кавалак кары і палажыў каля свечкі, але потым нешта ўспомніў, падумаў, паспешна схаваў кару назад у кішэнь, схіліўся і пацалаваў вялыя старэчыя вусны. А потым ціха вышаў, зачыніўшы за сабою дзверы на засаўку.

Ён дайшоў да прыстані, дзе звычайна стаяў катэр, і, не знайшоўшы нікога на беразе, смела ўзышоў на судна. Ён ведаў, што на ім нікога не магло быць, апрача вартаўніка, а той меў звычай спаць у каюце беспрасыпным сном.

Хлопчык адвязаў човен, ціха забраўся ў яго і пачаў плысці на вёслах уверх па рацэ. Праехаўшы каля мілі, ён накіраваў човен на процілеглы бераг і прыстаў акурат там, дзе трэба было, бо такая справа была для яго не новай. Яму вельмі хацелася прысвоіць сабе човен, бо гэта-ж было да некаторай ступені судна і, значыцца, законная здабыча пірата, але ён ведаў, што човен усюды будуць шукаць, а гэта можа навесці на след.

Таму ён проста зышоў на бераг, пасядзеў у лесе, ледзь стрымліваючы сон, і зморany павалокся да сваіх таварышоў. Ноч ужо канчалася, а калі ён дайшоў да месца пераправы, ужо зусім развіднелася. Ён пасядзеў яшчэ крыху, пакуль сонца сагрэла ваду сваімі залатымі праменнямі, а потым кінуўся ў раку і паплыў. Увесь мокры, ён з'явіўся ў лагеры акурат у тую хвіліну, калі Джо казаў:

– Не, Гек, Том чалавек надзейны. Ён не збяжыць, ён вернецца. Ён ведае, што дэзертырства для пірата – ганебны ўчынак. Ён надумаў нейкую прыгоду – вось і ўсё! Але якую прыгоду, я не ведаю.

– Ну, а рэчы ўсё-ж такі – нашы?

– Нашы, Гек, але не зусім. У пісьме сказана, каб мы ўзялі іх,

калі ён не вернецца да снедання.

– А ён ужо тут! – выскачыў Том.

Гэта быў сапраўды рэдкі тэатральны эфект...

Зараз-жа яны зрабілі сабе снеданне з ветчыны і рыбы і добрасумленна яго знішчылі, а тымчасам Том расказаў (усё як было) пра свае прыгоды. Калі расказ быў выслуханы да канца, нашы героі проста не ведалі, як ім фанабэрыцца ды задавацца.

Пад’еўшы, Том лёг у цяньку паспаць, а піраты пайшлі вудзіць рыбу і даследваць востраў.

## Раздзел XV

Пасля абеду ўся банда рушыла на бераг – па чарапашыны яйкі. Хлопчыкі тыркалі палкамі ў пясок і, дзе знаходзілі мяккую мясціну там апускаліся на калены і пачыналі капаць пясок рукамі. З некаторых ям здабывалі адразу па пяць-шэсць дзесяткаў яек. Яйкі былі зусім круглыя, белыя, крыху меншыя за грэцкі арэх. У гэты дзень у іх была багатая вячэра і такое самае снеданне ў наступную раніцу.

Пасля снедання яны скакалі і бегалі па беразе, ганяліся адзін за адным, раздзяваліся на хаду і дурэлі ў вадзе, змагаючыся з цячэннем, якое іх валіла з ног, а гэта яшчэ больш надавала весялосці. А то набяруць вады ў прыгаршчы і пачнуць пырскаць адзін аднаму ў твар. Канчалася гэта агульнай тузанінай, у часе якой усім тром даводзілася пакачацца па дне і паглытаць вады.

Выбіўшыся з сіл, яны выбягалі з вады, кідаліся на гарачы пясок і закопваліся ў яго, а потым зноў кідаліся ў ваду і зноў пачыналася тое самае. Нарэшце ім прышло ў галаву, што іхняе голае цела зусім падобнае на трыко цялеснага колеру; яны начарцілі на пяску круг і наладзілі цырк, у якім уся трупа складалася з трох клоунаў, бо ніводзін з іх не захацеў узяць іншую ролю.

Потым яны ўзялі свае галачкі і гулялі з імі, пакуль не абрыдала. Паступова яны разышліся ў розныя бакі, задумаліся, і кожны з іх з нудою глядзеў у той бок, дзе ляжаў заліты сонцам родны гарадок. Том, сам таго не заўважаючы, пісаў на пяску вялікім пальцам нагі – «Бэкі». Ён злавіў сябе на гэтым учынку, раззлаваўся на такую слабасць, і сцёр напісанае, але не мог стрымацца і зноў напісаў гэта імя, потым зноў сцёр і, каб перамагчы спакусу, далучыўся да таварышоў.

Але ў Джо зусім сапсаваўся настрой. Ён так знудзіўся па доме, што ледзь стрымліваў слёзы.

Нават Гек засумаваў. Толькі Том бадзёрыўся: у яго была тайна, якую ён пакуль што не хацеў адкрываць таварышам, але парашыў, калі яму не ўдасца скінуць з іх нуду, сказаць ім

зараз-жа. І з абыякім выглядам ён кінуў зачэпку:

– А ведаеце што: я гатоў спрачацца, што на гэтым востраве і перад намі былі піраты. Давайце абыйдзем яго яшчэ раз. Тут, напэўна, дзе-небудзь схаваны скарб. Што вы скажаце, калі мы натрапім на спарахнелы куфар, напоўнены золатам і срэбрам?

Але гэтая прапанова не выклікала асаблівага захаплення.

Том зрабіў яшчэ дзве-тры прывабныя прапановы, але ўсе яго намаганні былі дарэмныя. У яго апускаліся рукі.

Джо сумна торкаў палкай у пясок, і выгляд у яго быў самы хмурны. Нарэшце ён сказаў:

– Ох, браткі, кінем гэтую выдумку! Я хачу дадому. Тут вельмі нудна.

– Ды не, Джо, ты прызвычаішся,– угаварваў Том.– Ты падумай, як добра тутака ловіцца рыба.

– Не трэба мне ніякай рыбы,– я хачу дамоў.

– А купанне? Другога-ж такога месца для купання не знойздем.

– І купанне не памагае. Я неяк і купацца цяпер разахвоціўся, калі ніхто не забараняе. Я хачу дадому.

– Фу, якое глупства! Маленькі! Да мамкі захацеў!

– Ну але, да мамы! І табе захацелася-б, каб у цябе была маці. І зусім я не маленечкі,– мне столькі год, колькі і табе.

І Джо ціха заплакаў.

– Ну, добра, хай сабе наша плаклівае дзіцянё адпраўляецца дахаты, к мамцы, мы яго адпусцім. Так, Гек? Бедненькі, ён па мамцы знудзіўся. Ну, што-ж? Хай ідзе! Табе-ж, Гек, падабаецца тут, ці не так? Мы з табой застанемся тут?

– Та-ак,– сказаў Гек абыякім тонам.

– Я з табой больш не знаёмы,– абвясціў Джо, устаючы. – Так і ведай!

Ён панура адышоў і пачаў адзявацца.

– Невялікая бяда! – адказаў Том. – Калі ласка! Нікому ты тут і не патрэбны. Адпраўляйся дахаты, няхай з цябе ўсе смяюцца. Добры пірат, няма чаго казаць! Гек і я – не такія плаксы, як ты. Мы застанемся тут, праўда, Гек? Хай ідзе, калі хоча. Абыйдземся і без яго.

Джо, не адказваючы, панура нацягваў на сябе адзежу. Том, не гледзячы на свой напускны спакой, у душы быў устрывожаны і нават засмучоны. Яшчэ болей трывожыў яго выгляд Гека, які сумна і маўкліва сачыў за зборамі таварыша ў дарогу. Джо адзеўся і, не сказаўшы ні слова на развітанне, пайшоў у бок ілінойскага берага. У Тома сціснулася сэрца. Ён паглядзеў на Гека. Той не мог вытрымаць гэтага погляду і апусціў вочы, а потым сказаў:

– І мне таксама ахвота пайсці, Том. Неяк нудна тут стала, а

цяпер будзе яшчэ нудней. Пойдзем і мы, Том!

– Ідзі, калі хочаш, а я не пайду. Я застануся.

– Том, я лепш пайду.

– Ну ідзі–хто табе не дае?

Гек пачаў збіраць свае параскіданыя рэчы, кажучы:

– Хадзем са мной, Том! Сапраўды, падумай добра. Мы пачакаем цябе на беразе.

– Доўга вам прыдзецца чакаць.

Гек з сумам пайшоў. Том стаяў і глядзеў яму ўслед, адчуваючы вялікае жаданне схаваць у кішэнь свой гонар і пайсці за імі. Ён чакаў, што хлопчыкі спыняцца, але яны павольна адыходзілі ўсё далей і далей. Том раптам заўважыў, што навакол зрабілася неяк незвычайна пуста і ціха. Тады ён зусім перамог сваю ганарыстасць і пусціўся бегчы ўслед за таварышамі з крыкам:

– Стойце! Стойце! Мне трэба вам нешта сказаць!

Тыя спыніліся і павярнулі назад. Дагнаўшы іх, Том пачаў адкрываць ім сваю тайну. Яны спачатку слухалі яго з кіслымі мінамі, а калі ўцямілі, у чым справа, то пачалі скакаць і крычаць ад захаплення, кажучы, што гэта-ж «дзівосна» і, каб ён сказаў ім раней, яны і не падумалі-б ісці.

Хлопчыкі весела вярнуліся назад і ўзяліся зноў за гульні, увесь час балбочучы пра незвычайную выдумку Тома і дзівячыся з яго вялікага розуму. Пасля смачнага абеду з яек і рыбы, Том сказаў, што цяпер ён хоча навучыцца курыць. Джо ўхапіўся за гэтую думку і абвясціў, што ён таксама паспрабуе. Гек зрабіў люлькі і напхаў іх тытуном. Да гэтага часу абодва навічкі курылі цыгары з вінаграднага лісця, але гэтыя цыгары «кусалі» язык і наогул лічыліся нявартымі мужчын.

Яны разлягліся на зямлі, абаперліся на локці і пачалі асцярожна ўцягваць ў сябе дым без асаблівага давер'я да яго. Дым быў непрыемны на смак і душыў іх, але Том сказаў:

– Ды гэта зусім лёгка! Каб я ведаў раней, я даўно пачаў-бы курыць.

– І я таксама,– падтрымаў Джо. – Зусім плёвая справа!

– Колькі разоў глядзеў я, як іншыя кураць і думаў: «вось каб і мне навучыцца!» але быў упэўнены, што мне не ўдасца. Вось я заўсёды такі. Праўда, Гек? Ты-ж чуў гэта ад мяне? Вось няхай Гек скажа.

– Так, казаў многа разоў,– пацвердзіў Гек.

– Ну але, казаў сотні разоў. Адзін раз, памятаеш, гэта было каля бойні. Там былі яшчэ Боб Тэнэр, Джоні Мілер і Джэф Тэчэр. Ты памятаеш, Гек, што я сказаў?

– Так, памятаю. Гэта было ў той дзень, калі я згубіў свой мячык... Не, напярэдадні.

– Ну вось, Гек памятае.

– Я думаю, што я мог-бы курыць такую люльку ўвесь дзень,– сказаў Джо. – Мяне ані не нудзіць.

– І мяне таксама! – сказаў Том. Я мог-бы курыць увесь дзень, але буду спрачацца, што Джэф Тэчэр не мог-бы.

– Джэф Тэчэр? Куды яму! Ды ён і двух зацяжак не зробіць! Хай толькі паспрабуе!

– Вядома, не зробіць, і Джоні Мілер таксама. Хацеў-бы я паглядзець, як Джоні Мілер пачаў-бы курыць!

– Ды куды ён варты, Джоні Мілер! Ён нічога не ўмее. Ён ад першай зацяжкі скапыціцца.

– Праўду кажаш, Джо. Слухай: вось каб таварышы маглі нас бачыць цяпер!

– Ах, як-бы я хацеў гэтага! Слухайце-ж, браточкі, цыц, нікому ні слова! А калі-небудзь, як усе будуць у зборы, я падыйду да цябе і скажу: «Джо, ёсць у цябе люлька? Пакурыць ахвота». А ты адкажаш важна так, нібы гутарка ідзе аб глупстве: «Так, ёсць мая старая люлька і другая ёсць, толькі тытун у мяне не вельмі добры». А я скажу: «Ну, ды ўсёроўна, абы толькі быў моцны». І тады ты выцягнеш люлькі, і мы абодва закурым, як мае быць,– няхай паглядзяць!

– Вось-жа весела будзе, Том! Я-б хацеў, каб гэта было цяпер.

– І я! А калі мы ім скажам, што навучыліся курыць, калі былі піратамі, то яшчэ больш зайздросціць будуць.

– Ды ўжо-ж! Вядома, будуць.

Праз некаторы час гэтая гутарка нейк завяла і пачала перарывацца. Паўзы рабіліся даўжэйшымі. Затое колькасць сліны надзвычайна павялічылася. Рот у кожнага хлопчыка ператварыўся нібы ў фантан. Яны ледзь паспявалі ачышчаць скляпенні ў сябе пад языком, каб папярэдзіць паводку. Не гледзячы на ўсе іхнія намаганні, ім залівала горла, і кожны раз пасля гэтага рабілася млосна.

Абодва навічкі збялеліся, і выгляд у іх быў самы няшчасны. У Джо вывалілася люлька з аслаблых пальцаў, у Тома таксама. Нарэшце, Джо слабым голасам прамовіў:

– Я згубіў свой ножык, трэба пайсці пашукаць.

Том дрыжачымі губамі і перарывістым голасам вымавіў:

– Я памагу табе. Ты ідзі ў гэты бок, а я пайду вунь туды, к крыніцы. Не, Гек, ты не ідзі за намі, мы самі знойдзем.

Гек усеўся на сваё месца і чакаў больш гадзіны. Потым знудзіўся і пайшоў шукаць таварышоў. Ён знайшоў іх у лесе, далёка адзін ад аднаго; абодва былі бледныя і нейкія сонныя. Але нешта падказала яму, што калі раней ім было вельмі дрэнна, то цяпер прычына гэта адхілена.

За вячэрай абодва былі маўклівыя, глядзелі неяк баязліва, і калі Гек пасля вячэры закурыў люльку і прапанаваў ім таксама, то абодва адмовіліся, спасылаючыся на хворасць,– мабыць у абед яны з'елі што-небудзь такое, што пашкодзіла ім.

## Раздзел XVI

А поўначы Джо прачнуўся і пабудзіў таварышоў. У паветры была злавесная духата. Хлопчыкі збіліся ў кучу і ціскаліся бліжэй да агня, хоць ноч была вельмі цёплая. Яны сядзелі і ўважліва прыслухоўваліся. Ззаду ўсё танула ў непрагляднай цемры.

Раптам нешта бліснула, асвятліла лісце і знікла; потым зноў бліснула ярчэй і яшчэ, і яшчэ. У верхавінах дрэў пачуўся слабы ўздых; хлопчыкі адчулі на сваіх шчоках нечае дыханне і затрапяталі пры думцы, што гэта пранёсся «дух ночы». Потым зрабілася ціха.

І раптам зноў злавесны блеск маланкі, якая з надзвычайнай яскравасцю асвятліла кожную травінку ля кастра і тры бледныя спалоханыя дзіцячыя твары. Па лесе пракаціўся гром і заціх, адгукнуўшыся далёка глухім грукатам. Падзьмуў халодны вецер, зашамацеў усім лісцем разам і раскідаў попел вакол кастра.

Зноў бліснула маланка, і ў тую-ж секунду ўдарыў гром. Хлопчыкам здалося, што ад гэтага грукату дрэвы валяцца ім на галовы. Сярод надышоўшай цемры яны з жахам прыцісналіся адзін да аднаго. Па лісцях застукалі першыя буйныя каплі дажджу.

– Хутчэй, рэбяты, у палатку! – крыкнуў Том.

Яны кінуліся бегчы, спатыкаючыся аб карэнні і чапляючыся за ліяны. У лесе бушавала страшэнная бура, і ўсё са стогнам гнулася пад яе напорам. Яркая маланка бліскала бадай што бесперапынна адна ўслед за другой і кожная суправаджалася аглушальным громам. Дождж паліў як з вядра.

Хлопчыкі з крыкам клікалі адзін аднаго, але рэў буры і грамовыя ўдары заглушалі іх галасы. Адзін за адным дабеглі яны да палаткі і схаваліся пад ёй, прадрыжэлыя, падрапаныя, прамоклыя да ніткі; з іх адзення струменямі цякла вада; але кожны быў задаволены хоць тым, што ў яго ёсць таварышы па няшчасцю. Размаўляць ім нельга было, нават каб бура і не заглушала іхных галасоў, бо надта ўжо пляскаў парус над іх галавой.

Навальніца ўсё ўзмацнялася. Нарэшце вецер сарваў парус, і ён закружыўся па воле ветру. Хлопчыкі ўхапіліся за рукі і, штохвілінна спатыкаючыся і насадзіўшы сабе гузакоў, пабеглі пад ахову вялікага дуба, што стаяў на беразе.

Цяпер стыхіі разгуляліся на поўную сілу. Пад несупынным блескам маланак усё вырысоўвалася з незвычайнай выразнасцю:

нахіленыя дрэвы, пеністая рака, цмяныя абрысы высокіх уцёсаў на другім беразе. То там, то сям які-небудзь лясны волат нібы ў бойцы валіўся на зямлю, ламаючы маладыя дрэвы вакол сябе; неаслабны грукат грому перарываўся цяпер адрывістымі выбухамі, рэзкімі, сухімі, якія напаўнялі душу невыказным жахам. К канцу навальніца напружыла ўсе свае сілы і забушавала яшчэ з большай лютасцю; здавалася, яна разарве востраў на кавалкі, спаліць яго, вырве з карэннямі дрэвы, сатрэ яго з зямлі. То была жудасная ноч для беспрытульных дзяцей.

Але нарэшце бойка сціхла, і стыхіі пачалі супакойвацца. Грукат грому рабіўся ўсё цішэйшым, паступова ў лесе зноў стала ціха. Хлопчыкі вярнуліся ў свой лагер напалоханыя, але тут выявілася, што ім усё-ж такі пашанцавала, бо тое вялікае фігавае дрэва, пад якім яны заўсёды начавалі, пашчапала маланка, і яны загінулі-б, каб засталіся пад ім.

Усё ў лагеры прамокла наскрозь. Агонь пагас: хлопчыкі па сваёй дурноце не зрабілі ніякіх захадаў, каб яго захаваць. Гэта было вельмі непрыемна, бо ўсе тры прамоклі да касцей і дрыжэлі ад холаду. Яны вельмі красамоўна выказвалі сваю прыкрасць, але потым заўважылі, што агонь прабраўся так далёка пад вялікі пень, ля якога быў раскладзены, што некалькі вугольчыкаў выратаваліся ад вады.

Хлопчыкі ўзяліся за справу, пачалі збіраць ламачча і кару ў схаваных ад дажджу кутках і пасля доўгіх, цярплівых намаганняў расклалі агонь. Яны навалілі туды як мага больш галля, зрабілі вялізны касцёр – і бадзёрасць зноў вярнулася да іх. Над агнем яны высушылі сваю прамоклую ветчыну, пад'елі, расселіся вакол кастра і да раніцы гутарылі пра свае прыгоды: спаць усёроўна нельга было, бо навакол не было ніводнай сухой мясцінкі.

З першымі праменнямі сонца нашых герояў пачала асільваць дрымота, і яны палеглі на беразе, на мокрым пяску.

Калі сонца прыпякло іх, яны падняліся і млява пачалі рыхтаваць сабе снеданне. Але і пасля ежы яны адчувалі сябе зморанымі; усё цела ламіла; зноў вярнуўся сум па доме.

Том прыкмеціў гэты сум і рабіў усё, што мог, каб развесяліць сваіх таварышоў. Але іх не цешылі ні галачкі, ні цырк, ні купанне. Ён напомніў ім пра вялікую тайну і яму ўдалося крыху ажывіць іх. Том скарыстаў гэта і паспяшаўся зацікавіць іх новай выдумкай, прапанаваўшы ім часова пакінуць разбой і зрабіцца індзейцамі. Гэтая думка здалася ім прывабнай. Яны мігам раздзеліся, выпэцкаліся ад ног да галавы гразёю, зрабіліся паласатымі, як зебры, і пайшлі ў лес нападаць на англійскае паселішча. Пры гэтым усе тры, вядома, былі правадырамі.

Потым яны падзяліліся на тры варожых плямені, з

ваяўнічымі крыкамі выскоквалі з засады і кідаліся адзін да аднаго, забіваючы і скальпуючы [4] ворага тысячамі. Бойка была гарачая і хлопчыкі засталіся задаволеныя.

Вярнуліся ў лагер вячэраць галодныя і шчаслівыя. Але тут узнікла неспадзяваная труднасць: варожыя індзейцы не маглі разам есці хлеб, пакуль не памірацца між сабой, а пры гэтым абавязкова трэба было выкурыць «люльку міру». Яны ніколі не чулі, каб стварыць згоду можна было без гэтага. Двое з іх пашкадавалі, чаму яны не засталіся піратамі. Але нічога не заставалася рабіць,– і надаючы сабе вясёлы выгляд, яны па чарзе пачалі зацягвацца з люлькі.

І што-ж! Цяпер яны ўжо радаваліся, што ператварыліся ў дзікуноў, бо яны ад гэтага нешта выйгралі: яны ўбачылі, што цяпер ўжо сяк-так могуць курыць, не маючы патрэбы ісці шукаць згублены нож; калі ім і было крыху дрэнна, то не на столькі, каб лічыць гэта сур'ёзнай перашкодай. Вядома, яны паспяшаліся скарыстаць такую магчымасць і пасля вячэры для практыкі паўтарылі вопыт з поўным поспехам. Дзякуючы гэтаму, вечар прайшоў вельмі прыемна. Яны цешыліся, ганарыліся і былі такія шчаслівыя ад свайго новага ўмення, як быццам ім пашанцавала аскальпаваць і садраць скуру з шасці індзейскіх пляменняў адразу.

## Раздзел XVII

Не так весела было ў маленькім гарадку ў ціхі суботні вечар. Гарперы і сям’я цёці Поллі з вялікім горам і слязмі ўбраліся ў жалобу. У пасёлку і наогул было не надта шумна, а цяпер у ім была нязвычайная цішыня. Абывацелі задуменна рабілі свае справы і часта ўздыхвалі. Дзецям суботні адпачынак, здавалася, быў не на радасць. Гульні не ладзіліся, і паступова дзеці зусім адмовіліся ад іх.

Пад вечар Бэкі Тэчэр сумна сядзела адна на школьным двары і, не знаходзячы ні ў чым уцехі, гутарыла сама з сабой.

– Хоць-бы ў мяне засталася тая медная шпонка, што ён падараваў мне, а то мне нават і памянуць яго няма чым.

Бэкі ўсхліпнула, потым казала далей:

– Гэта акурат тутака і было... О, каб можна было паўтарыць нашу сустрэчу, я не казала-б яму такіх злых слоў! Але яго няма, і я ніколі, ніколі больш не ўбачу яго.

Гэтая думка забівала яе, і яна пайшла ўся ў слязах.

Потым прышоў цэлы гурт хлопчыкаў і дзяўчынак, школьных таварышоў Тома; стоячы ля плота і сцішыўшы голас у знак

[4] Скальпаваць, або здымаць скальп – звычай індзейцаў здымаць з галавы ворага валасы разам са скурай.

пашаны да нябожчыкаў, яны ўспаміналі, як Том зрабіў тое і тое і што сказаў Джо, прычым у кожным яго слове бачылі цяпер злавеснае прароцтва. І кожны дакладна паказваў тое месца, дзе стаялі загінуўшыя хлопчыкі, і пры гэтым сказаў: «А я стаяў вось так, як цяпер стаю, а ён – як ты стаіш, і ён усміхнуўся вось так, і на мяне раптам нешта такое найшло, неяк жудасна зрабілася, разумееце? – Ну, тады я, вядома, не ведаў, што гэта значыць, а цяпер разумею!»

Пачаліся спрэчкі аб тым, хто апошнім бачыў хлопчыкаў жывымі; шмат хто спрабаваў прыпісаць сабе гэты гонар, але паказаннямі сведак гэта абвяргалася; калі-ж нарэшце высветлілі, хто апошні бачыў загінуўшых таварышоў і размаўляў з імі, то гэтыя шчаслiўцы пачалі вельмі задавацца, а ўсе іншыя глядзелі на іх і зайздросцілі. Адзін хлапчук, не знайшоўшы нічога лепшага, з гонарам заявіў:

– Том Соўэр аднаго разу мяне здорава пабіў.

Але яго спроба набыць сабе славу не ўдалася. Тое самае маглі сказаць пра сябе бадай усе хлопчыкі, так што лаўры яго вышлі надта таннымі. Група разышлася, не спыняючы гутаркі пра загінуўшых герояў.

На другі дзень, пасля заняткаў у школе, заместа звычайнага званка, пачуліся мерныя, працяглыя ўдары царкоўнага звана. Адзін за адным пайшлі ў царкву парафіяне, спыняючыся на парозе, каб шэптам пагутарыць аб сумным здарэнні. Ніхто не мог успомніць, каб маленькая царква калі-небудзь была такая поўная. Зрабілася ціха, і ў царкву ўвайшлі цёця Поллі з Сідам і Мэры, а за імі сям'я Гарпер – усе ў жалобе. Усе, як адзін чалавек, у тым ліку і стары пастар, пачціва ўсталі і стаялі ўвесь час, пакуль радня загінуўшых не расселася на пярэдняй лаве. Потым зноў настала цішыня, перарываемая толькі прыглушанымі рыданнямі.

Нарэшце пастар распасцёр рукі і пачаў службу. Праспявалі чуллівы гімн, потым была пропаведзь на тэкст: «Я ёсць уваскрасенне і жыццё».

Пастар намаляваў такую яскравую карціну вартасцей, прывабнасці і незвычайнай здольнасці загінуўшых хлопчыкаў, што не засталося ў царкве ніводнага чалавека, які не пашкадаваў-бы і не журыўся, што ён увесь час упарта не хацеў бачыць вартасці бедных хлопчыкаў, а ўпарта бачыў у іх адны толькі недахопы і заганы.

Прамова пастара рабілася ўсё больш чуллівая, публіка ўсё больш расчулівалася і, нарэшце, хорам далучылася да рыданняў радні, нават сам пастар не мог стрымацца і заплакаў на кафедры.

На хорах пачуўся якісьці шум, на які ніхто не звярнуў увагі; праз хвіліну рыпнулі ўваходныя дзверы. Пастар падняў заплака-

ныя вочы над насавой хустачкай і... скамянеў ад здзіўлення.

Убачыўшы гэта, зірнулі ў той бок адзін, другі чалавек – і праз момант усе, як адзін, усталі з месц, гледзячы на трох нябожчыкаў, якія ішлі к алтару: Том наперадзе, за ім Джо і ззаду за імі Гек, які панура пазіраў на свае адзенне, ад якога засталіся адны шматкі. Яны ўсе сядзелі на хорах, слухаючы пахавальную прамову аб сабе.

Цёця Поллі, Мэры і Гарперы кінуліся да сваіх улюбёных, пачалі цалаваць, а бедны Гек стаяў засаромлены, не ведаючы, што яму рабіць і куды дзецца ад стольхіх накіраваных на яго неласкавых поглядаў. Ён азіраўся па баках і ўжо хацеў быў уцячы, але Том схапіў яго за руку і сказаў:

– Цёця Поллі, так нельга! Хто-небудзь павінен-жа парадавацца і з Гека.

– Ну, вядома, галубок мой! Я ад усёй душы рада бачыць яго, беднага сіротку!

І цёця Поллі пачала лашчыць Гека, ад чаго той яшчэ больш засароміўся.

Потым усе заспявалі. Старадаўні падзячны гімн загучэў, як ніколі – і морскі разбойнік Том Соўэр, азіраючыся на зайздросціўшых яму таварышоў, адчуваў, што гэта лепшая мінута ў яго жыцці.

У гэты дзень Тому дасталося пстрычак і пацалункаў – у залежнасці ад настрою цёці Поллі – столькі, што хапіла-б на цэлы год.

## Раздзел XVIII

Гэта і быў вялікі таемны замысел Тома – вярнуцца дадому ўсім разам і прысутнічаць на сваім уласным пахаванні. Яны ў суботу дабраліся на бервяне да процілеглага берага, выйшлі на пяць-шэсць міль ніжэй ад вёскі, начавалі ў лесе, недалёка ад ваколіцы, ледзь золак прабраліся задворкамі ў горад і добра выспаліся на царкоўных хорах сярод гурбаў зламаных лавак.

У панядзелак раніцою, у часе снедання, цёця Поллі і Мэры былі надзвычайна ласкавыя да Тома і з ахвотай: выконвалі ўсе яго жаданні. У часе гутаркі, вельмі жвавай, цёця Поллі сказала:

– Бачыш, Том, я не кажу, што гэта не цікава – прымусіць усіх мучыцца цэлы тыдзень, абы толькі вам было весела; але мне вельмі прыкра, што ў цябе такое злое сэрца і ты так мала мяне любіш. Калі ты мог пераплыць раку на бервяне, каб прысутнічаць на ўласным пахаванні, то ты мог-бы зірнуць і ў хату, каб даць мне які-небудзь знак, што ты не памёр, а толькі ўцёк.

– Але, гэта ты мог зрабіць, Том,– сказала Мэры,– і вядома зрабіў-бы, каб гэта прышло табе ў галаву.

– Праўда, Том? Ты зрабіў-бы,– і цёця Поллі журботна ўсміхнулася.– Ну, скажы, зрабіў-бы, каб гэта прышло табе ў галаву.

– Я не ведаю... Гэта-ж усё папсавала-б...

– Ах, Том, а я ўсё спадзявалася, што ты хоць трошкі любіш мяне! – сказала цёця прыкрым голасам, ад якога хлопчыку зрабілася няёмка.– Каб ты хоць падумаў аб гэтым,– не кажу ўжо каб зрабіў,– але ты нават і не падумаў.

– Ну, цёця, гэта яшчэ не бяда,– умяшалася Мэры.– У Тома-ж наогул вецер у галаве, і ён заўсёды мае столькі клопату, што яму зусім няма калі думаць.

– Тым больш шкода. Сід падумаў-бы. І Сід прышоў-бы. Ах, Том, калі-небудзь ты пашкадуеш, што не стараўся хоць трошкі любіць мяне; пашкадуеш, але будзе позна.

– Ну, годзе, цёця, вы-ж ведаеце, што я вас люблю,– сказаў Том.

– Я лепш гэта ведала-б, каб гэта хоць крыху было відаць з тваіх учынкаў.

– Я цяпер вельмі шкадую, што мне гэта не прышло ў галаву,– сказаў Том тонам раскаяння. – Затое я хоць ува сне вас бачыў, гэта-ж таксама чаго-небудзь варта.

– Ну, не надта,– нават, кошкі сняць,– але ўсё-ж лепш, як нічога. Што-ж табе снілася?

– А вось што. У сераду вечарам я сніў, нібы вы сядзіцё ля ложка, а Сід каля вас на драўлянай скрыні, а ля яго Мэры.

– Што-ж, мы так і сядзелі. Мы так заўсёды сядзім. Я рада, што хоць сон напомніў табе нашы прывычкі.

– Потым мне снілася, што тут-жа сядзіць маці Джо Гарпера.

– Але-ж яна і сапраўды была тут! Што-ж табе яшчэ снілася.

– О, многа чаго! Ды толькі я цяпер слаба памятаю.

– Ну, паспрабуй успомніць! Няўжо не можаш?

– Яшчэ мне здалося ўва сне, што вецер... вецер...

– Прыпомні, Том, што зрабіў вецер?

Том прыціснуў пальцы да ілба і пасля хвіліны трывожнага чакання ўсклікнуў:

– Успомніў, успомніў! Вецер пагасіў свечку.

– О божа! Далей, Том, далей!

– Потым вы нібы сказалі: «Здаецца, нібы дзверы...»

– Далей, Том, далей!

– Пачакайце, дайце ўспомніць... Ах, так! вы сказалі, што вам здаецца, нібы дзверы адчыненыя.

– Ды я-ж іменна гэта і сказала. Памятаеш, Мэры? Ну далей!

– Потым... потым... Ну, я не памятаю, я не ўпэўнены, але мне здаецца, нібы вы паслалі Сіда, каб ён... каб ён...

– Ну? ну? Што я сказала яму зрабіць?

– Вы сказалі яму, вы... загадалі яму зачыніць дзверы.

– Божа літасцівы! Ніколі не чула я такога. Вось пасля гэтага і не давай веры снам. Зараз-жа пабягу расказаць усё гэта місіс Гарпер. Паглядзім, ці будзе яна пасля гэтага казаць усялякія глупствы пра забабоны. Расказвай-жа, Том, што было далей!

– О, цяпер я ўсё ўспомніў, цёця! Потым вы сказалі, што я не злы, а толькі свавольнік і прайдзісвет, і што з мяне спаганяць ўсёроўна, што – гэта вы сказалі? – з жарабяці, ці што.

– Ну але, я іменна так і сказала. Ах, божа мой! Ну, што-ж далей, Том?

– Потым вы заплакалі.

– Верна, верна, заплакала, і не першы раз. Потым?

– Потым місіс Гарпер таксама заплакала і пачала гаварыць, што Джо таксама добры і ёй шкода, што яна пабіла яго за сліўкі, калі яна сама выплехнула іх.

– Гэта быў прароцкі сон. Ну, расказвай далей!

– Потым Сід сказаў...

– Я, здаецца, нічога не сказаў.

– Не, Сід, ты сказаў,– паправіла Мэры.

– Ціха, не перашкаджайце яму! Ну, Том, што-ж ён сказаў?

– Ён сказаў, што ён спадзяецца, што мне там лепш, дзе я цяпер. Але, каб я раней быў лепшы...

– Божа-ж мой! Вы чуеце? Гэта-ж яго сапраўдныя словы.

– І вы за гэта пасварыліся на яго.

– Вядома пасварылася. Не, тут быў ангел. Гэты ангел цябе натхнуў!

– Потым місіс Гарпер пачала расказваць пра Джо, як ён страляў з пісталета пад самым яе носам, а вы ёй расказвалі пра ката Піта і пра лякарства...

– Зусім правільна!

– Потым вы доўга гаварылі, як нас шукалі ў рацэ, і што ў нядзелю будзе наша пахаванне, а потым вы з місіс Гарпер пачалі абыймацца і плакаць, і пасля таго яна вышла!

– Так, акурат так! Хай не ўстану я з гэтага месца, калі не так! Каб ты сам ўсё бачыў і чуў сваімі вушамі, Том, ты не мог-бы расказаць дакладней. Ну, а потым што было?

– А потым вы ляглі, і мне было так шкода вас, што я ўзяў ды і напісаў на кавалку кары: «Мы не памерлі, мы толькі ўцяклі, каб зрабіцца піратамі», і палажыў на стол каля свечкі, а вы ў гэты час спалі, і твар у вас быў такі добры-добры, што я падышоў, нагнуўся і пацалаваў вас проста ў губы.

– Гэта праўда, Том, праўда? Ну тады я ўсё табе дарую.

І яна так сціснула хлопчыка ў абдымках, што ён адчуў сябе апошнім нягоднікам.

– Гэта было вельмі міла з яго боку, хоць гэта і быў толькі сон,– заўважыў Сід нібы сам сабе.

– Маўчы, Сід! Чалавек ува сне робіць тое самае, што ён зрабіў-бы ўяве. Вось табе вялікі яблык,– я наўмысля хавала яго для цябе на выпадак, калі ты знойдзешся. Але, дзеткі, вам ужо трэба ісці.

Дзеці пайшлі ў школу, а старая цётка к місіс Гарпер – расказаць цудоўны сон пляменніка. Сід не палічыў патрэбным выказаць тое, што ён думаў, ідучы з дому. А думаў ён вось што:

«Ці-ж можна бачыць такі доўгі і складны сон! Усё гэта выдумкі!»

Якім героем зрабіўся цяпер Том. Ён ужо не скакаў, а трымаў сябе горда, з гонарам, як і належыць пірату, які адчувае, што на яго глядзіць увесь свет. Ён рабіў выгляд, што не заўважае накірованых на яго поглядаў і не чуе заўваг аб ім, але ў душы адчуваў вялікую асалоду і ад гэтых позіркаў, і ад заўваг.

Маленькія хлопчыкі чарадой бегалі за ім і ганарыліся тым, што іх бачылі разам з ім і што ён не гнаў іх ад сябе, а ішоў нібы барабаншчык перад працэсіяй, або слон на чале цэлага звярынца. Яго равеснікі прытвараліся, нібы нічога не ведалі пра яго адсутнасць, але тым не менш страшэнна зайздросцілі яму. Яны аддалі-б ўсё на свеце, каб мець яго смуглую, засмаленую сонцам скуру і яго славутасць.

У школе вучні так насіліся з ім і Джо, і ў іх поглядах відаць было такое красамоўнае захапленне, што абодва героі вельмі хутка сталі празмерна задавацца. Яны пачыналі расказваць свае прыгоды прагным слухачам, але толькі пачыналі, бо скончыць у іх нехапала фантазіі. Калі-ж нарэшце яны выцягнулі свае люлькі і пачалі дыміць з абыякім выглядам, то слава іх паднялася на недасяжную вышыню.

Том парашыў, што цяпер ён можа абыйсціся без Бэкі Тэчэр. Яму досыць і славы. Ён будзе жыць для славы. Цяпер, калі ён такі славуты, можа яна і захоча мірыцца. Ну, і хай сабе! – Яна ўбачыць, што ён можа быць такім самым безуважным, як і некаторыя з дзяўчынак.

У гэты момант прышла Бэкі. Том зрабіў выгляд, што не бачыць яе. Ён адышоў і далучыўся да групы хлопчыкаў і дзяўчынак, дзе зараз-жа пачалася гутарка. Хутка Том убачыў, што Бэкі з палаючым тварам і бліскучымі вачыма весела ганялася за таварышкамі, гучна рагочучы кожны раз, калі ўдавалася каго-небудзь злавіць. Здавалася, яна цалкам была занятая гэтай гульнёй, але ў той-жа самы час Том заўважыў, што яна ўвесь час старалася быць бліжэй да яго і, відаць, сачыла за ім. Гэта надавала яму гонару, але ён усё прытвараўся, што не заўважае яе. Тады яна

перастала ганяцца за дзяўчынкамі і нерашуча пачала хадзіць воддалі, час ад часу ўздыхаючы і цішком пазіраючы на Тома. Раптам яна заўважыла, што Том больш за ўсіх гутарыць з Эмі Лорэнс. Яна падышла бліжэй, стала бадай побач з імі і нібы вясёлым тонам звярнулася да адной з сваіх таварышак:

– Якая ты нядобрая, Мэры-Ганна! Чаму ты не была ў нядзельнай школе?

– Я была. Ці-ж ты мяне не бачыла?

– Не, не бачыла. Дзе-ж ты сядзела?

– Як заўсёды, у класе міс Пітэрс. Я цябе бачыла.

– Няўжо? Як дзіўна, што я цябе не заўважыла. Я хацела расказаць табе, што ў нас будзе пікнік.

– А, гэта цікава. Хто-ж наладжвае яго?

– Мама наладжвае для мяне.

– Ах, як добра! А што, ці запросіць яна мяне?

– Ну, вядома. Пікнік-жа наладжваецца для мяне,– значыцца, яна папросіць усіх тых, каго я захачу, а я хачу, каб і ты была з намі.

– Вельмі міла з твайго боку. А калі будзе пікнік?

– Яшчэ не ведаю. Можа, на канікулах.

– Вось будзе весела! Ты паклічаш усіх хлопчыкаў і дзяўчынак?

– Але, усіх, хто са мной сябруе або хоча быць маім сябрам.

І яна цішком зірнула на Тома, але той у гэты час расказаў Эмі Лорэнс пра страшэнную буру на астраўку і пра тое, як маланка разбіла вялікае фігавае дрэва «ў самыя трэскі», у той час яны стаялі за тры крокі ад дрэва.

– А мне можна прыйсці? – спытала Грэсі Мілер.

– Можна.

– І мне?–спыталася Салі Роджэс.

– Вядома.

– І мне таксама? – сказала Сузі Гарпер. – І Джо можна?

– Ну але!

Усе пыталіся таксама і ўсе радасна пляскалі рукамі, атрымаўшы станоўчы адказ, так што нарэшце ўсе былі запрошаныя, апрача Тома і Эмі.

Але Том спакойна адышоў, не спыняючы гутаркі, і павёў з сабой Эмі. У Бэкі дрыжэлі губы, і слёзы выступілі на вачах, але яна схавала сваё нездавальненне пад вясёлым выглядам і балбатала, як і раней. Але цікавасць да пікніка ў яе страцілася, як і наогул да ўсяго іншага. Яна адышла ад таварышак, схавалася ў куток і сядзела там пакрыўджаная і панурая, пакуль не пазванілі ў клас.

Тады яна ўстала і з сярдзітым блескам у вачах сказала сабе, што цяпер яна ведае, што рабіць.

У часе перапынку Том усё гутарыў з Эмі Лорэнс і знарок

пайшоў шукаць Бэкі, каб падражніць яе. Ён знайшоў яе на невялікай лавачцы па-за школай,– яна разглядала кнігу з малюнкамі разам з Альфрэдам Тэмплем, і абодва былі так захоплены гэтым заняткам, што, здавалася, нічога не бачылі навокал.

Тому вельмі прыкра зрабілася, што ён адмовіўся скарыстаць шлях да прымірэння, які паказвала яму Бэкі. Ён лаяў сябе, як толькі мог. Эмі весела лапатала сабе, але ў Тома нібы язык адсох. Ён не слухаў яе, і, калі яна спынялася, чакаючы адказу, ён мармытаў нешта нясkладнае, што часам не мела ніякага дачынення да яе слоў. Пры гэтым ён увесь час кіраваў так, каб прайсці каля лавачкі. Вясёлая балбатня Эмі нарэшце зусім абрыдала яму. Том намякаў ёй, што яму трэба і туды і сюды, зрабіць тое і сёе, што час ідзе, але дарэмна,– дзяўчынка не спынялася. «Ах, каб цябе!» думаў Том: «Няўжо-ж я ніколі ад цябе не адчаплюся?» Нарэшце ён абвясціў, што яму трэба пайсці дадому, і адышоў, з нянавісцю да яе.

«І хоць-бы хто іншы», думаў Том, «хоць абы хто, толькі не гэты франт з Сан-Луі, які задаецца, што ён гэтак фасоніста ўбраны і мае арыстакратычны выгляд. Ну, пачакай-жа ж ты! Я табе даў чосу ў першы дзень, калі ты з'явіўся ў нашым горадзе, і зноў дам. Пачакай ты ў мяне, францік,– дабяруся я да цябе!»

І Том, каб спагнаць злосць, пачаў размахваць рукамі ў паветры, нібы калашмацячы свайго ворага і так і гэтак. «Вось табе! Вось табе! Што, атрымаў? Досыць ужо? Ну, глядзі, у другі раз не совай свой нос!» Бойка скончылася поўнай перамогай Тома, пасля чаго ён пабег дахаты.

Бэкі ўсё разглядала малюнкі з Альфрэдам. Але час ішоў, а Том не вяртаўся, і гэта псавала яе настрой. Малюнкі абрыдалі ёй, яна зрабілася сур'ёзнай і безуважнай, потым маркотнай, а нарэшце адчула сябе зусім няшчаснай і шкадавала, што завяла сваю помсту так далёка.

Небарака Альфрэд, заўважыўшы, што яна чамусьці перастала звяртаць на яго ўвагу, безупынна ўскрыкваў:

– Ах, вось які прыгожанькі малюнак! Глянь сюды!

Дзяўчынка нарэшце страціла цярплівасць і крыкнула:

– Ах, адчапіцеся вы ад мяне з вашымі малюнкамі. Вы мне абрыдалі.

Расплакалася і пайшла. Альфрэд кінуўся за ёю, пачаў яе суцяшаць, але яна сказала:

– Адыйдзіце! Пакіньце мяне адну! Я вас ненавіджу!

Хлопчык спыніўся, не разумеючы, што ён зрабіў ёй. Яна абяцала, што ўвесь перапынак будзе разглядаць з ім малюнкі – і раптам пайшла. Альфрэд сумна ўсеўся ў пустым крэсле. Ён быў засаромлены і сярдзіты. Мабыць дзяўчынка размаўляла з ім толькі дзеля таго, каб пазлаваць Тома Соўэра.

Ад гэтай думкі ў ім абудзілася нянавісць да Тома. Яму захацелася прыдумаць які-небудзь спосаб, каб пашкодзіць ворагу, але без рызыкі для сябе. Тут яму трапілася на вочы кніга Тома для класнага чытання. Вось добры выпадак!

Ён разгарнуў кнігу ў тым месцы, дзе была задана лекцыя, і заліў чарнiламі старонку. Бэкі акурат у гэтую хвіліну глянула ў акно ззаду ад яго і ўбачыла, што ён зрабіў, але адышла, не паказаўшыся. Яна пабегла ў бок дома, спадзяючыся спаткаць Тома і расказаць яму пра кнігу. Том парадуецца, будзе ёй удзячны,– і ўсе непрыемнасці скончацца.

Але на поўдарозе яна раздумалася: ёй успомнілася, як Том наўмысля не звяртаў на яе ўвагі, калі яна гаварыла пра пікнік, і яна парашыла не ўмешвацца ў гэтую справу. Хай сабе яго адлупцуюць за папсаваную кнігу, ёй усёроўна: яна яго ненавідзіць!

## Раздзел XIX

Том прышоў дадому пануры і з першых-жа слоў цёткі зразумеў, што тут яго гора не сустрэне спачування.

– Ну, Том, я, здаецца, з цябе ўсю скуру здзяру!

– Цёця, што-ж я зрабіў?

– Досыць! Я, старая дурніца, іду да місіс Гарпер, каб расказаць ёй пра незвычайны сон,– і што-ж выяўляецца? Яна выпытала ў Джо, што ты быў тут. Што можа выйсці з хлопчыка, які так бессумленна брэша! Як мог ты не сказаць ні слова і дапусціць мяне ісці да місіс Гарпер, каб усе смяяліся з мяне, як з дурной?

Такі паварот справы быў для Тома новым. Раніцою яго ўчынак здаваўся яму зусім няшкодным, дасціпным жартам, цяпер-жа ён убачыў, што зрабіў дрэнна, агідна. Ён павесіў галаву і ў першы момант не ведаў, што адказаць; потым сказаў:

– Цёця, мне шкода, што я гэта зрабіў, я не падумаў.

– Ах, дзіця, ты ніколі не падумаеш! Ты ніколі ні пра што не падумаеш, апрача прыемнасці для сябе самога. Вось прышло табе ў галаву прыйсці сюды з Джэксонава вострава ўначы, каб пасмяяцца з нашага гора. Прышло ў галаву абдурыць мяне расказамі пра свой сон, а вось пашкадаваць нас ды не рабіць прыкрасцей – аб гэтым ты не падумаў.

– Цёця, я цяпер разумею, што гэта было пагана з майго боку, але я не хацеў зрабіць подласць,– чэснае слова, не хацеў. і тады ўвечары я прышоў зусім не для таго, каб смяяцца з вас.

– А для чаго-ж?

– Я хацеў сказаць вам, што мы не ўтапіліся, каб вы не трывожыліся.

– Том, Том! Я была-б рада ад усёй душы, каб магла даць веры,

што табе ў галаву прышла такая добрая думка, але ты сам ведаеш, што гэта ў цябе не бывае, і я гэта ведаю, Том.

– Праўда-ж, праўда, я дзеля гэтага прыходзіў, цёця. Каб мне не сыйсці з гэтага месца, калі я брашу!

– Ах, Том, не лжы, не лжы! Гэта яшчэ ў сто разоў горш.

– Гэта не хлусня, цёця, гэта праўда. Мне шкода было, што вы сумуеце,– вось я і прышоў.

– Я дала-б усё на свеце, каб паверыць табе,– за гэта можна было-б дараваць табе шмат грахоў. Я нават гатова была-б радавацца, што ты ўцёк і зрабіў так дрэнна. Але я ніяк не магу гэтаму даць веры. Чаму-ж ты тады не адкрыўся мне, дзіця маё?

– Бачыце, цёця, калі вы пачалі гаварыць аб пахаванні, мне і прышла ў галаву думка – забрацца ў царкву і схавацца, і так гэта мне здалося цікавым, што я ні за вошта не хацеў ад гэтага адмовіцца. Таму я палажыў кару ў кішэнь і прамаўчаў.

– Якую кару?

– А тую, дзе я напісаў вам, што мы пайшлі ў разбойнікі. Я так цяпер шкадую, што вы не прачнуліся, калі я вас пацалаваў, страшэнна шкадую – чэснае слова!

Суровы выраз твара цёткі памякчэў, і ў вачах яе засвяцілася пяшчотнасць.

– А ты, праўда, пацалаваў мяне, Том?

– Ну але, пацалаваў.

– Ты ўпэўнены ў гэтым?

– Ну, вядома, упэўнены.

– Навошта-ж ты мяне пацалаваў, Том?

– Таму што я так вас люблю, і вы стагналі ўва сне, і мне было вас так шкода.

Гэтыя словы гучэлі шчырасцю. У старой дрыгнуў голас, калі яна сказала:

– Пацалуй мяне, Том! А цяпер ідзі ў школу і больш не лезь да мяне.

Праз хвіліну Том ужо ішоў у школу, а цёця Поллі пабегла ў камору, дзе віселі рэшткі ад курткі Тома, якую ён насіў у часе сваіх разбойніцкіх дзеянняў. Узяўшы ў рукі куртку, яна раптам задумалася і прашаптала:

– Не, лепш не трэба! Бедны хлопчык! Я ўпэўнена, што ён зманіў, але такая мана – не грэх. Яна так усцешыла мяне. Я спадзяюся, я ведаю, што бог даруе яму, бо ён зманіў ад добрай душы. Але мне не хочацца пераконвацца ў тым, шта гэта мана,– не буду глядзець!

Яна палажыла куртку і мінуту раздумвала, гледзячы на яе; потым зноў працягнула руку, зноў яе адсунула; нарэшце адважылася, падмацаваўшы сябе думкай: «Гэтая мана з добрым намерам,

ад шчырага сэрца,– я не буду крыўдзіцца». Праз хвіліну яна ўжо чытала радкі, накрэмзаныя Томам на кавалку кары, і казала праз слёзы:

– Я магла-б даравацъ гэтаму хлопчыку сто тысяч грахоў!

## Раздзел XX

На твары цёці Поллі, калі яна пацалавала Тома, было нешта такое, ад чаго яго смутак адразу знік, і на душы ў яго зноў зрабілася лёгка і весела. Ён пайшоў у школу, і яму пашанцавала: на рагу ён сустрэўся з Бэкі Тэчэр. Том заўсёды дзейнічаў пад уплывам мінуты. Ён, не задумваючыся, пабег да дзяўчынкі і сказаў:

– Я сёння трымаў сябе вельмі дрэнна, Бэкі, і вельмі шкадую!.. Я ніколі, ніколі ў жыцці больш не буду так рабіць. Давай памірымся, хочаш?

Дзяўчынка спынілася і з пагардай глянула яму ў твар.

– Я буду вам вельмі ўдзячна, містэр Томас Соўэр, калі вы пакінеце мяне ў спакоі. Я больш не жадаю гаварыць з вамі!

Яна трасанула галоўкай і прайшла міма.

Том быў так пакрыўджаны, што не здагадаўся нават адказаць: «Падумаеш, якое няшчасце! А мне і напляваць!» а потым ужо было позна,– момант прайшоў. Ён нічога не сказаў, але-ж затое раззлаваўся страшэнна. Панура швэндаўся ён па школьным двары, шкадуючы, што Бэкі не хлопчык і яе нельга аддубасіць. А тут якраз яна прайшла міма і сказала нешта абразлівае. Ён адказаў таксама,– і гэта дакончыла разрыў.

Раззлаваная Бэкі не магла дачакацца пачатку лекцый, каб паглядзець, як усыплюць Тому за папсаваную кнігу. Калі ў яе і хавалася думка выдаць Альфрэда Тэмпля, то пасля кусլівых слоў Тома гэтая думка знікла.

Бедная дзяўчынка! Яна не ведала, што за ёй таксама сочыць бяда. Настаўнік, містэр Добінс, быў чалавек, які ўсё жыццё быў незадаволены сваім лёсам. Самая вялікая мара яго была,– зрабіцца доктарам, але па беднасці ён не мог пайсці далей за школьнага настаўніка. Кожны дзень у класе ён вынімаў з шуфляды стала нейкую таямнічую кнігу і ўрыўкамі, у перапынках, калі вучні не адказвалі лекцый, пачынаў чытаць яе. Гэтая кніга была ў яго заўсёды замкнутая на ключ. Не было хлапчука ў школе, які не паміраў-бы ад жадання хоць адным вокам зірнуць у гэтую кнігу, але не траплялася выпадку. Кожны вучань меў свае меркаванні наконт таго, якая гэта кніга, але кожны думаў па-свойму, а даведацца праўды не было мажлівасці.

І вось Бэкі, ідучы каля кафедры, заўважыла, што ключ тырчыць у замку: настаўнік забыўся яго ўзяць. Ці можна было

прапусціць такі незвычайны выпадак? Дзяўчынка азірнулася – навакол ні душы. Праз хвіліну яна ўжо трымала кнігу ў руках. Загаловак «Анатомія» нічога ёй не сказаў, і яна пачала перагортваць старонкі... І зараз-жа патрапіла на прыгожа намаляваную і афарбаваную чалавечую фігуру.

У той-жа момант цень упаў на старонку кнігі: ззаду стаяў Том Соўэр, які таксама паспеў убачыць малюнак.

Вэкі шпарка згарнула кнігу, але так няўдала, што напалову разадрала малюнак. Яна кінула «кнігу ў шуфляду, пакруціла ключ у замку і расплакалася ад сораму і прыкрасці.

– Том Соўэр! гэта акурат падобна на вас. Якая подласць – падкрасціся ззаду і падглядваць за другімі!

– Чаму-ж падглядваць? Ці-ж я мог ведаць, што вы робіце?

– Сорам, Том Соўэр! Вы, вядома, набрэшаце на мяне, і што я тады буду рабіць? Мяне абавязкова высцебаюць, а мяне яшчэ ніколі не білі ў школе. – Яна топнула ножкай і крыкнула: – Ну, і хай сабе, калі вы такі подлы! Я таксама нешта ведаю. Пачакайце, вось убачыце, што будзе. Брыдкі! брыдкі! агідны!

І яна з плачам выбегла з пакою.

Том застаўся на месцы, ашаломлены гэтым неспадзяваным нападам. Потым сказаў сабе:

«Якія яны дзівацкія і дурныя, гэтыя дзяўчаты! Ніколі не білі ў школе! Падумаеш, якая важнасць, што адлупцуюць! Ужо гэтыя дзяўчаты заўсёды такія – спешчаныя і баязлівыя. Вядома, я не скажу старому Добінсу пра гэтую маленькую дурніцу, але яна ўсёроўна пападзецца. Добінс спытаецца, хто парваў яго кнігу. Ніхто не адгукнецца. Тады ён пачне перабіраць усіх па адным, як гэта ён заўсёды робіць, і калі дойдзе да вінаватай, то па твары пазнае, што яна вінаватая, нават не пытаючыся. У дзяўчынак усё можна пазнаць па твары,– яны нічога не ўмеюць схаваць. Ну і, вядома, ёй усыплюць. Папалася цяпер Бэкі Тэчэр,– ужо-ж ёй з гэтага цяпер не выкараскацца!» Падумаўшы крыху, ён дадаў: «Так ёй і трэба! Яна была-б рада, каб я папаўся,– хай цяпер сама паспрабуе».

І Том далучыўся да таварышоў, што гулялі на двары. Праз некалькі мінут прышоў настаўнік, і пачаліся заняткі. Том не надта цікавіўся лекцыямі. Ён увесь час пазіраў у той бок, дзе сядзелі дзяўчаты, і кожны раз яго хваляваў выгляд твара Бэкі. Ён зусім не хацеў шкадаваць яе, а тым-часам не мог устрымацца, каб не шкадаваць. Ён не мог выклікаць у сябе нічога падобнага на радасць ці злосць.

Але вось хутка настаўнік выявіў, што кніга Тома заліта чарнілами, і ўся ўвага Тома накіравалася на свае ўласныя справы. Бэкі на некаторы час забылася на сваё становішча і зацікавілася

тым, што робіцца ў класе. Яна не думала, што запэўненні Тома, нібы гэта не ён сам запэцкаў кнігу, могуць вызваліць яго ад кары. Яно так і было: выраканні Тома толькі пагоршылі справу. Бэкі думала, што яна будзе радавацца ад гэтага, і спрабавала запэўніць сябе, што радуецца, але гэта было не вельмі лёгка. Калі дайшло да самага горшага, ёй вельмі хацелася ўстаць і сказаць, шго гэта зрабіў Альфрэд Тэмпль, але яна прымусіла сябе сядзець ціха, кажучы сабе: «Ён-жа ж напэўна скажа, што я парвала малюнак. Дык вось-жа не скажу ні слова! Нават каб гэта было неабходна для выратавання яго жыцця».

Том атрымаў сваю порцыю лазы і бясклопатна вярнуўся на сваё месца. Яму здавалася магчымым, што можа ён і сам, гуляючы, перакуліў чарнільніцу на кнігу. А калі ён адмаўляў сваю віну, дык толькі так сабе, бо такі ўжо звычай, ды яшчэ таму, што хацеў вытрымаць характар.

Прайшла цэлая гадзіна. Настаўнік сядзеў на троне і дзюбаў носам. Ад гудзення вучняў, здавалася, самае паветра зрабілася нейкім сонным. Нарэшце містэр Добінс выпрастаўся, пазяхнуў, адчыніў шуфляду і нерашуча пацягнуўся за кнігай, нібы не ведаючы, ці браць яе ці не. Большасць вучняў глядзела на гэта абыякімі вачыма, але двое з іх сачылі за кожным яго рухам. Некалькі часу містэр Добінс безуважна круціў кнігу ў руках, потым узяў яе, усеўся зручней у крэсла і падрыхтаваўся чытаць.

Том зірнуў на Бэкі. Божа! Які ў яе быў няшчасны выгляд! Нібы ў трусіка, у якога нацэліліся са стрэльбы. Том адразу забыўся на сваю сварку з ёю. Трэба зараз-жа нешта такое зрабіць, зараз-жа, не чакаючы ні мінуты! Але блізкая, няўхільная небяспека паралізавала ўсю яго кемлівасць.

Ёсць! Бліскучая думка! Ён падбяжыць, вырве кнігу з рук настаўніка, выскачыць за дзверы – і шукай ветра ў полі? Але пакуль ён падумаў, момант быў прапушчаны: настаўнік разгарнуў кнігу. Эх, каб можна было вярнуць гэты страчаны момант! «Позна ўжо,– цяпер для Бэкі няма ратунку!» казаў сабе Том.

Яшчэ хвіліна – і настаўнік абвёў вачыма клас. Усе вочы спусціліся перад яго позіркам. У гэтым позірку было нешта такое, што нават невінаватыя задрыжэлі ад страху. Настала пауза, у працягу якой некаторыя паспелі палічыць да дзесяці. Настаўнік, так сказаць, назапашваў лютасць. Нарэшце ён загаварыў:

– Хто парваў гэтую кнігу?

Ані гуку. У класе была такая ціша, што можна было-б пачуць, як упадзе булаўка. Маўчанка цягнулася.

Настаўнік прыглядаўся па чарзе да кожнага твару, шукаючы адзнакаў віны.

– Бэнджамен Роджэрс, ты парваў гэтую кнігу?

Адмоўны адказ. Зноў пауза.

– Джозеф Гарпер, ты?

Зноў адмаўленне. Трывога Тома ўсё расла. Гэтыя пытанні і адказы былі для яго нібы павольнае мардаванне. Настаўнік запытаў хлопчыкаў і звярнуўся да дзяўчынак:

– Эмі Лоўрэнс?

Тая пакруціла галавой.

– Грэсі Мілер?

Тое самае.

– Сюзана Гарпер, дык гэта ты?

Зноў адмоўны адказ. Цяпер чарга дайшла да Бэкі Тэчэр. Том дрыжэў ад ног да галавы.

– Рэбека Тэчэр (Том зірнуў на яе твар; ён увесь збялеў ад жаху), ці не ты парвала... не... глядзі мне ў вочы (яна жаласна падняла рукі)... ці не ты парвала гэтую кнігу?

У галаве Тома маланкай бліснула думка. Ён ускочыў на ногі і крыкнуў:

– Гэта зрабіў я!

Уся школа недаўменна ўтаропілася на вар'ята, які зрабіў такую незвычайную рэч, як добраахвотнае прызнанне. Том пастаяў крыху, каб сабраць свае разгубленыя думкі, і калі нарэшце пайшоў у той кут, дзе яго чакала кара, то здзіўленне і ўдзячнасцо, якія ён убачыў у вачах Бэкі, маглі-б узнагародзіць яго і за сотню ўдараў.

Захоплены веліччу свайго геройсва, ён без адзінага крыку выцерпеў лютую кару і таксама спакойна прыняў дадатковую кару – загад застацца ў школе на дзве гадзіны пасля сканчэння заняткаў. Ён ведаў, хто будзе чакаць яго на двары, калі яго выпусцяць з няволі, і нуднае сядзенне ў школе не здавалася яму вялікай бядою.

## Раздзел XXI

Набліжаліся канікулы. Настаўнік, заўсёды строгі, зрабіўся яшчэ больш суровы і вымагальны: яму хацелася, каб яго школа вызначылася на экзаменах. Яго палка і лінейка цяпер рэдка ляжалі без работы, прынамсі ў малодшых класах. Толькі вялікія хлопцы ды маладыя дзяўчаты гадоў восемнаццаць-дваццаць былі вызвалены ад кары. А містэр Добінс караў добрасумленна; ён хоць і хаваў пад парыком лысы бліскучы чэрап, але гадоў меў не так ужо многа і мускулы ў яго былі здаровыя.

Чым больш набліжаўся вялікі дзень, тым больш выяўлялася схаваная ў ім жорсткасць і ўхіл да катавання: здавалася, яму прыемна было караць за самыя нязначныя правіны. Няшчасныя

малышы ўдзень цярпелі страх і боль, а ўначы абмяркоўвалі планы помсты. Яны скарыстоўвалі кожны выпадак, каб учыніць штуку свайму настаўніку. Але дзе-ж ім было цягацца з ім? За кожнай такой штукай ішла такая страшная кара, што хлопчыкі заўсёды аставаліся пабітымі і асаромленымі ў гэтай барацьбе.

Нарэшце яны арганізавалі змову і прыдумалі план помсты, які абяцаў бліскучую перамогу. Яны даверылі сваю тайну сыну маляра, які маляваў шыльды, і ўгаварылі яго памагаць ім. Той прышоў у захапленне – і не дзіва: настаўнік сталаваўся ў доме яго бацькі, і ў хлопчыка было досыць прычын ненавідзець яго. Як знарок, жонка настаўніка збіралася паехаць на некалькі дзён да знаёмых у госці, і, значыцца, ніхто не мог перашкодзіць выкананню задуманай помсты. Настаўнік быў п’яніца, і сын маляра абяцаў таварышам, што ў вечар экзамена, калі настаўнік вып’е і засне ў сваім крэсле, ён «усё наладзіць», а сам уцячэ.

Усё вышла, як думалі. А восьмай гадзіне вечара вызначанага дня будынак школы быў ярка асветлены і ўпрыгожаны гірляндамі і фестонамі з лісцяў і кветак. Настаўнік сядзеў на ўзвышэнні, у вялікім крэсле. Ззаду ад яго была чорная дошка. Па твары яго відаць было, што ён ужо досыць пачаставаў сябе віном. Шэсць радоў лавак супроць яго і па тры пярэдніх з кожнага боку былі заняты ўрадаўцамі і бацькамі вучняў. Налева, за галовамі абывателяў, на шырокім часовым памосце сядзелі школьнікі, якія павінны былі прымаць удзел у сёнешнім экзамене; шэрагі маленькіх хлопчыкаў, умытых, святочна ўбраных і адчуваючых сябе вельмі няёмка ў парадных касцюмах; шэрагі нязграбных хлопчыкаў-падлеткаў; нарэшце, шэрагі дзяўчынак і дарослых дзяўчат, убраных у батыст і муслін і, відаць, ні на хвіліну не забываўшых пра свае голыя рукі, з надзетымі на іх бабкавымі бразгалкамі, і пра ружовыя і блакітныя банты ды кветкі на галаве. Далей ужо сядзелі школьнікі, якія не прымалі ўдзелу ў іспытах.

Пачалося з таго, што малюсенькі хлопчык устаў і нясмела прадэклямаваў: «Наўрад ці вы маглі чакаць, каб крошка-хлопчык мог сказаць», суправаджаючы дэклямацыю ненатуральнымі, недарэчнымі рухамі, нібы машына, у якой нешта папсавалася. Але тым не менш ён шчасліва дабраўся да канца, быў узнагароджаны апладысментамі, аддаў вывучаны паклон і пайшоў на сваё месца.

Вышла маленькая засаромленая дзяўчынка, прамармытала: «У Мэры было ягнё», зрабіла нязграбны кніксен і пад пляскание публікі, чырвоная і шчаслівая, села на сваё месца.

Потым са штучнай вольнасцю на эстраду вышаў Том Соўэр і пачаў дэклямаваць старое, але неўміручае: «Дайце мне волю або забіце мяне!», люта падвышаючы голас і махаючы рукамі; але, дайшоўшы да палавіны, ён запнуўся. Жах ахапіў яго, ногі

падкасіліся, у горле нешта душыла, ён не мог вымавіць ні слова. Праўда, слухачы, відаць, спачувалі яму, але яны маўчалі, і гэтая маўчанка прыгнятала Тома больш яшчэ, чымся іхняе спачуванне. Настаўнік нахмурыўся, і гэта зусім даканала хлопчыка. Ён напнуўся яшчэ крыху і, зусім збянтэжаны, сышоў з эстрады. Былі спробы падтрымаць яго апладысментамі, але вельмі слабыя.

Далей ішло: «Хлопчык стаяў на палаючай палубе»,– «Асірыйцы ішлі, як на статак ваўкі» і іншыя ўзорныя ўрыўкі для галоснага чытання. Потым юныя лэдзі асабіста чыталі свае ўласныя творы. Кожная па чарзе выходзіла на край эстрады, прачышчала горла, вымала рукапіс, перавязаны прыгожанькай істужачкай, і пачынала чытаць, выконваючы належным чынам інтанацыю і знакі прыпынку.

Тэмы твораў былі тыя самыя, на якія пісалі ў падобных выпадках мамкі, бабкі і прабабкі гэтых дзяўчат аж да самых крыжовых паходаў: «Сяброўства», «Успаміны пра мінулае», «Казачнае царства», «Перавагі адукавання»,

«Журба», «Любоў да бацькоў» і г. д. і г. д. Першы прачытаны твор меў загаловак: «Дык вось якое жыццё!» Чытанне час ад часу перапынялася заўвагамі публікі, накшталт: «Як хараша!», «Як красамоўна!», «Якая праўда!» і г. д.

Услед за тым з’явілася смуглявая, чорнавокая і чорнавалосая дзяўчына, вытрымала эфектную паузу, зрабіла трагічную міну і стрымана пачала:

> «Здань. Ноч была цёмная і бурная. Вакол нябеснага трона не дрыжэла ніводнай зоркі, але затое ў вушах безупынна дрыжэлі глухія раскаты грому, а жахлівыя маланкі сярдзіта пранізвалі воблачныя нябесныя зводы, здавалася, пагарджаючы ўладай, якую ўзяў над іх страшнай сілай Франклін [5]. Нават буйныя вятры аднадушна пастанавілі пакінуць свае тайныя сховы і бушавалі, нібы для таго, каб надаць яшчэ больш жудасці дзікай сцэне. У гэтую гадзіну цемры і жаху дух мой прагнуў чалавечага спачування, але замест таго да мяне з’яўлялася яна – мой лепшы прыяцель, мой усцяшальнік, дарадца і кіраўнік, мая радасць у горы і благаславенне ў радасці» і г. д. і г. д.

Увесь твор займаў дзесяць старонак і канчаўся незвычайна суровай пропаведдзю. Ён быў прызнаны дасканалым, і яму была прысуджана першая ўзнагарода. Гарадскі галава, выдаючы аўтару ўзнагароду, зрабіў цёплую прамову, што «ніколі не чуў нічога больш

---

[5] Вен'ямін Франклін – вядомы амерыканскі вучоны, які жыў XVIII ст. Ён рабіў вопыты над мала вядомай тады электрычнасцю і вынайшоў громаадвод.

красамоўнага».

Настаўнік зусім развесяліўся. Адсунуўшы крэсла і павярнуўшыся спіной да аўдыторыі, ён пачаў рысаваць на дошцы карту Амерыкі, каб потым пераэкзаменаваць вучняў па геаграфіі. Але рука дрэнна слухалася яго, і па класе пранеслася стрыманае хіхіканне. Ён ведаў, у чым справа, і стараўся паправіцца. Ён сціраў нарысаванае і чарціў зноў, але выходзіла яшчэ горш, і хіхіканне чулася яшчэ больш.

Ён накіраваў усю сваю ўвагу на работу, каб спыніць гэты непрыемны смех. Ён адчуваў, што ўсе вочы накіраваны на яго, і думаў, што справа наладжваецца, але смех укласе не сцішаўся а, наадварот, узмацняўся. І не дзіва!..

Акурат над галавой настаўніка была адтуліна ў столі – люк, і праз гэты люк ціха спускалася на вяроўцы кошка, перавязаная вяроўкай вакол тулава, прычым галава яе была туга абвязана трапкай, каб яна не мяўкала. Павольна спускаючыся, яна выгіналася ўсім целам і цягнулася ўверх, каб злавіць кіпцюрамі вяроўку, але лавіла толькі паветра. Хіхіканне рабілася ўсё гучнейшым. Кошка была ўжо на сантыметраў дваццаць ад занятога сваёй справай настаўніка... ніжэй... яшчэ ніжэй... міг – і яна ў роспачы ўчапілася за парык і разам са сваім трафеем умомант узляцела ўгару на вачах здзіўленай публікі. І вакол лысага чэрапа м-ра Добінса раптам разлілася ззянне, бо сын маляра пазалаціў яму лысіну!..

Пасля гэтага сход разышоўся. Хлопчыкі адпомсцілі. Надышлі канікулы.

Бэкі Тэчэр паехала на лета з бацькамі ў другі горад, і з яе ад’ездам змеркла ўся радасць жыцця Тома.

## Раздзел XXII

Нарэшце сонная атмасфера ў гарадку ўскалыхнулася – і вельмі дужа. Прызначаны быў дзень суда над забойцам доктара. У гарадку толькі аб гэтым і гаварылі, няма куды было дзецца ад гутарак. Пры кожным слове пра забойства ў Тома кроў халадзела ў жылах. Нячыстае сумленне і страх падказвалі яму, што такія гутаркі пры ім вядуцца нездарма, што яго «мацаюць».

Ён адвёў Гека ў зацішны куток, каб пагаварыць з ім і хоць крыху супакоіць душу, даўшы волю языку і падзяліўшы такім чынам цяжкасць гора з другім пакутнікам. Апрача таго, ён хацеў пераканацца, ці ўмее Гек трымаць язык за зубамі.

– Гек, ты каму-небудзь казаў?

– Пра што?

– Сам ведаеш пра што.

– Вядома, не.

– Ні слова?

– Аніводнага славечка, праваліцца мне на гэтым месцы. Чаму ты пытаешся?

– Так сабе! Я баяўся.

– Ну, Том Соўэр, гэта ўжо будзе нікуды не варта, калі мы з табой прагаворымся: не выратаваць нам тады галавы. Ты-ж сам ведаеш.

Тому зрабілася лягчэй. Памаўчаўшы, ён спытаў:

– Гек, цябе-ж ніхто не можа прымусіць прагаварыцца, ці не так?

– Прымусіць мяне прагаварыцца? Ну, не! Можа толькі тады, калі мне захочацца, каб гэты д'ябал метыс мяне ўтапіў; тады, магчыма, я дазволю сабе прагаварыцца,– не іначай.

– Вось гэта добра! Я так думаю, што пакуль нашы языкі прывязаныя, нас ніхто не кране. А ўсё-ж такі давай зноў паклянемся маўчаць. Так вярней будзе.

– Згодзен.

І яны зноў далі клятву з адпаведнай урачыстасцю.

– А што гавораць, Гек? Каго падазраюць у забойстве? Я столькі наслухаўся, што і не разбяруся.

– Што гавораць? Ды ўсё адно: Меф Потэр, Меф Потэр, Меф Потэр. Мяне нават у пот кідае, калі я гэта чую,– проста пайшоў-бы, куды вочы глядзяць і схаваўся-б дзе-небудзь.

– Во-во! і я таксама! А прападзе ён нізавошта! Ты шкадуеш яго?

– Ну але, нават вельмі часта. Нікуды ён не варты чалавек, але-ж затое і шкоды нікому не робіць. Павудзіць трошкі рыбкі, каб было на што выпіць, а потым бадзяецца без работы... Ну, ды і мы ўсе такія самыя. А ўсё-такі ён добры: аднаго разу ён аддаў мне палову рыбіны ад свайго абеду, а яе і на аднаго чалавека было мала. А колькі разоў ён бараніў мяне ад бяды!

– А мне ён ладзіў кручкі, прывязваў іх да маёй вудачкі. Хацелася-б выратаваць яго.

– Вось куды махнуў! Як-жа ж мы выратуем? Калі мы яго выпусцім, яго зноў зловяць.

– Та-ак, зловяць. Але я нават слухаць не магу, як страшэнна яго лаюць за тое, чаго ён не рабіў.

– І я таксама, Том. Разумееш, раптам гавораць, што ў яго самая разбойніцкая морда з усёй вёскі, і дзівяцца, што аж да гэтага часу яго не павесілі!

– Але, але, так і гавораць! Я сваімі вушамі чуў, як казалі, што калі яго апраўдаюць, дык нашы хлопцы самі павесяць яго.

Хлопчыкі доўга яшчэ гутарылі паміж сабой, але не знайшлі

вялікай уцехі ў гэтай гутарцы. На змярканні яны пайшлі швэндацца каля маленькай глухой турмы, несвядома спадзяючыся, што можа што-небудзь такое здарыцца, што адразу выведзе іх з непрыемнага становішча.

Але нічога не здарылася: відаць, ні ангелы, ні чараўнікі не цікавіліся няшчасным вязнем.

Хлопчыкі зрабілі толькі тое, што часта рабілі і раней: перадалі Потэру праз краты крыху тытуну і запалак. Ён знаходзіўся ў ніжнім памяшканні, і вартаўнікоў паблізу не было.

Яго ўдзячнасць за такія падарункі і раней бянтэжыла і сароміла іх. А на гэты раз яна кальнула іх яшчэ больш. Яны адчулі сябе подлымі здраднікамі, калі Потэр сказаў ім:

– Добрыя вы рэбяткі, больш за ўсіх тут шкадуеце мяне. І я гэта не забуду. Я часта кажу сабе: вось-жа ж я ўсёй дзетвары ладзіў змеяў і ўсялякія штукі паказваў ім, і дзе лепш вудзіць,– словам жыў з імі ў дружбе, а цяпер, калі стары Меф у бядзе, усе на яго забыліся, апрача Тома і Гека. Гэтыя не забылі мяне,– і я іх не забуду. Так, рэбяткі, я зрабіў жудасную справу: відаць хмель мяне так адурманіў, толькі гэтым і магу сабе растлумачыць... А цяпер мяне за гэта падцягнуць,– ды так і трэба. Мажліва, яно для мяне і лепш, прынамсі я хачу думаць, што лепш. Ну, ды не будзем аб гэтым казаць. Я не хачу вас засмучаць, вы да мяне папрыяцельску ставіцеся. Я толькі вось што хачу вам сказаць: калі не хочаце трапіць за краты, не напівайцеся, рэбяткі – у хмялю чалавек не ведае, што робіць. Станьце трохі ў бок, вось так: калі чалавек у такой бядзе, прыемна бачыць прыяцельскі твар, а да мяне сюды ніхто не ходзіць, апрача вас. Добрыя вы хлапчукі. Станьце адзін аднаму на спіну, каб я мог да вас дакрануцца. Вось так. Ну, цяпер давайце рукі,– вашы пралезуць праз краты, а мая надта тоўстая. Маленькія ручкі, слабыя, а усё-ж такі яны дужа памагалі Мефу Потэру і памаглі-б яшчэ больш, каб маглі.

Том пайшоў да хаты зусім няшчасны і ўсю ноч бачыў страшныя сны. На другі і на трэці дзень ён зранння да вечара бадзяўся каля суда, імкнучыся ўвайсці, але сілком стрымліваючы сябе. З Гекам было тое самае. Яны старанна ўнікалі адзін аднаго. Абодва час ад часу адыходзілі прэч, але незразумелая сіла зноў цягнула іх назад. Калі хто-небудзь выходзіў з залы суда і расказваў, што там адбываецца, Том прагна лавіў кожнае слова, але весткі прыходзілі ўсё няўцешныя: бедны Потэр заблытваўся ўсё больш і больш. К канцу другога дня ў гарадку ўсе лічылі, што паказанне індзейца Джо не абвергнута і нельга нават сумнявацца ў тым, які прыгавор вынесуць прысяжныя.

У гэтую ноч Том позна вярнуўся дадому і, як звычайна, улез праз акно. Ён быў вельмі ўзбуджаны і даўно не мог заснуць. На

другі дзень увесь горад ад раніцы сабраўся каля залы суда, бо гэта быў вялікі дзень. Зала была паўнюткая. Пасля доўгага чакання ўвайшлі прысяжныя і занялі свае месцы. Неўзабаве перад тым прывялі Потэра, бледнага, схудалага, замяшанага, у кайданах, і пасадзілі на лаву падсудных, адкуль яго маглі бачыць усе. На бачным месцы сядзеў індзеец Джо, спакойны, як заўсёды.

Зноў зрабілася ціха. Потым увайшлі суддзі, і шэрыф абвясціў пасяджэнне адкрытым. Зашапталіся паміж сабой адвакаты, пісцы зашамацелі паперай. Усё гэта стварыла атмасферу трывожнага, напружанага чакання. Першым быў выкліканы сведка, які бачыў, як Меф Потэр мыўся ў рэчцы раніцою таго дня, калі было выяўлена забойства. Ён сказаў, што Меф Потэр, убачыўшы яго, кінуўся бегчы. Задаўшы яшчэ некалькі пытанняў, пракурор сказаў абаронцы:

– Цяпер ваша чарга.

Падсудны падняў на яго вочы, але зараз-жа зноў апусціў, калі яго абаронца сказаў:

– Мне няма аб чым пытацца.

Наступны сведка паказаў, што ён знайшоў нож каля забітага. І зноў на пытанне пракурора абаронца адказаў:

– Я не маю ніякіх пытанняў.

Трэці сведка прысягнуў, што часта бачыў гэты нож ў руках у Потэра. І зноў абаронца адмовіўся задаваць яму пытанні.

На тварах у прысутных выявілася нездавальненне. Што-ж гэта за абаронца такі? Няўжо-ж ён так і не паспрабуе выратаваць свайго кліента?

Некалькі сведак паказалі, што Потэр, калі яго прывялі на месца забойства, трымаў сябе, як вінаваты. І гэтых адвакат адпусціў, не задаўшы ніводнага пытання.

Пракурор падняўся з месца і сказаў:

– Зусім надзейныя сведкі ўстанавілі пад прысягай той факт, што гэта жудаснае злачынства зрабіў не іншы хто, а няшчасны, што сядзіць на лаве падсудных. Больш мне няма чаго дадаць.

Бедны Потэр застагнаў і закрыў твар рукамі, ціха хістаючыся ўзад і ўперад. У зале суда была цяжкая цішыня. Многія мужчыны расчуліліся, а жанчыны нават плакалі ад жалю.

Тады падняўся абаронца.

– Ад пачатку паседжання я стараўся даказаць, што мой кліент зрабіў гэтае жудаснае злачынства ў непрытомным стане, выкліканым ап’яненнем. Але цяпер я змяніў сваю думку і не буду звяртацца да ласкі прысяжных.

І павярнуўшыся да судовага прыстава, ён сказаў:

– Прывядзіце Тома Соўэра.

На ўсіх тварах, не выключаючы самога Потэра, з’явілася

здзіўленне. Усе погляды з цікавасцю накіраваліся на Тома. У хлопчыка быў зусім збянтэжаны выгляд. Ён страшэнна баяўся. Яго прывялі да прысягі.

– Томас Соўэр, дзе вы былі семнаццатага чэрвеня, каля гадзіны ночы?

Том паглядзеў на жалезны твар індзейца Джо, і ў яго язык прыліпнуў у роце. Слухачы затаілі дыханне, але сведка маўчаў. Праз некалькі хвілін хлопчык трохі аваладаў сабой,– і ўсе пачулі яго ціхі, але выразны адказ:

– На могілках.

– Калі ласка, гаварыце крыху мацней. Не бойцеся. Такім чынам, вы былі…

– На могілках.

Пагардлівая ўсмешка мільганула на твары індзейца.

– Ці не былі вы блізка каля магілы Горса Вільямса?

– Так, сэр.

– Калі ласка, мацней. На якой адлегласці ад яе вы былі?

– За два крокі, як цяпер вы ад мяне.

– Вы схаваліся ці стаялі на вачах?

– Схаваўся.

– Дзе?

– За вязамі, што каля магілы.

Індзеец Джо ледзь значна ўздрыгнуўся.

– З вамі быў яшчэ хто-небудзь?

– Так, сэр, я пайшоў туды з…

– Стойце, пачакайце крыху. Няма патрэбы называць зараз вашага спадарожніка. У свой час мы дапытаем і яго. Вы што-небудзь прынеслі з сабой на могілкі?

Том засароміўся і не ведаў як адказаць.

– Кажыце, не бойцеся,– праўда заўсёды паважаная.

– Толькі… толькі здохлую кошку.

У зале пачуўся смех. Старшыня пазваніў.

– Мы прадставім, як доказ, шкілет гэтай кошкі.

А цяпер, мой дарагі, раскажыце нам ўсё, што вы бачылі,– усё як было, без тойкі,– і не бойцеся нічога.

Том пачаў, спярша нерашуча, потым паступова захапіўся; прамова яго палілася жывей і гладзей; хутка ў зале суда чуўся толькі адзін яго голас; публіка з разяўленымі ратамі, затоіўшы дыханне, лавіла кожнае яго слова, не заўважаючы часу,– так была яна захоплена і ўзрушана гэтым апавяданнем. Агульнае хваляванне дасягнула вышэйшай ступені, калі Том дайшоў да сцэны забойства: «А калі доктар стукнуў Мефа Потэра дошкай па галаве і той упаў,– індзеец Джо кінуўся на яго з нажом і…»

Трах! Хутчэй за маланку метыс кінуўся да акна, расштурхаў

тых, хто хацеў-быў затрымаць яго,– і знік!

## Раздзел XXIII

Том яшчэ раз зрабіўся славутым героем, якога песцілі дарослыя і якому зайздросцілі маладыя. Ён нават набыў сабе бяссмертнасць: яго імя трапіла ў друк,– мясцовая газета праслаўляла яго. Былі людзі, якія лічылі, што ён абавязкова будзе прэзідэнтам, калі толькі яго раней не павесяць.

Усе лагодзілі Мефу Потэру і горача віталі, што ён выратаваўся ад пятлі.

Удзень Тома акружалі ўвага і слава, але затое ўначы ён мучыўся ад страху. Ён заўсёды бачыў ува сне індзейца Джо з помстай у поглядзе. Ніякія спакусы не маглі выцягнуць хлопчыка з дому пасля заходу сонца. Няшчасны Гек быў у такім-жа самым становішчы, бо Том увечары напярэдадні апошняга дня суда расказаў усю гісторыю адвакату, і Гек страшэнна баяўся, каб яго дачыненне да гэтай справы не выявілася, хоць пасля таго, як метыс уцёк, Геку і не трэба было даваць паказанні ў судзе. Праўда, адвакат даў слова маўчаць, але што з таго? Пасля таго як сумленне прыгнала Тома ўначы ў дом адваката і прымусіла парушыць страшную клятву, Гек страціў давер'е да ўсяго чалавецтва.

Удзень, слухаючы шчырую падзяку Потэра, Том быў рады, што выдаў тайну; уначы-ж ён шкадаваў, што не здолеў трымаць язык за зубамі. Ён то баяўся, што індзейца Джо ніколі не зловяць, то баяўся, што яго зловяць. Ён быў упэўнены, што ўздыхне вольна толькі тады, калі ўбачыць сваімі вачыма гэтага чалавека мёртвым.

Ператрэслі ўсю акругу, вызначылі прэмію таму, хто знойдзе метыса, але нічога не знайшлі. З Сент-Луі выпісалі ўсё ведаючага выведніка. Той пашукаў, панюхаў, паківаў галавой і дасягнуў такога-ж выдатнага поспеху, як звычайна кожны з яго прафесіі, а іменна,– з хітрай мінай ён абвясціў, што «натрапіў на след». Але-ж «след» павесіць за забойства нельга, і таму пасля ад'езду агента Том, як і раней, адчуваў страшэнную небяспеку.

Дні цягнуліся марудна, але ўсё-ж такі час ішоў, і з кожным днём цяжар трывогі, які прыгнятаў Тома, паступова палягчаўся.

## Раздзел XXIV

– Дзе-ж мы будзем капаць?

– О, усюды, у розных месцах!

– Няўжо скарбы ўсюды схаваны?

– Вядома, не, Гек. Іх закапваюць у асаблівых месцах – на астравах, або ў пагрызеных чарвякамі скрынях дзе-небудзь пад

вытыркнутым сукам старога трухлявага дрэва, акурат у тым месцы, куды цень кладзецца ў поўнач; але часцей за ўсё – пад падлогай у тых дамах, дзе водзяцца здані.

– Хто-ж іх закопвае?

– Зразумела, разбойнікі. А ты думаў, хто – школьныя наглядачы ці што?

– Не ведаю. Каб гэта быў мой скарб, я яго не закопваў-бы ў зямлю,– я-б на гэтыя грошы жыў і весяліўся.

– І я таксама. Але разбойнікі гэтак не робяць; яны заўсёды закопваюць свае грошы ў зямлю і там пакідаюць.

– І потым вяртаюцца, каб узяць іх?

– Не, яны думаюць вярнуцца, але потым забываюць прыметы або паміраюць, не ўзяўшы скарба. І вось скарб ляжыць сабе ды ляжыць, і ржавее. А потым хто-небудзь знойдзе старую, пажоўклую паперу, якая пакажа яму, па якіх адзнаках шукаць. Ды і паперу гэтую трэба разбіраць аж цэлы тыдзень, калі не болей, бо ў ёй толькі незразумелыя знакі.

– І ў цябе ёсць такая папера, Том?

– Не.

– Як-жа ж ты пазнаеш прыметы?

– Мне не патрэбны яны. Скарбы заўсёды закопваюцца пад домам, дзе водзяцца здані, або на востраве, ці пад сухім дрэвам, у якога сук вытыркаецца ў бок. Мы-ж прабавалі ўжо капаць на Джэксонавым востраве і яшчэ можам паспрабаваць. А за ручаём ёсць стары дом, дзе водзяцца здані, і тамака-ж куча высахлых дрэў.

– І пад усімі імі скарбы?

– Як ты гаворыш! Вядома, не!

– Дык як-жа ж ты пазнаеш, пад якім капаць?

– Будзем капаць пад усімі.

– Ну, Том! Гэта-ж зойме ўсё лета.

Дык што-ж? А затое ўяві сабе, што мы знойдзем медны гаршок і ў ім сотню долараў, або пагрызены чарвякамі куфар, поўны брыльянтаў. Што ты тады скажаш?

У Гека загарэліся вочы.

– Вось было-б добра! Ты мне дай тады сотню долараў, а брыльянты бяры сабе,– мне іх не трэба.

– Добра! Ужо-ж я брыльянтаў не кіну, можаш быць упэўнены. Некаторыя з іх каштуюць па дваццаць долараў штука, і няма ніводнага, які не каштаваў-бы долара.

– Няўжо?..

– Вядома. Гэта табе кожны скажа. Ці-ж, ты ніколі не бачыў брыльянтаў, Гек?

– Колькі памятаю, не. А дзе-ж мы пачнем капаць?

– Ужо і не ведаю. Ці не пачаць з таго старога сукаватага дрэва, што на другім баку ручая?

– Добра.

Яны дасталі пагнутую матыку і рыдлёўку і выправіліся ў паход.

Да месца трэба было ісці тры мілі. Прышлі яны чырвоныя, запыхаўшыся, і ляглі пад бліжэйшым вязам адпачыць у цяньку і пакурыць.

– Мне гэта спадабаецца,– сказаў Том.

– І мне таксама.

– Слухай, Гек: калі мы знойдзем тут багацці, што ты зробіш са сваёй палавінай?

– Я? Я буду кожны дзень есці пранікі і піць содавую ваду, а калі прыедзе цырк, буду кожны дзень хадзіць у цырк. Ужо-ж я здолею весела пражыць!

– Няўжо-ж ты нічога не адкладзеш на запас?

– Адкладваць? Навошта?

– Як навошта? Каб потым было чым жыць.

– О, гэта бескарысна! Калі я не паспяшаюся патраціць гэтыя грошы, у адзін добры дзень вернецца мой бацька і наложыць на іх сваю лапу. А ўжо пасля яго не пажывішся.

Будзь спакойны, усё ачысціць. А ты што зробіш са сваёй доляй, Том?

– Я куплю новы барабан, надзейную шаблю, чырвоны гальштук, бульдога-шчаня і ажанюся.

– Жэнішся?

– Ну але.

– Том. ты... ты... не ў сваім розуме!

– Пачакай, вось убачыш.

– Ды гэта-ж недарэчнасць, Том! Нічога дурнейшага ты не мог выдумаць. Вазьмі майго бацьку і маю маці,– яны-ж біліся з ранння да вечара. Я добра гэта памятаю.

– Гэта нічога не значыць: тая, з якой я ажанюся, біцца не будзе.

– А па-мойму, яны ўсе аднолькавыя. Не, Том, ты толькі падумай добра, я табе праўду кажу – падумай. Як завуць дзеўчанё?

– Яна зусім не дзеўчанё, яна дзяўчынка.

– Ну, гэта ўсёроўна. Адны кажуць дзяўчынка, другія – дзеўчанё; хто як хоча, так і гаворыць. Ды па імю як яе зваць?

– Калі-небудзь скажу табе, а цяпер не.

– Добра, як хочаш. Толькі калі ты ажэнішся, я буду яшчэ больш адзінокі, як цяпер.

– Не, Гек, ты будзеш жыць разам з намі. Ну, хопіць вылежвацца,– хадзем капаць.

Яны капалі з поўгадзіны, нават спацелі, але нічога не знайшлі; папрацавалі яшчэ з поўгадзіны – і зноў без вынікаў. Нарэшце Гек сказаў:

– Няўжо скарбы заўсёды закопваюць так глыбока?

– Часам закопваюць,– але не ўсе і не заўсёды. Мы, мабыць, не там капаем.

Яны выбралі другое месца і зноў узяліся капаць. Цяпер работа пайшла не так хутка, але ўсё-ж такі рухалася наперад. Потым Гек спыніўся, абаперся на рыдлёўку, выцер рукавом з ілба буйныя каплі поту і сказаў:

– Дзе мы потым будзем капаць, калі скончым тут?

– Я думаю, ці не паспрабаваць пад старым дрэвам, што за домам удавы?

– Я таксама думаю, што гэта месца падыходзіць. А толькі, як ты думаеш, Том, ці не адбярэ ўдава ад нас скарб? Гэта-ж яе зямля.

– Адабраць ад нас скарб? Няхай паспрабуе! Не, скарб ужо такая справа: хто яго знайшоў, таму ён і належыць. А на чыёй зямлі знойдзены – усёроўна?

Гек супакоіўся. Яны зноў пачалі капаць, але хутка Гек сказаў:

– Не, мабыць, мы зноў не на тым месцы капаем. Ты як думаеш?

– Гэта дзіўна, Гек, надзвычайна дзіўна,– я нават не разумею. Можа нам вядзьмаркі перашкаджаюць? Часам гэта бывае.

– Ну, вось яшчэ! Вядзьмаркі ўдзень нічога не могуць, удзень ім ніякай сілы не дадзена.

– Так, верна! Я на гэта не падумаў. О, цяпер я разумею, у чым справа! Вось дурні мы з табою! Нам-жа ж спачатку трэба было знайсці тое месца, куды цень ад сука кладзецца ў поўнач, і там капаць.

– Ах ты, каб цябе! Значыцца, мы ўвесь гэты час дарма працавалі! А цяпер прыдзецца сюды яшчэ раз прыйсці ўначы. Надта далёка… Табе можна будзе выбрацца з дому?

– Ужо я выберуся. І потым, гэта абавязкова трэба зрабіць сёння ўначы, а то, калі хто ўбачыць нашы ямкі, дык адразу здагадаецца, што тут рабілася, і сам выкапае скарб.

– Ну, што-ж! Я зноў прыду да цябе пад акно і мяўкну.

– Добра! Давай схаваем інструманты ў кустах.

Перад поўначчу хлопчыкі вярнуліся назад і пачалі чакаць. Месца было глухое, час позні. Здалёк глуха данёсся сабачы брэх, сава адгукнулася на яго сваім злавесным крыкам. Ночная ціша прыгнятала хлопчыкаў, і яны мала гаварылі між сабой.

Нарэшце яны парашылі, што поўнач надышла, заўважылі, куды кладзецца слабы цень, і пачалі там капаць.

Надзея іх акрыляла; яны працавалі ўсё з большай цікавасцю,

а таму і з большай стараннасцю. Яма рабілася ўсё глыбейшай, і, калі рыдлёўка аб што-небудзь стукалася, у іх млела сэрца. Але кожны раз іх чакала расчараванне: выяўлялася, што рыдлёўка стукалася аб корань ці камень. Нарэшце Том сказаў:

– Бескарысна працягваць, Гек,– мы зноў не на тым месцы капаем.

– Як не на тым? Мы не маглі памыліцца. Мы пачалі капаць акурат там, куды лёг цень.

– Я ведаю, але не ў гэтым справа.

– А ў чым-жа?

– А ў тым, што ў нас няма гадзінніка, і мы прыблізна ўгадваем час. Можа тады было зарана або запозна?

Гек выпусціў рыдлёўку.

– Гэта праўда... У тым, відаць, і штука. Ну, значыцца, гэтую справу прыдзецца пакінуць. Бо мы ўсёроўна не можам дакладна азначыць час. І потым, гэта вельмі ўжо страшна, калі навакол кішаць вядзьмаркі і здані. Мне ўвесь час здаецца, што нехта стаіць у мяне за спіной, і я баюся абярнуцца, бо можа хто другі стаіць спераду і чакае, пакуль я адвярнуся. У мяне ўвесь час дрыжыкі ідуць па целе.

– І мне жудасна, Гек, і я тое самае адчуваю. Кажуць, калі закопваюць пад дрэвам скарб, то побач кладуць мерцвяка, каб той пільнаваў яго.

– Барані божа!

– Ну але, кладуць,–я столькі разоў чуў.

– Не, ведаеш, Том, неахвотна мне хадзіць каля мерцвякоў. З імі заўсёды трапіш у бяду.

– Мне таксама неахвотна будзіць іх, Гек. А што, калі той, які тут ляжыць, раптам высуне свой чэрап і крыкне?

– Ды ну цябе, Том, замаўчы! Якія жахі!

– Ды гэта-ж праўда, Гек,– мяне такі жах бярэ!..

– Слухай, Том, пойдзем адсюль, пакуль не позна. Паспрабуем шчасця ў другім месцы.

– Што-ж, пойдзем. Можа яно лепш будзе.

– Куды-ж мы пойдзем?

Том падумаў крыху і сказаў:

– У той дом, дзе водзяцца здані,– вось куды.

– А ну яго! Не люблю я ўсёй гэтай чартаўні, Том. Гэта яшчэ горш за нябожчыкаў. Тыя, можа, хоць і гавораць, але затое не шлындаюць вакол цябе ў саване і не заглядваюць табе прама ў твар, скрыгочучы зубамі, як гэта робяць здані. Я-б гэтага не вытрымаў, Том, ды і ніхто не вытрамае!

– Але-ж здані ходзяць толькі па начах; удзень яны не перашкодзяць нам капаць.

– Яно так, але людзі нават і ўдзень стараюцца не заходзіць у такія дамы, не толькі што ўначы.

– Гэта больш таму, што людзі наогул не любяць хадзіць на тое месца, дзе каго-небудзь забілі. Але-ж каля гэтага дома і ўначы нічога не відаць,– толькі сіняе святло з акна, а не сапраўдная здань.

– Ну, Том, калі ты дзе ўбачыш сіні агеньчык, то ўжо можаш ісці ў заклад, што тутака і здань недалёка. Ты сам падумай: ты-ж ведаеш, што, апрача зданяў, ніхто не запальвае сініх агнёў.

– Гэта праўда, але ўсё-ж такі яны ўдзень не ходзяць. Дык што-ж іх баяцца?

– Ну добра ўжо, калі табе гэтак хочацца, пойдзем, пакапаем там; – толькі ўсё-ж такі гэта рызыкоўна.

Хлопчыкі спусціліся са ўзгорка. Унізе, пасярод асвятлёнай месяцам даліны, адзінока стаяў зачараваны дом; плот вакол яго даўно паваліўся; ганак зарос пустазеллем; комін разбурыўся; у вокнах не было шкла; адзін рог страхі таксама праваліўся ўнутр. Хлопчыкі доўга глядзелі, чакаючы, што вось-вось у акне мільгане сіні агеньчык, і гутарылі паміж сабой шэптам. Потым завярнуліся направа, зрабілі вялікі круг, каб не праходзіць каля страшнага дома, і вярнуліся дахаты праз лес, які рос на другім баку ўзгорка.

## Раздзел XXV

На другі дзень, каля поўдня, хлопчыкі зноў прышлі да сухога дрэва па свае інструманты. Тому хацелася хутчэй трапіць у дом са зданямі, але Гек не надта спяшаўся.

– Слухай, Том,– пачаў ён,– ты ведаеш, які сёння дзень?

Том пералічыў дні тыдня і са здзіўленнем глянуў на таварыша.

– Ой-ой-ой! А я і забыўся!

– Я таксама не думаў аб гэтым і толькі цяпер успомніў, што сёння ў нас пятніца.

– Ах, каб цябе! Вось як трэба быць асцярожным… Мы маглі-б трапіць у страшэнную бяду, зрабіўшы такую справу ў пятніцу.

– Маглі-б? Скажы лепш: абавязкова трапілі-б! Можа і ёсць шчаслівыя дні, але ні ў якім разе не пятніца.

– Гэта кожны дурань ведае. Не ты першы вынайшоў гэта, Гек.

– Хіба я кажу, што я першы? Ды і не ў адной пятніцы тут справа. Мне сёння сніўся вельмі дрэнны сон; сніліся пацукі.

– Ну?! гэта вельмі дрэнны сон. Калі пацукі, дык абавязкова на бяду. Што-ж, яны біліся паміж сабой?

– Не.

– Ну, тады яшчэ нішто. Калі пацукі не б'юцца паміж сабой, гэта азначае толькі, што бяда недалёка. Трэба толькі быць пільным, каб не папасціся. Пакінем мы гэта на сёнешні дзень і давай лепш гуляць. Ты ведаеш, Гек, Робіна Гуда?

– Не. А хто такі Робін Гуд?

– Ён быў адным з самых выдатных людзей у Англіі і вельмі добры чалавек.

Робін Гуд быў разбойнік.

– Во як! Кабы ды мне так! Каго-ж ён рабаваў?

– Толькі багатых людзей. А бедных ніколі не крыўдзіў. Бедных ён любіў і заўсёды дзяліўся з імі.

– Відаць, і добры-ж ён быў.

– Ды ўжо-ж! Другога такога і на свеце не было. Цяпер такіх людзей зусім няма, ужо можаш мне даць веры. Ён мог адной рукой пабіць кожнага ў Англіі, нават калі другая яго рука была прывязаная за спіной. А з свайго лука ён мог за мілю трапіць у дзесяціцэнтавую манету. І калі ён трапляў толькі ў край манеты, то ўжо так сумаваў, што сядаў і плакаў. Дык вось, мы будзем гуляць у Робіна Гуда. Гэта вельмі добрая гульня. Я цябе навучу.

– Добра, згодзен.

Яны да вечара гулялі ў Робіна Гуда, час ад часу прагна пазіраючы на дом са зданямі і абменьваючыся заўвагамі наконт таго, што іх чакае заўтра. Калі сонца пачало спускацца на захад, яны пайшлі дадому, перасякаючы даўгія цені дрэў, і хутка зніклі ў лесе.

У суботу пасля поўдня, хлопчыкі зноў былі каля сухога дрэва. Яны пакурылі і пагутарылі, лежачы ў цяньку, потым пакапаліся крыху ў выкапанай ужо яміне без асаблівай надзеі на поспех, таму толькі, што, як запэўняў Том, часта людзі трацілі надзею дакапацца да скарба ў той момант, калі да яго «заставалася не больш як шэсць цаляў, а потым прыходзіў хто-небудзь іншы і адным ударам рыдлёўкі знаходзіў скарб. Але і на гэты раз іхняя праца была дарэмная, і хлопчыкі з інструмантамі на плячах пайшлі далей. Яны суцяшалі сябе хоць тым, што не жартавалі з лёсам, а добрасумленна выконвалі ўсё, што належыць, каб знайсці скарб.

І вось, нарэшце, яны прышлі да «нячыстага» дома. Мёртвая ціша, якая панавала тут у гэты гарачы поўдзень, здалася ім злавеснай і жудаснай. Яны падкраліся да дзвярэй і, трасучыся ад страху, глянулі ў сярэдзіну. Яны ўбачылі пакой, дзе замест падлогі расла трава, убачылі вокны без шкла, разбураную лесвіцу; усюды лахманамі вісела старое павуцінне.

Яны набраліся смеласці і ціханька ўвайшлі. Яны гаварылі паміж сабой толькі шэптам, сэрцы іх моцна стукалі, усе мускулы цела былі напружаны, вуха чутка лавіла кожны шолах,– пры

першым гуку яны гатовы былі кінуцца назад. Але патрохі яны прызвычаіліся да ўсяго гэтага, і страх іх прайшоў.

Яны з цікавасцю аглядалі дом, дзівячыся сваёй-жа смеласці і ў той-жа час адчуваючы ад гэтага гордасць. Потым ім захацелася паглядзець і наверсе. Яны кінулі свае інструманты ў кут і падняліся па сходах наверх. І там было таксама запушчана. У адным кутку яны знайшлі камору, якая абяцала таямнічую знаходку, але надзеі не спраўдзіліся: камора была пустая. Цяпер яны зусім асмеліліся і трымалі сябе вольна. Яны ўжо хацелі спусціцца ўніз і пачаць работу, як раптам...

– Тсс!–прасіпеў Том.

– Што такое? – шапнуў збялеўшы ад страху Гек.

– Тсс! Ты чуеш?

– Але. Ой-ой-ой! Уцякайма!

– Куды там уцякаць? Сядзі ціха і не рыпайся. Яны падыходзяць да дзвярэй.

Хлопчыкі расцягнуліся на падлозе, стараючыся разглядзець што-небудзь праз шчыліны, і ляжалі так, заміраючы ад страху.

– Вось спыніліся... не... зноў ідуць... Прышлі. Ды не шапчы ты, Гек,– пачуюць! Ох, і навошта толькі я пайшоў сюды!

Увайшлі двое. Адзіны з іх быў глуханямы стары, іспанец, які за апошні час з'яўляўся ў гарадку, другога хлопчыкі не ведалі.

«Другі» быў бруднае, абадранае стварэнне з непрыемным тварам. Іспанец быў захутаны ў шырокі плашч; у яго былі касматыя, сівыя бакенбарды; з-пад яго шырокага брыля спускаліся доўгія, кучаравыя сівыя валасы; на вачах былі зялёныя акуляры. Калі яны ўвайшлі, другі нешта шэптам расказваў таварышу. Абодва селі на зямлю, тварам да дзвярэй, і працягвалі гутарку. Хутка пачуліся словы:

– Не, я ўсё абмеркаваў, і мне гэта не падабаецца. Гэта справа небяспечная.

– Небяспечная! – прабурчэў «глуханямы», незвычайна здзівіўшы хлопчыкаў. – Эх ты, размазня!

Пачуўшы гэты голас, хлопчыкі ледзь не самлелі ад жаху: то быў голас індзейца Джо. Абодва памаўчалі, потым Джо сказаў:

– Ужо-ж якое небяспечнае было тое, другое, але-ж сышло з рук.

– То іншая рэч. Тое далёка адсюль уверх па рацэ, і ніякага іншага жылля няма паблізу.

– А сюды прыйсці ўдзень як рызыкоўна, і варта толькі зірнуць на нас, каб з'явілася падазрэнне.

– Я ведаю. Але-ж пад рукой не было іншага месца, дзе можна было-б схавацца пасля гэтай дурной справы. Мне, наогул, няма ахвоты заставацца тут. Я яшчэ ўчора хацеў выбрацца, але нельга

было і думаць выйсці незаўважаным, пакуль гэтыя праклятыя хлапчукі гулялі там на ўзгорку насупраць, ля самага дома.

У «праклятых хлапчукоў» аж дрыжыкі пайшлі па спіне ад гэтых слоў. Якое шчасце, што яны пабаяліся пачынаць справу ў пятніцу і парашылі дзянёк пачакаць! У глыбіні душы яны шкадавалі, што не адклалі сваёй выдумкі на цэлы год. Бандыты дасталі прадукты і пачалі закусваць. Пасля доўгага раздум'я індзеец Джо сказаў:

– Слухай, малы, ідзі ты назад да ракі – там табе самае месца – і чакай вестак ад мяне. А я выберу момант і яшчэ раз зайду ў гарадок паглядзець. Трэба спачатку добра выведаць і ўпэўніцца, што ўмовы складіся спрыяльныя, і тады толькі пачынаць небяспечную справу. А потым у Тэхас!

«Другі» застаўся гэтым задаволены. Потым абодва пачалі пазяхаць, і метыс сказаў:

– Надта спаць хочацца! Цяпер твая чарга вартаваць.

Ён скруціўся на траве і хутка захроп. Таварыш штурхануў яго разы два, і ён сціх. А потым і вартаўнік пачаў дзюбаць носам; галава яго апускалася ўсё ніжэй і ніжэй. Цяпер ужо храплі абодва.

Хлопчыкі з палягчэннем уздыхнулі.

– Цяпер мы выратаваныя! – шапнуў Том. – Ідзем хутчэй!

– Не магу,–сказаў Гек,–я памру на месцы, калі яны прачнуцца.

Том прасіў, Гек не згаджаўся. Нарэшце Том ціханька падняўся і пайшоў адзін. Але пры першым-жа кроку старыя дошкі пад нагамі так зарыпалі, што ён абамлеў ад страху і прысеў на месцы, а другі раз прабаваць ўжо не адважыўся. Мінуты цягнуліся надзвычайна марудна; хлопчыкам здавалася, што час скончыўся і нават вечнасць паспела пасівець. Яны вельмі ўзрадваліся, калі ўбачылі, нарэшце, што сонца садзіцца.

Цяпер ужо храплі не двое, а толькі адзін. Індзеец Джо прыпадняўся, сеў, азірнуўся навакол, паглядзеў на свайго таварыша, у якога галава звесілася на калены, і пахмура ўсміхнуўся. Потым штурхануў яго нагой і сказаў:

– Уставай! Вось дык вартаўнік!

– Ну дык што-ж? Нічога-ж не здарылася. Ды няўжо-ж я заснуў?

– Быў грэх. Ну, брат, час нам і ў дарогу. А ў нас-жа ж яшчэ маленькі запас застаўся. Што мы з ім будзем рабіць?

– А ўжо-ж і не ведаю. Хіба тут пакінуць, як раней? Пакуль мы не рушымся на поўдзень, нам ён не спатрэбіцца. А цягнуць на сабе шэсцьсот пятьдзесят срэбрам чаго-небудзь ды варта.

– Яно так, ды заходзіць сюды неахвота.

– Ну, нічога, уначы прыдзем, як заўсёды хадзілі, гэта будзе

лепш.

– Так, але вось што, браце: нам можа яшчэ не скора выйдзе магчымасць выканаць тую справу – ведаеш якую,– ці мала што можа здарыцца, грошы-ж у нас дрэнна схаваныя... Давай лепш закапаем іх ды глыбей.

– Добрая справа,– сказаў таварыш і, перайшоўшы на другі бок пакоя, апусціўся на калены; потым прыпадняў адну заднюю цэглу камінка і выцягнуў адтуль мяшок, у якім прыемна бразнула срэбра. Ён выняў адтуль дваццаць ці трыццаць далараў для сябе і столькі сама для метыса і перадаў яму мяшок; Джо стаяў на каленах у куце і капаў зямлю сваім вялікім нажом.

Хлопчыкі адразу забыліся на свой страх і нягоды. Яны прагнымі вачыма сачылі за кожным рухам бандытаў. Такога багацця яны і ўявіць сабе не маглі. Шэсцьсот далараў! Гэтага досыць, каб ўзбагаціць поўтузіны хлопчыкаў! Скарб сам даваўся ў рукі, цяпер ўжо не трэба будзе задумвацца над тым, дзе капаць. Яны кожную хвіліну штурхалі адзін аднаго локцем, і кожны разумеў, што гэтыя красамоўныя штуршкі азначалі пытанне: «Ага! цяпер ты здаволены, што мы забраліся сюды»?

Нож метыса стукнуўся аб нешта цвёрдае.

– Эге! – сказаў ён.

– Што там такое? – спытаўся таварыш.

– Гнілая дошка... Не, здаецца, скрынка. Ідзі сюды, памажы выцягнуць! Паглядзім, што там такое. Пачакай, не трэба,– я прабіў дзірку.

Ён сунуў руку ў скрынку і зараз-жа выцягнуў яе назад.

– Слухай, ды тамака грошы!

Абодвы нахіліліся над жменяй манет. Гэта было золата. Хлопчыкі наверсе былі не ў меншым захапленні, як самі бадзягі.

– Трэба хутчэй выкапаць скрынку,– сказаў таварыш метыса. – Я надоечы бачыў там у куце, у траве, за комінкам старую зайржавелую матыку. Я зараз прынясу.

Ён пабег і прынёс рыдлёўку і матыку, пакінутыя хлопчыкамі. Метыс узяў матыку, крытычна аглядзеў яе, паківаў галавой, нешта прамармытаў сам сабе і пачаў капаць зямлю.

Хутка ён выцягнуў скрынку. Скрынка была невялікая, акованая жалезам, відаць, калісьці была вельмі моцная, пакуль не папсаваў яе час.

Некалькі мінут бадзягі ў шчаслівым маўчанні глядзелі на знойдзенае багацце.

– Тут куча грошай,– заўважыў індзеец Джо,– некалькі тысяч далараў.

– Кажуць, у гэтых месцах некаторы час бадзялася банда Мэўрэля,– сказаў «другі».

– Я таксама гэта чуў. Мабыць яны гэта сюды і захавалі.

– Цяпер табе нявaрта і пачынаць тую справу.

Метыс нахмурыўся.

– Ты мяне не ведаеш, або, прынамсі, не ўсё ведаеш аб гэтай справе. Тут зусім не ў грабяжы справа, а ў помсце,– і вочы яго бліснулі злосцю. – А калі скончым з гэтым, тады і ў Тэхас! Ідзі сабе дахаты к сваёй Нэнсі і дзетвары і чакай вестак ад мяне.

– Добра, няхай будзе па-твойму. А з гэтым што мы зробім? Зноў закапаем?

– Так! – (Поўная радасць наверсе.) – Не, клянуся вялікім сахемам, не! – (Глыбокі сум наверсе.) – Я было і забыўся: на рыдлёўцы-ж была свежая зямля. – (У хлопчыкаў у ваччу пацямнела ад страху.) – Адкуль тут узяліся гэтыя матыка і рыдлёўка? Адкуль на іх свежая зямля? Хто прынёс іх сюды і куды дзеўся той, хто прынёс! Ты нікога не бачыў, не чуў? Як-жа ж зноў закапаць гэтыя грошы, каб хто-небудзь прышоў, убачыў, што зямля кранутая, і выкапаў іх? Ну не, ужо мы перанясем іх у маю бярлогу.

– Вядома, вядома! Я пра гэта не падумаў! У якую бярлогу? Нумар першы?

– Не, нумар другі, пад крыжам. Першая не падыходзіць,– надта кідаецца ў вочы.

– Добра. Цяпер ужо сцямнелася, можна ісці.

Індзеец Джо падняўся на ногі і хадзіў ад акна да акна, асцярожна прыглядаючыся навакол, потым сказаў:

– Хто мог прынесці сюды гэтыя інструманты? Ты не думаеш, што там наверсе, можа, хто-небудзь сядзіць?

У хлопчыкаў захапіла духі… Індзеец Джо палажыў руку на нож, хвіліну пастаяў у нерашучасці і потым накіраваўся да сходняў… Хлопчыкі ўспомнілі пра каморку, але не мелі сілы пасунуцца з месца. Ступенькі сходняў зарыпелі пад важкімі крокамі.

Надзвычайны жах абудзіў у хлапцоў рашучасць, і яны ўжо хацелі кінуцца ў каморку, як раптам пачуўся трэск зламаных дошак і індзеец Джо зваліўся на зямлю разам з рэшткамі зламанай лесвіцы. Крэкчучы і лаючыся, ён падняўся на ногі, а таварыш яго сказаў:

– Ну і чаго было туды лезці? Калі там хто-небудзь сядзіць, ну і няхай сабе сядзіць,– нам што да таго? Калі ён пажадае скакнуць уніз і забіцца на смерць, мы яму таксама не будзем перашкаджаць. Праз чвэрць гадзіны зусім сцямнее. Тады хай гоняцца за намі, калі хочуць,– я нічога не маю супроць. Я так думаю, што калі той, хто прынёс сюды рэчы, убачыў нас, то пэўна, палічыў нас за чарцей або за здані і цяпер, мусіць, уцякае з усіх ног.

Джо, бармочучы, згадзіўся з таварышом, што шукаць больш няма калі, а трэба скарыстаць рэшткі дзённага святла, каб

сабрацца ў дарогу. Хутка пасля таго яны выслізнулі з дому пад аховай змроку і накіраваліся да ракі, уносячы з сабой каштоўную скрыню.

Том і Гек усталі, аслаблыя ад доўгага ляжання і страху, але з лёгкім сэрцам, і доўга глядзелі ім услед праз шчыліну між бярвенняў, якія складалі сцяну. Праследваць іх? Ну, не! Нашы героі рады былі, што шчасліва спусціліся на зямлю, не паламаўшы сабе шыі, і, перабраўшыся праз узгорак, пайшлі ў горад.

Яны гатовы былі ненавідзець сябе за сваю дурноту. І трэба-ж ім было прыцягнуць сюды матыку і рыдлёўку? Каб не было гэтых прыладаў, у індзейца Джо не з'явілася-б падазрэнне. Ён закапаў-бы зноў сваё срэбра і золата да таго часу пакуль яму трапіцца выпадак адпомсціць, а потым, вярнуўшыся, знайшоў-бы толькі пустое месца. Як крыўдна, што яны прыцягнулі сюды прылады!

Яны пастанавілі сачыць за іспанцам, калі той вернецца ў горад выведваць і вынюхваць зручны выпадак, каб выканаць задуманую помсту, і потым прасачыць яго да нумара другога, які-б ён там ні быў. Раптам у Тома мільганула страшная думка:

– А што, Гек, калі гэта ён нам хоча адпомсціць?

– Ох, не кажы! – сказаў Гек, ледзь трымаючыся на нагах ад жаху.

Яны ўсё абмеркавалі і, пакуль дайшлі да горада, згадзіліся, што метыс мог мець на ўвазе і каго-небудзь іншага або, прынамсі, аднаго Тома, бо толькі Том сведчыў супроць яго. Але-ж мала, вельмі мала ўцехі было Тому ад таго, што небяспека пагражае толькі яму! Ён лічыў, што ў кампаніі было-б зусім не так страшна.

## Раздзел XXVI

Перажытае ўдзень мучыла Тома ўсю ноч ува сне. Чатыры разы ён трымаў у руках скарб і чатыры разы гэты скарб знікаў, як толькі Том абуджаўся і вяртаўся да жорсткай сапраўднасці.

Пад раніцу, лежачы ў пасцелі і ўспамінаючы ўсе падрабязнасці сваёй прыгоды, ён заўважыў, што яны прадстаўляліся яму нейкімі няяснымі і далёкімі, нібы ўсё гэта адбылося ў другім свеце або даўно-даўно, і яму прышло ў галаву, што можа ўся гэтая прыгода саснілася яму.

Але чым больш ён думаў, тым ясней і выразней акрэсліваліся ў яго памяці падрабязнасці здарэння, і нарэшце ён зноў пераканаўся, што гэта быў не сон. Неабходна было высветліць гэтае пытанне. Ён спехам паснедаў і пайшоў шукаць Гека.

Гек сядзеў на борце баркі, боўтаючы нагамі ў вадзе, і выгляд у яго быў вельмі пахмурны. Том парашыў не распытваць Гека, а

навесці яго на гутарку; калі ён не зразумее намёку, значыцца, Том усё гэта сніў.

– Здароў, Гек!

– Здароў! Эх, Том, каб мы пакінулі гэтую праклятую рыдлёўку пад сухім дрэвам, грошы былі-б у нашых руках. Ці не прыкра гэта?

– Дык, значыцца, гэта быў не сон? Далібог, я гатоў шкадаваць, што гэта быў не сон, сапраўды!

– Які там яшчэ сон?

– Ды я пра гэта, пра ўчарашняе. Мне пачынала здавацца, што ўсё гэта я сніў.

– Сніў! Каб не абламалася пад ім лесвіца, ён-бы табе паказаў які гэта сон! А мне дык цэлую ноч сніўся гэты д'ябал іспанец, нібы ён ганяўся за мной,– каб ён здох!

– Нашто каб ён прапаў? Трэба, каб мы знайшлі яго і знайшлі грошы.

– Ніколі нам яго не знайсці. Такая ўдача не бывае па два разы. Не здолелі скарыстаць, ну, і прапала ўсё! І ты ведаеш, мяне проста трасе ад жаху, калі я падумаю, што магу з ім сустрэцца.

– І мяне таксама, Гек. А ўсё-такі я хацеў-бы яго ўбачыць і прасачыць, дзе гэта ў іх нумар другі.

– Нумар другі? Так, так. Я сам думаў аб гэтым, але нічога не мог прыдумаць. Як ты думаеш, што гэта можа быць такое?

– Не ведаю. Нешта вельмі ўжо цёмна. Слухай, Гек,– можа гэта нумар дома?

– Што ты! Вядома, не. Ды ў нашым гарадку гэтага і быць не можа: у нас-жа ж дамы без нумароў.

– Верна. Дай мне падумаць. Ведаеш? А можа гэта нумар пакоя ў карчме.

– Вось дык штука! Добра прыдумаў! У нас-жа ж толькі дзве карчмы, так што праверыць гэта не цяжка.

– Пачакай тут, Гек, пакуль я прыду.

І Том знік. Ён не любіў паказвацца людзям разам з Гекам. Ён вярнуўся праз поўгадзіны.

У лепшай карчме, куды ён спачатку зайшоў, нумар другі даўно ўжо займаў адзін малады адвакат. У карчме горшай нумар другі быў нейкі таямнічы. Сын гаспадара расказаў яму, што гэты нумар увесь час зачынены, і ён ніколі не бачыў, каб туды хто-небудзь уваходзіў ці выходзіў адтуль, апрача як уначы. Ён не ведаў прычыны гэтай незвычайнасці і таму ўзяў сабе ў галаву, што ў другім нумары «не чыста». Паміж іншым, ён казаў, што ўчора ўначы бачыў там святло.

– Вось што я дазнаўся, Гек. Я ўпэўнены, што яны пра гэты самы друті нумар і казалі.

– Я сам гэта думаю, Том. Што-ж нам рабіць?

– Пачакай, дай падумаць.–Том доўга думаў, потым сказаў:

– Вось што трэба зрабіць. Заднія дзверы гэтага другога нумара тыя самыя, што выходзяць у маленькі закавулак між карчмой і старым напалову разбураным мураваным хлявом. Пастарайся здабыць як мага больш ключоў, а я сцягну ўсе цётчыны, і ў першую-ж цёмную ноч мы паспрабуем адчыніць гэтыя дзверы. І не забудзься высачыць індзейца Джо, калі ён з'явіцца ў горадзе,– памятаеш, ён казаў, што прыдзе паглядзець, ці зручны цяпер час для помсты. Як толькі ўбачыш яго, ідзі за ім, і калі ён не пойдзе ў нумар другі, значыцца мы не ўгадалі.

– Ах, ды як-жа ж я пайду за ім адзін? Я баюся.

– Ды гэта-ж уначы. Ён можа і не ўбачыць цябе, а калі і ўбачыць, нічога не падумае.

– Ну, калі ў цёмную ноч, дык я згодзен, паспрабую…

– Калі ноч будзе цёмная, дык і я пайду за ім, Гек. А то ён можа даведацца, што яму трэба, ды і ўцячэ разам з грашыма.

– Верна, Том, верна! Я пайду за ім, далібог, пайду!

– Вось гэта так! Вось добра! Ты толькі не дай хібы, Гек, а я ўжо не дам.

## Раздзел XXVII

Том і Гек пастанавілі паспрабаваць у той-жа вечар. Да дзевяці гадзін яны бадзяліся каля карчмы. Адзін наглядаў за ўваходам, другі – за дзвярмі, што выходзілі ў закавулак. У закавулку ніхто не паказваўся; ніхто, падобны да іспанца, не ўваходзіў у карчму і не выходзіў адтуль.

Ноч была ясная, і Том пайшоў дадому, умовіўшыся з прыяцелем, што калі сцямнеецца, той прыдзе пад акно і мяўкне, тады Том вылезе праз акно, і яны пойдуць прымяраць ключы. Але ноч была светлая, і пасля дванаццаці Гек пакінуў свой наглядальны пункт і залез спаць у пустую бочку з-пад цукру, якая служыла яму прытулкам уначы.

У аўторак хлопчыкам зноў не пашанцавала, у сераду – таксама. Але ў чацвер ноч абяцала быць цёмнай. Том загадзя выбраўся з дому з цётчыным старым бляшаным ліхтаром і вялікім рушнікам, каб закрываць яго. Ліхтар ён схаваў у бочцы, дзе начаваў Гек, і абодва пачалі пільнаваць. За гадзіну да поўначы карчму зачынілі і пагасілі ў ёй агні. У іншых дамах святло даўно ўжо згасла. Словам, умовы складаліся спрыяючыя. Ноч была цёмная, хоць у вока калі. Цішыня часамі парушалася толькі грукатам далёкага грому.

Том дастаў свой ліхтар, запаліў яго, не вымаючы з бочкі, і нашы героі ў цемры падкраліся да карчмы.

Гек стаў на варце ля ўваходу, а Том вобмацкам пачаў прабірацца ў закавулак. Настала непрыемная цішыня, якая вельмі прыгнятала Гека. Ён ужо захацеў, каб перад ім у цемры бліснула святло ліхтара; гэта спалохала-б яго, але затое паказала-б, што Том яшчэ жывы.

З таго часу, як Том знік, прайшло, здавалася, некалькі гадзін.

«Пэўна яму зрабілася млосна», думаў Гек. «Можа ён нават памёр ад страху».

Устрывожаны Гек пасоўваўся ўсё бліжэй да закавулка, уяўляючы сабе ўсялякія жахі і штохвілінна чакаючы якой-небудзь катастрофы. Ён ледзь дыхаў, а сэрца ў яго так моцна стукала, што ён баяўся, каб яно не разарвалася.

Раптам бліснула святло, і міма праімчаўся Том.

– Бяжы! – шапнуў ён. – Бяжы, ратуйся!

Паўтараць не трэба было... Раней як Том паспеў скончыць гэтыя словы, Гек ужо ляцеў з хуткасцю ветру. Хлопчыкі не спыняліся, пакуль не дабеглі да пакінутай бойні на другім канцы горада. Не паспелі яны схавацца пад павеццю, як пачалася навальніца, і дождж паліў, як з вядра. Аддыхаўшыся крыху, Том пачаў расказваць:

– Ох, Гек, як страшна было! Я паспрабаваў два ключа, стараўся як мага цішэй, але яны так лязгалі, што я ледзь дыхаў ад жаху, і ніяк не хацелі паварочвацца ў замку. Раптам я, сам таго не заўважаючы, націскаў на ручку,– і дзверы адчыніліся. Яны былі не зачыненыя. Я ўскочыў, скінуў рушнік і...

– Што-ж? Што-ж ты ўбачыў, Том?

– Гек! Я ледзь было не трапіў на лапы індзейца Джо!

– Ды што ты?

– Ну, але. Ён ляжаў на падлозе і моцна спаў, раскінуўшы рукі, а на воку, як раней, пляйстар.

– Няўжо-ж? І што-ж ты зрабіў? Ён прачнуўся?

– Не, нават не паварухнуўся. П'яны мабыць. Я схапіў рушнік і бегчы!

– Вось ужо я-б у такі момант не ўспомніў пра рушнік.

– А я ўспомніў. Каб ён прапаў, дала-б мне цётка!

– Слухай, Том, а скрынку ты бачыў?

– Ну, чаго яшчэ! Быў мне час разглядаць! Нічога я не бачыў – ні скрынкі, ні крыжа, нічога, апрача бутэлькі і бляшанага кубка на падлозе каля індзейца Джо. І яшчэ бачыў у пакоі дзве бочачкі і шмат бутэлек. Цяпер ты разумееш, якія духі там водзяцца?

– Ну якія-ж?

– Ды гарэлкавы дух! Можа, ва ўстановах таварыства цвярозасці заўсёды ёсць такія пакоі, а? Як ты думаеш, Гек?

– Магчыма, што і так. Хто-б гэта мог падумаць? Слухай, Том,

а цяпер-жа ж самы лепшы момант узяць скрынку, калі індзеец Джо ляжыць п’яны.

– Ну, што-ж? Ідзі, паспрабуй!..

Гек уздрыгануўся.

– Не, не хачу.

– І я не хачу, Гек. Адной бутэлькі каля індзейца Джо мала. Каб там было тры, тады яшчэ можа...

Некаторы час хлопчыкі маўчалі. Потым Том сказаў:

– Ведаеш што, Гек, не будзем і спрабаваць, пакуль даведаемся напэўна, што індзейца няма ў гэтым пакоі. А то вельмі ўжо страшна. Калі мы будзем вартаваць кожную ноч, то калі-небудзь павінны-ж будзем убачыць, як ён вышаў, і тады мы ў адзін момант схопім скрынку – і дадому!

– Добра, згодзен. Я гатоў пільнаваць хоць усю ноч да раніцы і кожную ноч, толькі рэшту ты ўжо вазьмі на сябе.

– Згодзен і я. Ты толькі прабяжы па нашай вуліцы і мяўкні. А калі я адразу не вылезу, ты кінь пяском у акно, і я прачнуся.

– Глядзі-ж, слова даражэй за грошы!

– Ну, Гек, цяпер навальніца прайшла, я пабягу дахаты. Цяпер ужо і да світання недалёка,– усяго якіх-небудзь дзве гадзіны. Ты там пакуль пасцеражы,– добра?

– Добра! Добра! Я цэлы год буду бадзяцца па начах каля гэтай карчмы. Удзень буду спаць, а ўначы пільнаваць.

– Гэта правільна. А дзе-ж ты будзеш спаць?

– У пуні ў Бена Роджэрса. Ён нічога, пускае мяне. І іхні негр, дзядзя Джэк, таксама не гоніць. Я цягаю ваду для Джэка, калі ён пасылае мяне; часам ён мне і пад’есці дасць, калі ў яго знойдзецца. Ён вельмі добры, Том. Ён мяне любіць, таму што я ніколі перад ім не задаюся, не задзіраю носа.

– Добра, Гек, я не буду турбаваць цябе ўдзень. Я пабуджу цябе толькі ў тым выпадку, калі ўжо вельмі, вельмі трэба будзе. А калі ты ўначы што заўважыш, зараз да мяне пад акно – і мяўкні...

## Раздзел XXVIII

Першае, што Том пачуў раніцою ў пятніцу, была радасная вестка: сям’я суддзі Тэчэра вярнулася ў горад. На некаторы час і метыс і скарб адступілі для Тома на другі план, і першае месца ў яго думках заняла Бэкі.

Яны сустрэліся і «страшэнна весела» правялі час, гуляючы ў розныя гульні з іншымі школьнікамі. Пад канец дня Том пачуў яшчэ адну прыемную навіну: Бэкі так прычапілася да маткі з просьбай вызначыць дзень даўно абяцанага пікніка, што тая нарэшце згадзілася. Дзяўчынка не памятала сябе ад радасці. Том

таксама быў на сёмым небе.

Яшчэ да захаду сонца ўсе запрашэнні былі разасланыя, і моладзь, хвалюючыся, рыхтавалася да свята, загадзя ўяўляючы сабе рэдкую прыемнасць. Том ад хвалявання даўно не мог заснуць і ўсё спадзяваўся, што Гэк вось-вось мяўкне пад акном, а на другі дзень ён здзівіць сваім багаццем Бэкі і ўсіх удзельнікаў пікніка. Але надзея яго не спраўдзілася: у гэтую ноч ён не чуў сігналу.

Прышла раніца, і а гадзіне адзінаццатай вясёлая шумная кампанія сабралася ў суддзі. Уся падрыхтоўка была ўжо скончаная. Старэйшыя заставаліся дома, не жадаючы перашкаджаць дзецям сваёй прысутнасцю. Лічылася, што дзецям нішто не будзе пагражаць пад наглядам некалькіх маладзенькіх паненак гадоў восемнаццаці і маладых людзей гадоў дваццаці. Для пераправы праз раку быў наняты стары паравы паром, і хутка ўся кампанія шумным натоўпам рушыла па вуліцы, нагружаная кашамі з прадуктамі. Сід быў хворы і вымушаны быў адмовіцца ад гэтага шчасця. Мэры засталася дома, каб яму не было нудна. Місіс Тэчэр на развітанне сказала Бэкі:

– Ты вернешся позна. Ці не лепш будзе табе пераначаваць у каго-небудзь з таварышак, якія жывуць бліжэй да парома?

– Тады я, мамка, пераначую ў Сюзі Гарпер.

– Добра, дзетка. Будзь-жа разумніца і трымай сябе добра!

Калі яны вышлі, Том сказаў Бэкі:

– Слухай, ведаеш, што мы зробім? Замест таго, каб ісці к Гарперам, мы ўзбярэмся на гару і пераначуем у ўдавы Дуглас. У яе будзе марожанае. У яе кожны дзень бывае марожанае і колькі! цэлая куча! І яна будзе нам вельмі рада. Вось будзе весела!

Бэкі падумала крыху і сказала:

– А што скажа мама?

– А адкуль яна даведаецца?

Дзяўчынка зноў падумала і нерашуча вымавіла:

– Гэта, па праўдзе, нядобра, але…

– Ну што «але»? Глупства якое! Мама твая не даведаецца… Ды і што-ж тут дрэннага? Ёй-жа-ж трэба толькі ведаць, што табе не пагражае небяспека. Яна-б сама паслала цябе туды, каб гэта ёй прышло ў галаву. Верна табе кажу!

Славутая гасціннасць удавы Дуглас была вялікай спакусай. Марожанае і ўгаворы Тома перамаглі нерашучасць дзяўчынкі. Дзеці пастанавілі нікому не гаварыць пра свой намер.

Але потым Тому прышло ў галаву: а што, калі Гек акурат у гэтую ноч дасць сігнал? Гэтая думка значна ахаладзіла яго захапленне. Але ўсё-ж такі ён не мог адмовіцца ад магчымасці паласавацца марожаным ў ўдавы Дуглас. «Ды і навошта адмаўляцца?» – разважаў ён сам з сабой. – «Учора не было сігналу,

чаму-ж абавязкова сёння будзе?» Пэўны разлік весела правесці вечар перасіліў няпэўную надзею авалодаць скарбам. Як і належыць хлопчыку, ён рашыў паддацца больш сільнаму жаданню і адклаў усе думкі пра скрыню з грашыма на заўтра.

У трох мілях ад гарадка ўніз па рацэ паром спыніўся ля ўваходу ў парослую лесам даліну і прыстаў да берага. Натоўп рынуў на бераг, і хутка лясныя далі і ўцёсы агаласіліся звонкім смехам і крыкам. Былі спрабаваны самыя рознастайныя способы, каб разгарачыцца і стаміцца. Нарэшце дзеці вярнуліся ў лагер з ладным апетытам, і тады пачалося знішчэнне смачных страў. А пасля гэтага ўсе паселі адпачыць і пагутарыць у цяньку шырокіх дубоў. Праз некаторы час нехта крыкнуў:

– Хто хоча ў пячору?

Усе захацелі ў пячору. Дасталі вязку ключоў і пачалі караскацца на гару. Уваход у пячору быў высока па схілу гары і формай сваёй нагадваў літару А. Тоўстая дубовая дзвер, што зачыняла ўваход у пячору, была не замкнутая.

Унутры была маленькая каморка, халодная, як леднік і абмураваная самой прыродай моцным вапняком, з якога, як раса, капала вільгаць. Нешта таямнічае было ў гэтай пячоры; жудасна было стаяць у гэтай густой цемры і глядзець на зялёную даліну, залітую сонцам. Але хутка ўражанне аслабла, і тузаніна пачалася зноў. Як толькі хто-небудзь запальваў свечку, усе разам накідваліся на яго; той адбіваўся, пачыналася штурханіна, пакуль хто-небудзь не гасіў ці не выбіваў у яго з рук свечку, і зноў у цемры чуўся вясёлы смех і таўхатня.

Але ўсё на свеце мае канец. Дзеці патрохі ўціхаміраліся і пачалі адзін за адным спускацца далей па галоўнаму ходу. Пры мільгаючым святле ад свечак цмяна вызначаліся высокія каменныя сцены аж да таго месца, дзе яны злучаліся між сабой на вышыні шасцідзесяці футаў. У шырыню гэты галоўны ход меў не больш за восемдзесят футаў. На кожным кроку да яго далучаліся з абодвух бакоў новыя, яшчэ больш вузкія ходы. Пячора Мак-Дугала з'яўлялася вялікім лабірынтам звілістых і крывых калідораў, якія сходзіліся і разыходзіліся, але не мелі выйсця. Казалі, што ў гэтай блытаніне шчылін і расколін можна было блукаць дні і ночы і ніколі не выбрацца з пячоры, што яна спускалася ўсё ніжэй і ніжэй, і ўсюды было тое самае – адзін лабірынт пад другім, і не было ім канца. Ніводзін чалавек не мог пахвастацца, што «ведае» пячору; ды і ведаць яе было немагчыма. Звычайна маладыя людзі вывучалі толькі малую частку яе, і далей за гэтую частку ісці ніхто не адважваўся. Том Соўэр ведаў пячору не горш і не лепш за іншых.

Працэсія прайшла больш за поўмілі па галоўнаму калідору і потым падзялілася на пары і групы. Яны заварочвалі ў бакавыя

ходы, швэндалі па вузкіх калідорах, нечакана сутыкаліся адзін з адным у тых месцах, дзе калідоры злучаліся, і зноў разыходзіліся. Тут можна было згубіць адзін аднаго на поўгадзіны, не выходзячы за межы ўсім «вядомай» часткі пячоры.

Паступова групы адна за адной пачалі вылазіць з пячоры, запыхаўшыяся, закапаныя ад ног да галавы воскам, запэцканыя глінай, але вясёлыя і ў поўным захапленні ад удалай экскурсіі. Усе дзівіліся, што не заўважылі, як прайшоў час і што прышоў ужо вечар. На пароме званілі ўжо з поўгадзіны, клікаючы пасажыраў назад. Калі паром, нагружаны вясёлай кампаніяй, адышоў ад берага, ніхто, апрача капітана, нікольkі не шкадаваў патрачанага часу.

Гек ужо стаяў на варце, калі паромныя агні прамільгнулі міма прыстані. З парома не чуваць было гоману, моладзь супакоілася і сцішылася, як гэта заўсёды бывае, калі людзі бязмерна стомяцца. Гек здзівіўся крыху, чыя гэта лодка і чаму яна не спынілася ля прыстані, але потым забыўся аб ёй думаць і накіраваў усю сваю ўвагу на прадстаячую яму задачу. Прабіла дзесяць гадзін, і стук колаў змоўк. Параскіданыя сям-там агенчыкі адзін за адным гаслі, прахожыя ўсе кудысьці зніклі. Гарадок задрамаў, і маленькі вартаўнік застаўся адзін з цішынёй і зданямі. У адзінаццаць гадзін і ў карчме згаслі агні. Цяпер усюды была цемра. Гек чакаў, як яму здавалася, бясконца доўга, але нічога не здарылася. Вера ў поспех іхняга плану пачынала знікаць. Навошта ўсё гэта? Ці варта пільнаваць? Ці не лепш залезці на ноч у бочку?

У гэты момант ён пачуў лёгкі шум і адразу настаражыўся. Дзверы, што выходзілі ў закавулак, ціха зачыніліся. Гек кінуўся да мураванага хлява. Праз хвіліну міма яго шмыгнулі дзве чалавечыя постаці; у адной з іх нібы нешта было пад пахай,– напэўна скрынка! Значыцца, яны выносяць скарб! Што-ж цяпер рабіць? Паклікаць Тома? Навошта? Гэта было-б бязглузда: пакуль ён збегае за ім, тыя са скрынкай будуць далёка – потым шукай ветру ў полі! Не, ён пойдзе за імі і высачыць іх,– у такую цемру дзе ім заўважыць яго? Разважаючы такім чынам сам з сабой, Гек вышаў з засады і, крадучыся, як кошка, пайшоў за бандытамі, ціха ступаючы босымі нагамі і трымаючыся воддалі, але на такой адлегласці, каб яны не маглі знікнуць з вачэй.

Яны пайшлі па вуліцы ўздоўж ракі, потым завярнуліся налева ў папярочную вуліцу і ішлі ўсё прама, пакуль не дайшлі да сцежкі, што вяла на ўзгорак. Потым яны пайшлі па гэтай сцежцы. Не задумліваючыся, мінулі яны дамок валійца, што стаяў на спадзе ўзгорка на поўдарозе, і пайшлі вышэй. «Ага!» падумаў Гек, «яны хочуць закапаць грошы ў старой каменаломні». Але яны нават не спыніліся каля каменаломні, а ішлі далей к верхавіне. Потым

збочылі на вузкую сцежачку, што вілася ў хмызняку, і адразу зніклі ў цемры.

Гек павялічыў крокі, каб нагнаць іх, бо бачыць яго яны не маглі. Некаторы час ён амаль бег, потым пайшоў цішэй, баючыся, каб не абагнаць іх, і праз некалькі крокаў зусім спыніўся і пачаў прыслухоўвацца. Ані гуку. Ён чуў толькі стук свайго ўласнага сэрца. Са ўзгорка пачуўся злавесны крык пугача, але крокаў не было чуваць. Няўжо-ж усё прапала? Гек хацеў-быў вяртацца, як раптам нехта пачаў кашляць за два крокі ад яго. Геку здалося, што сэрца ў яго скокнула ў горла, але ён праглынуў яго зноў і застаўся на месцы, трасучыся ўсім целам, нібы на яго напала разам дзесяць трасцаў, і адчуваючы такую слабасць, што яму здавалася – вось-вось ён зараз паваліцца. Ён пазнаў месца: ён стаяў за пяць крокаў ад пералазу праз плот, які агароджваў маёнтак удавы Дуглас.

«Добра», падумаў ён, «хай закопваюць тут,– прынамсі нядоўга прыдзецца шукаць».

Потым голас індзейца Джо ледзь чутна прамовіў:

– Чорт-бы яе пабраў! У яе, здаецца, госці,– там свеціцца, хоць і позна.

– Дзе ты бачыш свет? Я не бачу.

Другі голас належаў таварышу метыса – незнаёмаму з зачараванага дома. Ледзяныя дрыжыкі прабеглі па целе Гекльберы Фіна. Дык вось каму яны надумаліся помсціць!

Першай думкай яго было – бегчы. Потым ён успомніў, што ўдава Дуглас не адзін раз была ласкавая да яго, а гэтыя людзі можа задумалі забіць яе. Ён шкадаваў, што ў яго нехапае мужнасці папярэдзіць яе, але ведаў, што не адважыцца: а што, калі яны яго зловяць? Усё гэта і яшчэ шмат чаго пранеслася ў яго галаве, раней як метыс паспеў адказаць:

– Табе кусты засланяюць святло. Пасунься сюды, вось так. Цяпер бачыш?

– Але. Мабыць у яе госці. Ці не лепш будзе нам пакінуць гэта?

– Пакінуць, калі я хачу назаўсёды пакінуць гэтыя месцы! Пакінуць, калі можа другога такога выпадку не будзе! Паўтараю табе яшчэ раз, як ужо казаў: мне яе грошай не трэба можаш узяць іх сабе. Але яе муж пакрыўдзіў мяне, не адзін раз крыўдзіў. Ён быў міравым суддзёй і не раз садзіў мяне ў турму за валацужніцтва. На яго шчасце, ён памёр, але я расквітаюся з ёй!

– Не забівай яе! Не трэба!

– Забіць яе? Ці-ж я казаў, што заб'ю яе? Я забіў-бы яго, каб ён быў тут, але не яе. Калі хочуць адпомсціць жанчыне, яе не забіваюць,– дзеля чаго? Досыць папсаваць ёй фізіяномію: раскроіць нос, абсячы вушы, як свінні!..

– Але-ж гэта...

– Пакінь сваю думку пры сабе! Цалейшы будзеш. Я прывяжу яе да ложка. І калі яна зыйдзецца крывёю, ці-ж гэта будзе мая віна? Я не заплачу, калі яна падохне. А ты, браце, паможаш мне па сяброўству,– затым ты сюды і прышоў; аднаму мне, магчыма, не справіцца. А калі спалохаешся, табе будзе капут – зразумеў?А калі мне прыдзецца забіць цябе, я заб'ю і яе,– і тады ўжо ніхто не пазнае, чыіх рук гэтая справа.

– Ну, што-ж? Калі рабіць, так рабіць. Чым хутчэй, тым лепш,– мяне ўсяго трасе.

– Як? Зараз? А госці? Слухай, брат, гэта нешта падазронна: чаго гэта ты так раптам заспяшаўся? Не, мы пачакаем, пакуль пагасяць агні. Спяшацца няма куды.

Гек адчуў, што цяпер пачынаецца маўчанне, яшчэ больш жудаснае, як гэта нарада душагубаў, таму ён затаіў дыханне і адступіў на крок назад, загадзя абследваўшы нагой месца, куды ступіць, дзеля чаго яму прышлося балансіраваць на адной назе, рызыкуючы ўпасці. З такімі-ж перасцярогамі і рызыкай ён зрабіў другі крок назад, потым яшчэ і яшчэ. Раптам пад яго нагой хруснула галінка! У яго дух захапіла. Ён спыніўся, прыслухоўваючыся. Ні гуку, мёртвая ціша. Вельмі ўзрадаваны, ён асцярожна завярнуўся ў вузкім праходзе між двума радамі кустоў і шпарка, але ціха зашагаў далей. Дайшоўшы да каменаломні, ён адчуў, што небяспека мінула, і пусціўся бегчы ва ўвесь дух. Як віхор, ляцеў ён з гары, дабег да дома валійца і пачаў барабаніць кулакамі ў дзверы. З акон высунулася галава старога фермера і яго двух дужых малодшых сыноў.

– Што за шум? Хто там стукае? Што табе трэба?

– Упусціце мяне хутчэй! Я ўсё скажу.

– Ды хто ты такі?

– Гекльберы Фін. Упусціце хутчэй!

– Гекльберы Фін? Вось дык здорава! Гэта не такое імя, каб перад ім расчыняліся дзверы. Але ўсё-ж такі, хлопчыкі, упусціце яго. Паглядзім, што з ім такое.

– Калі ласка, не расказвайце нікому, што я вам скажу, а то мне будзе бяда. Але ўдава была ласкавая да мяне, і я вам скажу. Скажу калі вы абяцаеце нікому не казаць, што гэта я...

– Чэснае слова, у яго ёсць што сказаць, гэта нездарма! усклікцуў стары. – Ну, малец, выкладвай, што ведаеш,– мы нікому не скажам.

Праз некалькі мінут стары фермер і яго сыны, добра ўзброеныя, узышлі на ўзгорак і ішлі на цыпках па сцежцы між кустамі, трымаючы напагатове пісталеты. Гек давёў іх да сцежкі, але далей не пайшоў.

Ён прысеў за вялікім каменем і чакаў. Настала доўгае, нуднае маўчанне. Раптам пачуліся стрэлы і крыкі. Гек не чакаў, што будзе далей. Ён ускочыў і паімчаўся ўніз з гары з ўсёй шпаркасцю, на якую здольны былі яго ногі.

## Раздзел XXIX

У нядзелю раніцою, з першым праблескам святла, Гек пастукаў у дзверы старога валійца. У доме ўсе яшчэ спалі, але тым чулым сном, ад якога прачынаюцца пры самым малым шуме ў выніку трывог, якія былі ўначы. З акна яго гукнулі:

– Хто там?

Ціхі, спалоханы голас адказаў.

– Калі ласка, упусціце! Гэта я, Гек Фін.

– Перад гэтым імем, хлопчык, дзверы нашага дома заўсёды адчынены і ўдзень і ўноч. Калі ласка, уваходзь!

Дзіўна прагучэлі гэтыя словы для слыху маленькага валацугі. Ніколі яшчэ ён не чуў такіх прыемных слоў, нават не мог прыпомніць, каб хто-небудзь калі-небудзь сказаў яму: «калі ласка!»

Дзверы адчынілі, і Гек увайшоў. Яго пасадзілі, а стары і яго малайцы-сыны спешна апраналіся.

– Ну, мой хлопчык, я думаю, ты досыць галодны. Але ў нас снеданне будзе хутка гатова; як толькі сонейка ўзыйдзе, будзе гарачы блін,– ужо наконт гэтага будзь пэўны. А я з дзецьмі спадзяваўся, што ты вернешся і пераначуеш у нас.

– Я страшэнна спалохаўся! – прызнаўся Гек. – Як вы пачалі страляць, я пабег з усіх ног і аж тры мілі бег, не спыняючыся. А цяпер я прышоў, каб даведацца пра ўсё, як яно вышла, і знарок да святла, каб не напароцца на гэтых д'яблаў, нават калі яны ўжо мёртвыя.

– Але, брат, у цябе такі выгляд, нібы ты і зусім не спаў. Ну, ды не бяда! Вось табе пасцеля; як паснедаеш, дык і лажыся. Не, малец, на жаль, яны не забітыя,– і гэта нам вельмі прыкра. Бачыш ты, як яно вышла. Па твайму апісанню мы ўжо ведалі, дзе іх узяць, таму мы на цыпках падкраліся да іх зусім блізка,– на гэтай-жа сцежцы між кустоў цёмна, як у склепе. Спыніліся гэтак крокаў, мабыць, за пяць, і раптам – што-б ты думаў? – прыпёрла-ж мяне чхнуць. Вельмі не пашанцавала! Як я ні ўстрымліваўся, нічога не мог зрабіць,– чхаю, ды і ўсё тут! А ішоў я паперадзе, трымаючы пісталет напагатове. Толькі я чхнуў, гэтыя жулікі кінуліся бегчы, а я крычу сваім: «Страляй, хлопцы!» І стрэліў разбойнікам услед. І мальцы мае таксама. Але гэтыя падлюгі ўжо ўцяклі,– трэба думаць, што мы ўсе тры прамінуліся. Яны праз лес,– мы за імі. Потым яны спыніліся і таксама давай смаліць у нас, але толькі іхныя кулі

прасвісцелі міма, не пашкодзіўшы нам. Потым ужо і тупату не было чуваць. Тады мы спынілі дагон, спусціліся з гары і ўзнялі на ногі паліцэйскіх. Тыя вылучылі некалькіх чалавек пільнаваць бераг; а як толькі развіднееецца, шэрыф загадае абшукаць лес і мае мальцы пойдуць. Добра, каб ты мог апісаць нам, якія яны з выгляду, гэтыя разбойнікі, гэта нам вельмі дапамагло-б. Але-ж ты, малы, мусіць, і не разгледзеў іх у цямноце?

– Не, я ўбачыў іх у горадзе і пайшоў следам за імі.

– Вельмі добра! Ну, дык кажы, якія яны.

– Адзін з іх стары, глуханямы іспанец, які ў апошні час ходзіць па горадзе, а другі – абадранец, паганая такая фізіяномія…

– Гэтага досыць, галубок,– мы ўжо ведам. Учора мы бачылі іх у лесе; яны бадзяліся каля дома ўдавы, а як убачылі нас, дык ходу. Ну, хлопцы, хутчэй ідзіце к шэрыфу, снеданне ўжо прыдзецца адкласці на заўтра!

Сыны валійца зараз-жа пайшлі. Калі яны накіраваліся да дзвярэй, Гек кінуўся за імі і пачаў прасіць:

– Калі ласка, толькі не кажыце, што гэта я данёс на іх! Калі ласка! Вельмі прашу!

– Добра. Калі ты не хочаш, мы не скажам. Але-ж ты нічога дрэннага не зрабіў,– цябе толькі пахвалілі-б за гэта.

– Ой, не, не трэба! Калі ласка, не кажыце!

Калі маладыя людзі вышлі, стары звярнуўся да Гека:

– Яны не скажуць, і я не скажу. Але чаму ты не хочаш, каб гэта было вядома?

Гек адважыўся сказаць, што гэтыя людзі абавязкова заб'юць яго, калі даведаюцца, што ён данёс на іх.

Стары яшчэ раз абяцаў захоўваць тайну, але ўсё-ж такі спытаўся:

– Як табе прышло ў галаву сачыць за імі, хлопчык? Вельмі падазроннымі яны табе здаліся, ці што?

Гек маўчаў, прыдумваючы такі адказ, які не мог-бы яго скампраметаваць, і нарэшце сказаў:

– Бачыце, жывецца мне нясоладка, ды і сам я нікуды нявартны чалавек,– прынамсі ўсе так гавораць, і я нічога не магу сказаць супроць гэтага. Вось я іншы раз і не сплю ўначы, усё думаю ды раздумваю, як-бы гэта мне пачаць жыць па-іншаму. Так яно было і ў мінулую ноч. Заснуць я не мог, ну і бадзяўся па вуліцы гэтак а поўначы, думаючы пра ўсё гэта. Іду міма старога мураванага хлява, што каля карчмы, стаў ля сцяны і думаў… І раптам бачу – бягуць міма два чалавекі, у аднаго з іх нешта пад пахай,– я так і парашыў, што гэта крадзенае. Адзін курыў, а другому хацелася закурыць,– вось яны і спыніліся за два крокі ад мяне. Цыгары асвятлілі іх твары, і я пазнаў у высокім глуханямога

іспанца,– я пазнаў яго па сівых бакенбардах і пластыры на воку. А другі быў гэты абадраны д'ябал у лахманах…

– Няўжо ты мог пры святле цыгары разгледзець яго лахманы?

Гек на хвіліну замяшаўся.

– Ужо не ведаю як, але мабыць разгледзеў.

– Ну, і што-ж? Яны пайшлі, а ты?..

– А я за імі. І так яно ўсё і вышла. Мне хацелася даведацца, што яны надумалі. Яны лезлі ўсё вышэй і вышэй, і я за імі да самага плота, што каля дома ўдавы. Там я стаў у цемры і слухаю: абадранец стаяў за ўдаву, а іспанец бажыўся, што знявечыць ёй морду,– ну, ды я-ж вам ужо расказваў…

– Як? Усё гэта казаў глуханямы?

Зноў папаўся! Гек усяляк стараўся, каб старому нават і ў галаву не магло прыйсці, хто такі іспанец, але яго язык нібы паставіў сабе задачу – падводзіць яго. Ён некалькі разоў прабаваў выправіць справу, але стары ўвесь час не зводзіў з яго вачэй, і ў яго штохвілінна вырывалася хлусня. Нарэшце валіец сказаў:

– Галубок, ды не бойся-ж ты мяне! Я нізавошта ў свеце не згадзіўся-б выдаць цябе. Наадварот, я вазьму цябе пад сваю абарону. Гэты іспанец не глуханямы. Ты наўмысна выказаў, і цяпер ужо не возьмеш сваіх слоў назад. Ты нешта ведаеш пра гэтага іспанца і не хочаш сказаць? Ну, здаверся мне, скажы. І будзь спакойны,– я цябе не выдам.

Гек паглядзеў у чэсныя вочы старога, нагнуўся і шапнуў яму на вуха:

– Гэта не іспанец, гэта індзеец Джо.

Валіец ледзь не скаціўся з крэсла.

– Ну, цяпер справа ясная, цяпер я разумею,– сказаў ён. – Калі ты казаў пра адсечаныя вушы і раскроены нос, я думаў, што гэта ты сам выдумаў, ад фантазіі; але індзеец Джо – гэта, вядома, зусім іншая рэч.

За снеданнем гутарка працягвалася, і паміж іншым стары сказаў, што перад тым, як пайсці адтуль, ён з сынамі запаліў ліхтар і агледзеў плот і зямлю побач, шукаючы, ці няма дзе плямін крыві. Плямін яны не знайшлі, але захапілі вялікі клунак з…

– З чым?!

Словы гэтыя, як маланка, сарваліся са збялелых вуснаў хлопчыка. Ён разгубленымі вачыма ўтаропіўся на старога і, ледзь дыхаючы, чакаў адказу. Валіец, у сваю чаргу, глядзеў на яго тры, пяць, дзесяць секунд, перш чым адказаў.

– Клунак з зладзейскімі інструмантамі. Але што з табой?

Гек адкінуўся на спінку крэсла, слаба, але глыбока ўздыхаючы з надзвычайным палягчэннем. Валіец сур'ёзна і з цікавасцю глядзеў на яго.

– Так, вязку зладзейскіх інструмантаў. Гэта, відаць, вельмі супакоіла цябе. Але чаго-ж ты баяўся? Што, ты думаў, мы знайшлі?

Гек быў прыціснуты да сцяны. Стары не зводзіў з яго дапыглівых вачэй. Хлопчык аддаў-бы ўсё на свеце, каб выдумаць добры адказ, але нічога ў галаву не прыходзіла, а дапытлівы погляд старога ўсё глыбей пранікаў яму ў душу. Патрапіў самы недарэчны адказ, але абдумваць не было калі, і Гек наўдачу прамармытаў:

– Я думаў, што вы знайшлі... падручнікі нядзельнай школы.

Небарака быў надта збянтэжаны і не мог усміхнуцца, але стары зарагатаў так гучна і весела, што закалыхалася ўсё яго важкае цела, і нарагатаўшыся такім чынам ён абвясціў, што такі смех – гэта эканомія, бо ён вызваляе ад выдаткаў на дактароў і лякарствы.

– Бедны хлапчук! – дадаў ён – ты бледны і стомлены; ды, мусіць, і хворы крыху, бо нешта вярзеш. Ну, ды гэта нічога, паправішся. Адпачнеш, выспішся і ўстанеш, нібы нічога не было.

Гек злаваў на сябе за сваю дурасць і няўменне валодаць сабой, але ён страшэнна ўсхваляваўся, пачуўшы пра знаходку: ён думаў, што гэта знайшлі скрынку. Але наогул ён быў рады, што яно так вышла: цяпер ён, прынамсі, ведаў пэўна, што было ў клунку, і таму супакоіўся. Усё, відаць, наладжвалася добра: скрынка, мабыць, да гэтага часу знаходзіцца ў нумары другім, абодвух жулікаў сёння зловяць, а ўначы яны з Томам, без ніякіх клопатаў і перашкод, захопяць скарб.

Толькі яны скончылі снеданне, як пачуўся стук у дзверы. Гек паспяшаўся схавацца, бо ён зусім не хацеў, каб хто-небудзь падумаў, што ён мае хоць якое дачыненне да начных падзей. Валіец упусціў некалькі лэдзі і джэнтльменаў і заўважыў, што на гару караскаецца натоўп дзяцей, каб паглядзець на плот. Значыцца, навіна распаўсюдзілася.

Валіец расказаў гасцям гісторыю мінулай ночы. Удава пачала дзякаваць яго за сваё вызваленне.

– Ні слова аб гэтым, місіс! Ёсць другі чалавек, які зрабіў для вас можа больш, як я і мае сыны разам, але ён не дазваляе мне назваць яго. Мы і не падумалі-б прыйсці да вас, каб не ён.

Вядома, гэтыя словы так зацікавілі публіку, што нават галоўнае адсунулася на другі план, і вельмі хутка гэтая цікавасць перадалася ўсяму гораду. Але валіец не злітаваўся над сваімі гасцямі і не выдаў ім тайны.

– Я заснула, чытаючы ў ложку,–сказала ўдава,– і ўвесь час спакойна спала. Чаму вы не ўвайшлі і не пабудзілі мяне?

– Парашылі, што не варта. Гэтыя разбойнікі наўрад ці вярнуліся-б: яны-ж забылі свае інструманты, і ім няма чым было-б працаваць. Навошта-ж было будзіць вас? Каб напалохаць вас да

смерці? Апрача таго, мае тры негры ўсю рэшту ночы стаялі на варце каля вашага дома. Яны толькі што вярнуліся.

З'явіліся новыя наведвальнікі, і на працягу трох гадзін стары толькі і рабіў, што паўтараў свой расказ.

У гэтую раніцу ў школе не было звычайных нядзельных заняткаў, але ўсё-ж такі ўсе сабраліся ў царкву, каб добра абгаварыць незвычайнае здарэнне. Усе ўжо ведалі, што разбойнікаў не знайшлі. Па сканчэнні пропаведзі жонка суддзі Тэчэр праціснулася скрозь натоўп да місіс Гарпер і сказала:

– Што-ж, мая Бэкі так і праспіць сёння ўвесь дзень? Але-ж я так і думала, што яна вельмі зморыцца.

– Ваша Бэкі?

– Ну але. (Здзіўлены погляд). Ці-ж яна не ў вас начавала?

– Вядома, не.

Місіс Тэчэр збялела і апусцілася на лаўку. Акурат у гэты міма праходзіла цёця Поллі, жвава гутарачы са сваёй прыяцелькай.

– Добры дзень, місіс Тэчэр! – сказала цёця Поллі. – Добрай раніцы, місіс Гарпер! А ў мяне хлапчук зноў знік. Я ўпэўнена, што мой Том начаваў сёння ў каго-небудзь з вас, а цяпер баіцца ісці ў царкву,– ведае, што яму дастанецца ад мяне.

Місіс Тэчэр слаба паківала галавой і яшчэ больш пабляднела.

– Ён у вас не начаваў,–сказала місіс Гарпер, таксама пачынаючы непакоіцца.

На твары цёці Поллі з'явілася трывога.

– Джо Гарпер, ты бачыў сёння раніцой майго Тома? – спыталася яна.

– Не, не бачыў.

– А дзе ты бачыў яго апошні раз?

Джо паспрабаваў успомніць, але не мог нічога сказаць пэўнага. Людзі, выходзячы з царквы, пачалі спыняцца і прыслухоўвацца да гутаркі. У натоўпе шапталіся. Пачатак трывогі адбіваўся на тварах. Пачалі распытваць дзяцей і малодшых настаўнікаў. Выявілася, што ніхто не памятае, ці былі Том і Бэкі на пароме, калі ўсе вярталіся дадому: у змроку ніхто іх не заўважыў, і нікому не прышло ў галаву спытацца, ці ўсе сабраліся. Адзін юнак не вытрымаў і бахнуў:

– Ну, значыцца, яны засталіся ў пячоры!

Місіс Тэчэр самлела. Цёця Поллі загаласіла, ламаючы рукі.

Трывожная вестка пераходзіла з вуснаў у вусны, ад групы да групы, з вуліцы ў вуліцу. Праз пяць мінут ужо празванілі ва ўсе званы, склікаючы народ. На зладзеяў адразу забыліся. Сядлалі коней, адвязвалі лодкі. Паслалі па паром, і праз поўгадзіны каля двухсот чалавек накіраваліся сухім шляхам і вадою к пячоры.

Увесь дзень гарадок здаваўся мёртвым,– так ён апусцеў.

Увесь дзень суседкі наведвалі цёцю Поллі і місіс Тэчэр, стараючыся ўцешыць іх, плакалі разам з імі, і гэта было важней за ўсе словы.

Усю тужлівую ноч у гарадку чакалі вестак, але калі нарэшце, прышла раніца, з пячоры прыслалі толькі па харчы і свечы. Місіс Тэчэр траціла розум ад хвалявання і цёця Поллі таксама.

Суддзя Тэчэр прысылаў з пячоры бадзёрыя запіскі, але яны мелі слабы ўплыў.

На другі дзень, досвіткам, стары валіец вярнуўся дадому, увесь запэцканы глінай і салам. Ён знайшоў Гека на той самай пасцелі, куды яго палажылі. Хлопчык кідаўся ў гарачцы і быў у непрытомнасці. Усе дактары былі ў пячоры, таму хворага ўзялася даглядаць удава Дуглас, кажучы, што яна зробіць для яго ўсё мажлівае, бо добры ён, ці дрэнны,– не пакідаць-жа яго без догляду. Валіец сказаў, што і ў Гека ёсць свае добрыя якасці.

К поўдню ў гарадок пачалі вяртацца групкі да смерці зморaных людзей, якія страцілі надзею знайсці загінуўшых, але больш энергічныя працягвалі пошукі. Ад тых, хто вярнуўся, даведаліся мала: яны казалі толькі, што ў пячоры перагледзелі ўсе далёкія калідоры, куды ніколі не хадзілі раней, агледзелі ўсе куткі і выхады і, бадзяючыся ў гэтым лабірынце, бачылі далёка сям і там агеньчыкі, чулі крыкі і стрэлы, якія глуха разносіліся пад хмурымі скляпеннямі.

У адным месцы, далёка ад тых частак пячоры, куды звычайна заглядаюць турысты, знайшлі два словы, выведзеныя на камені копаццю ад свечкі: «Бэкі і Том», і тут-жа побач закапаную салам істужачку. Місіс Тэчэр пазнала істужачку і расплакалася над ёю. Іншыя расказвалі, што ў часе пошукаў часам бачылі здалёк святло і з крыкамі радасці кідаліся ў той бок, але іх чакала горкае расчараванне: дзяцей там не было, а знаходзілі толькі каго-небудзь з сваёй-жа кампаніі.

Так прайшло тры страшных дні і тры страшныя ночы. Марудна і нудна цягнулася гадзіна за гадзінай. Увесь горад ахапіла, нарэшце, нейкае безнадзейнае атупенне. Ні ў каго не было ахвоты ўзяцца за працу, работа валілася з рук. Выпадковае выкрыццё, што на заездным двары таварыства цвярозасці ў адным з нумароў хаваліся гарэлка і ром, пры ўсёй сваёй незвычайнасці, бадай што не ўсхвалявала публіку.

У адну светлую хвіліну Гек, ачуняўшы, завёў гутарку пра карчму і нарэшце, баючыся пачуць нешта жудаснае, спытаўся, ці не знайшлі чаго-небудзь у карчме таварыства за час яго хваробы.

– Але, знайшлі,– быў адказ.

Гек ускочыў з пасцелі і дзікімі вачыма ўтаропіўся на ўдаву Дуглас.

– Што? Што такое знайшлі?..

– Спіртавыя вырабы. Гарэлку. Лажыся, дзетка. Як ты мяне спалохаў!

– Скажыце мне толькі адно, толькі адно, калі ласка! Хто знайшоў? Том Соўэр?

Удава заплакала.

– Супакойся, супакойся, дзетка, я табе ўжо сказала: табе нельга так многа гаварыць. Ты вельмі, вельмі хворы.

«Значыцца, апрача гарэлкі, нічога не знайшлі, бо каб знайшлі грошы, дык у гарадку пачаўся-б перапалох. Значыцца, скарб знік назаўсёды, вышаў з рук... Але чаго яна плача? Незразумела! Аб чым ёй, здавалася-б, плакаць?»

Вось якія думкі няясна варушыліся ў галаве Гека, і ён так змарыўся ад іх, што заснуў.

– Ну, вось ён і спіць, небарака,– казала сабе ўдава, – «Том Соўэр знайшоў!» Ідзі цяпер, знайдзі Тома Соўэра! Ужо мала і засталося такіх, у якіх хапае мужнасці і сілы шукаць твайго Тома Соўэра!

## Раздзел XXX

Вернемся цяпер да Тома і Бэкі. Яны разам з усімі бадзяліся па хмурых калідорах, аглядаючы ўжо знаёмыя ім цуды пячоры, якія мелі нейкія дзіўныя назвы: «Прыёмная зала», «Сабор», «Палац Аладына» і г. д. Потым пачалася вясёлая гульня ў хаванкі, і Том і Бэкі старанна прыймалі ў ёй удзел, пакуль не стаміліся ад беганіны. А потым яны пайшлі ўдвох па звілістым калідоры, высока трымаючы свае свечкі і чытаючы блытаніну з імёнаў, лічбаў, адрасоў і мудрых выразаў, якія былі панапісаны на каменных сценах. Захапіўшыся гутаркай, яны і не заўважылі, як зайшлі ў такую частку пячоры, дзе на сценах ужо не было надпісаў. Тады яны самі вывелі копаццю свае імёны на сцяне пад навіслым каменем і пайшлі далей.

Нарэшце яны дайшлі да месца, дзе маленькі ручаёк, пераліваючыся праз каменны выступ і несучы раствораную вапну, на працягу многіх вякоў стварыў нешта падобнае на бурлівую Ніягару з бліскучага каменя. Том праціснуўся ў вузкі кут за каменным вадаспадам, каб асвятліць яго дзеля пацехі Бэкі, і ўбачыў, што за гэтым вадаспадам хаваецца нешта накшталт натуральных сходаў, уціснутых у вузкую шчыліну між двума, каменнымі сценамі. Яго адразу ахапіла ганарлівае жаданне што-небудзь адкрыць. Бэкі падтрымала яго, і яны, зрабіўшы для памяці знак сажай на камені, пайшлі на пошукі.

Яны доўга ішлі па звілістым калідоры, які спускаўся ўсё ніжэй у таямніцы пячоры, зрабілі яшчэ знак і завярнуліся ў бок,

шукаючы новыя цуды, каб было што расказаць там, наверсе. У адным месцы яны знайшлі вялізную нішу, дзе са столі спускалася мноства бліскучых сталактытаў, даўжынёй і таўшчынёй у чалавечую нагу. Яны абышлі навакол гэтую пячору, захапляючыся яе хараством, і вышлі адтуль у адзін з калідораў, якія ў вялікай колькасці ўваходзілі сюды.

Хутка яны апынуліся ў другой пячоры, каля чароўнай крыніцы, якая біла з скалы і падала ў басейн, абмураваны бліскучымі крышталамі, як палівай. Уверсе туліліся кучай тысячы кажаноў. Святло спудзіла іх, і яны замітусіліся сотнямі, з піскам кідаючыся на свечкі. Том ведаў іх нораў і ведаў, якой небяспекай гэта пагражае. Ён схапіў Бэкі за руку і выбег разам з ёю ў першы, які трапіўся, калідор: і час быў, бо адзін з кажаноў загасіў крылом свечку Бэкі, калі яна выходзіла з пячоры. Кажаны доўга яшчэ гналіся за дзецьмі, але ўцекачы ўсё заварочвалі ў новыя ходы, што трапляліся па дарозе, і такім чынам нарэшце вызваліліся ад праследвання.

Пасля таго Том знайшоў падземнае возера з цмянымі абрысамі, якія знікалі ў цемры. Ён хацеў даследваць яго берагі, але потым падумаў, што лепш будзе спачатку прысесці і адпачыць. Тут першы раз яны адчулі, што мёртвая цішыня падзямелля прыгнятае іх.

– Што гэта, сказала Бэкі – нібы даўно ўжо не чуваць галасоў? Ты не заўважыў?

– Ды ты падумай, Бэкі,– яны-ж там, наверсе, а мы ўнізе; я нават не ведаю, куды мы зайшлі: на поўнач, на поўдзень ці на ўсход. Тут мы не можам іх чуць.

Бэкі ўстрывожылася.

– А доўга мы тут ходзім, Том? Ці не лепш вярнуцца назад?

– Яно, пэўна, будзе лепш.

– А ты здолееш знайсці дарогу, Том? Тут такая блытаніна – я адна не выбралася-б.

– Я знайшоў-бы дарогу, каб не гэтыя кажаны! Калі яны загасяць абедзве свечкі, гэта будзе паганая справа. Паспрабуем знайсці другую дарогу, каб не праходзіць там.

– Спадзяюся толькі, што мы не заблудзім. Гэта быў-бы такі жах!

І дзяўчынка нават уздрыганулася ад гэтай думкі. Том выбраў адзін з калідораў, і дзеці доўга моўчкі ішлі па ім, углядаючыся ў кожны новы папярочны ход, ці не будзе ён знаёмым. Але ўсё тут было ім чужое. Кожны раз, калі Том даследваў новы ход, Бэкі сачыла за яго тварам, чакаючы бадзёрага знаку, і ён весела казаў:

– Гэта яшчэ не той, па якім мы ішлі, але ты не бойся,– у свой час знойдзем і яго.

Тым не менш з кожнай няўдачай ён усё больш траціў упэўненасць і хутка пачаў заварочваць направа і налева, абы куды, спадзяючыся знайсці, нарэшце, знаёмую дарогу. Час ад часу ён казаў: «Не бойся: усё ідзе добра»,– але на сэрцы яго ляжаў такі страшэнны цяжар, што голас яго зрабіўся бязгучным, нібы ён казаў не «ўсё добра», а «ўсё прапала». Бэкі ад жаху прыціскалася да яго, усімі сіламі стараючыся ўстрымаць слёзы, але гэта ёй не вельмі ўдавалася. Нарэшце яна сказала:

– Слухай, Том, гэта нічога, што кажаны,– вернемся той дарогай. А так мы зусім заблытаемся.

Том спыніўся.

– Пачакай.

І сярод глыбокай цішыні, такой глыбокай, што дзеці чулі нават уласнае дыханне, Том крыкнуў. Голас яго доўга адбіваўся па пустынных калідорах і заціх далёка слабым гукам, нібы насмешлівы рогат.

– Ох, Том, не крычы,– гэта так страшна! – сказала Бэкі.

– Хоць яно і страшна, але ўсё-ж лепш крычаць, Бэкі: можа яны пачуюць нас.

І ён крыкнуў зноў.

Гэтае «можа» прагучэла для дзяўчынкі яшчэ больш жудасна, як злавесны рогат: яна зразумела, што Том траціць надзею. Дзеці стаялі моўчкі і чакалі, але на крык ніхто не адгукнуўся. Том завярнуўся назад і паскорыў крокі. Але хутка нейкая неўпэўненасць у яго поглядзе выдала Бэкі другую страшную праўду: ён ужо не мог знайсці дарогу назад!

– О, Том, чаму ты не рабіў знакаў!

– Бэкі, які я дурань! Які-ж я дурань! Мне і ў галаву не прышло, што нам прыдзецца вяртацца. Не, я не магу знайсці дарогі! У мяне ўсё пераблыталася.

– Том, Том, мы прапалі! Прапалі! Нам ніколі, ніколі не выбрацца з гэтага жудаснага падзямелля! О, навошта мы адлучыліся ад усіх!

Яна млява апусцілася на зямлю і так дзіка зарыдала, што Том перапалохаўся, думаючы, што яна зараз памрэ ці звар'яцее. Ён сеў побач з ёю і абняў яе. Яна, рыдаючы, схавала твар у яго на грудзях і прыціснулася да яго, вымаўляючы ўсе свае жахі, сваё позняе шкадаванне, а далёкае рэха перутварала яе горкія словы ў дробкі вясёлага смеху. Том упрашаў яе падбадзёрыцца, але яна казала, што не можа. Тады ён пачаў лаяць сябе, што паставіў яе ў такое жудаснае становішча,– і гэта падзейнічала лепш. Яна сказала, што паспрабуе авалодаць сабой, што яна ўстане і пойдзе за ім, куды ён павядзе яе, абы толькі ён так не казаў, бо яна і сама вінаватая ніколькі не менш ад яго.

І яны пайшлі наўдачу, так сабе, абы ісці, а не сядзець на месцы,– больш-жа ж яны нічога не маглі зрабіць.

Праз некалькі мінут Том узяў свечку з рук Бэкі і пагасіў яе. Для іх так важна было эканоміць святло!.. Бэкі без слоў зразумела гэта і зноў прышла ў адчай. Яна ведала, што ў Тома ёсць цэлая свечка ды яшчэ тры ці чатыры агаркі ў кішэні, і тым не менш ён лічыў патрэбным эканоміць.

Паступова зморанасць пачала даваць свае вынікі; дзеці спрабавалі не звяртаць на гэта ўвагі,– ім нават страшна было падумаць, каб сесці, бо кожная мінута была надта дарагая; рухаючыся ў якім-бы там ні было кірунку, хоць наўздагад, яны ўсё-ж ішлі наперад і, можа к выхаду, а сесці гэта азначала аддаць сябе на смерць і прыблізіць яе прыход.

Але слабыя ножкі Бэкі зусім адмаўляліся служыць ёй. Яна села. Том сеў побач з ёю і яны пачалі размаўляць пра дом, пра пакінутых там прыяцеляў, пра мяккія пасцелі і, галоўнае, пра святло. Бэкі плакала. Том стараўся прыдумаць што-небудзь, каб суцешыць яе, але ўсе яго выдумкі ні да чаго не прывялі. Бэкі так аслабла ад стомы, што нарэшце заснула. Том быў рады гэтаму. Ён углядаўся ў яе зморaны тварык і бачыў, як ён паступова прымаў звычайны спакойны выраз ад прыемных сноў; на губах у яе з’явілася і засталася ўсмешка. Ад гэтай спячай дзяўчынкі ішоў мір, і думкі Тома луналі ў мінулым, у няясных успамінах. Ён так увайшоў у гэтыя ўспаміны, што і не заўважыў, як Бэкі прачнулася і ціханька засмяялася. Але смех зараз-жа замёр на яе вуснах і перайшоў у стогн.

– О, як я магла заснуць! Я-б хацела ніколі, ніколі не прачынацца! Не, не, Том, не глядзі так! Я не буду больш так казаць.

– Я рады, што ты спала, Бэкі; цяпер ты адпачыла, і мы пойдзем зноў шукаць дарогу.

– Паспрабуем, Том, але я сніла такую дзівосную краіну, а тут…

– Трымайся, Бэкі! Пойдзем зноў шукаць!

Яны ўсталі і пайшлі поруч, але ўжо не верачы ў поспех. Яны паспрабавалі абмеркаваць, колькі часу яны правялі ў пячоры; але ім здавалася, што яны тут ужо некалькі дзён і тыдняў, а між тым гэтага, безумоўна, не магло быць, бо нават свечкі іх не дагарэлі да канца.

Пасля таго яны доўга,–самі не ведалі, як доўга,– ішлі моўчкі. Том сказаў, што трэба стаіцца і прыслухоўвацца, ці не чуваць дзе шуму ад капання вады,– трэба знайсці крыніцу. Яны знайшлі адну, і Том сказаў, што тут трэба зноў зрабіць прыпынак. Абое страшэнна стаміліся, але Бэкі лічыла за лепшае ісці далей і была вельмі здзіўлена, калі Том не згадзіўся. Яна не магла зразумець гэтага.

Яны селі, і Том глінай прыляпіў свечку на камені перад імі. Абодва задумаліся і некаторы час не гаварылі ні слова. Бэкі першая парушыла цішыню.

– Том, я такая галодная.

Том выцягнуў нешта з кішэні.

– Ты памятаеш?

Бэкі слаба ўсміхнулася.

– Гэта наш вясельны каравай.

– Я хацеў-бы, каб ён быў вялікі, як бочка, бо ў нас болей нічога няма.

– Я схавала гэты кавалак на пікніку, каб палажыць яго пад падушку, як робяць дарослыя, і потым загадаць, каго я сасню; але гэта будзе наш апош…

Бэкі не скончыла, каб не засмучаць свайго таварыша.

Том падзяліў пірог на дзве часткі. Бэкі з ахвотай з'ела сваю палавіну, але Том да сваёй ледзь дакрануўся. Напіцца было чым: побач была цэлая крыніца халоднай вады. Крыху счакаўшы, Бэкі прапанавала ісці далей. Том падумаў крыху, потым сказаў:

– Бэкі, ці можаш ты спакойна выслухаць, што я табе скажу?

Бэкі пабялела, але сказала, што, здаецца, можа.

– Дык вось што, Бэкі: нам трэба застацца тут,– тут прынамсі ёсць вада для піцця… І не забывай, што гэта наш апошні агарак!

Бэкі дала волю слязам і рыданню. Том суцяшаў яе, як мог, але гэта мала памагала. Нарэшце яна сказала:

– Том!

– Што, Бэкі?

– Яны ўсхопяцца і прыдуць шукаць нас?

– Ну, вядома! Зразумела, прыдуць.

– Можа яны ўжо цяпер шукаюць нас, Том?

– Што-ж, вельмі мажліва. Я спадзяюся, што так.

– Калі, ты думаеш, яны ўсхопяцца?

– Я думаю, калі вернуцца на паром.

– Том, тады будзе ўжо цёмна. Ці заўважаць яны, што нас няма?

Не ведаю, у кожным разе маці твая заўважыць, як толькі ўсе вернуцца дамоў.

Спалоханы погляд Бэкі напомніў Тому, што яго прыяцелька мелася начаваць у таварышкі і, значыцца, яе не будуць чакаць дома. Дзеці змоўклі і задумаліся. Праз некаторы час новы выбух гора ў Бэкі паказаў Тому, што ёй, як і яму, прышла ў галаву адна і тая самая думка: нядзельная раніца можа напалову прайсці, пакуль місіс Тэчэр даведаецца, што Бэкі не начавала ў місіс Гарпер.

Дзеці не спускалі вачэй з апошняга агарка, сочачы за тым, як ён павольна і бязлітасна растае. Нарэшце засталося толькі на палец

кнота. Слабы агеньчык падымаўся і падаў, узвіўся над тонкім слупком дыму, пачакаў там – і потым настала поўная страшная цемра.

Колькі часу прайшло, пакуль Бэкі зразумела, што яна плача ў абдымках Тома, ніводзін з іх сказаць не мог. Яны ведалі толькі, што праз вельмі доўгі, як ім здавалася, час яны нібы ачунялі ад цяжкога сну і зноў зразумелі ўвесь жах свайго становішча.

Том думаў, што ўжо надышла нядзеля, можа нават панядзелак. Ён спрабаваў уцягнуць Бэкі ў гутарку, але дзяўчынка была надта прыціснутая сваім горам. У яе не было больш ніякай надзеі. Том запэўняў, што іх адсутнасць ужо даўно павінны былі заўважыць і што цяпер іх, напэўна, шукаюць. Трэба зноў крычаць: хто-небудзь пачуе, адгукнецца і прыдзе. Ён крыкнуў. Але ў цемры далёкае рэха адгукалася так жудасна, што болей ён ужо не спрабаваў.

Гадзіны ішлі, і дзяцей зноў пачаў мучыць голад. Том адламіў кавалачак ад сваёй палавінкі; яны падзялілі яго паміж сабою, але ад гэтага ім толькі яшчэ больш захацелася есці.

– Тсс!.. – сказаў Том,– ты чуеш?

Бэкі затаіла дыханне і пачала прыслухоўвацца. Здалёк ледзь чутно данёсся нібы слабы крык. Дзеці зноў пачалі прыслухоўвацца. Потым Том адгукнуўся і, узяўшы Бэкі за руку, пабег па калідоры ў той бок, адкуль чуўся голас. Праз некаторы час яны спыніліся,– гук зноў паўтарыўся і як быццам бліжэй.

– Гэта яны! – усклікнуў Том. – Яны ідуць сюды! Хадзем, Бэкі, не бойся,– цяпер усё будзе добра!

Маленькія палоннікі не памяталі сябе ад радасці, але не маглі бегчы хутка, бо на кожным кроку трапляліся правалы, і трэба было ўнікаць іх. Ля адной шчыліны ім мімаволі прыйшлося спыніцца. Правал мог мець і тры футы і сто футаў глыбіні,– усёроўна прайсці праз яго было немагчыма. Том лёг на жывот і апусціўся ўніз, колькі мог. Ён не даставаў дна. Трэба было заставацца тут і чакаць, пакуль за імі прыдуць. Дзеці прыслухоўваліся, але гукі ўжо аддаляліся. Праз некалькі хвілін яны зусім сціхлі…

О, які жах! Том крычаў, пакуль не ахрыпнуў, але ніхто не адгукаўся. Ён стараўся абнадзеіць Бэкі, але прайшла цэлая вечнасць трывожнага чакання, а гукаў не было чуваць.

Дзеці вобмацкам дабраліся назад да крыніцы. Час цягнуўся марудна. Яны зноў заснулі і прачнуліся галодныя, змучаныя горам. Том быў упэўнены, што цяпер ужо аўторак.

Раптам у яго мільганула думка. Паблізу было некалькі бакавых калідораў. Ці не лепш даследваць іх, чымся сядзець і нудзіцца? Ён выняў з кішэні шпагат для пускання змеяў, прывязаў яго да выступа скалы і пайшоў, ведучы за руку Бэкі і размотваючы

клубок настолькі, наколькі яны рухаліся наперад.

Праз дваццаць крокаў калідор канчаўся нечым накшталт пляцоўкі для скакання. Том стаў на калены і пачаў мацаць сцяну ўнізе; памацаў рог, пасунуўся яшчэ трохі направа,– і ў гэты момант за якіх-небудзь дваццаць крокаў ад яго з-за рога ўцёса высунулася чалавечая рука са свечкай. Том радасна ўскрыкнуў, але ўслед за рукой зараз-жа высунулася і тулава: гэта быў індзеец Джо!

Том скамянеў ад жаху, ён не мог варухнуць ні рукой ні нагой і вельмі ўзрадаваўся, калі «іспанец» павярнуўся да яго спіной і знік з вачэй. Том здзівіўся, як гэта Джо не пазнаў яго голаса і не кінуўся на яго, каб забіць за паказанні на судзе; але, мабыць, рэха змяніла яго голас,– напэўна, так! Ад страху Том адчуваў незвычайную слабасць ва ўсім целе. Ён гаварыў сабе, што калі ў яго хопіць сілы вярнуцца да крыніцы, ён там і застанецца і болей ужо не захоча ісці шукаць выхаду, рызыкуючы сустрэцца з індзейцам Джо.

Том не сказаў Бэкі, што бачыў, а сказаў толькі, што крыкнуў так сабе.

Але голад і цяжкасць становішча паступова перамаглі страх. Новае нуднае сядзенне ля крыніцы і новы сон прынеслі з сабой страшэнныя пакуты ад голаду. Том быў упэўнены, што цяпер ужо серада ці чацвер, можа нават пятніца або субота, і што тыя, хто шукаў іх, страцілі надзею іх знайсці. Ён прапанаваў даследваць другі калідор. Ён гатоў быў рызыкнуць нават сустрэчай з метысам. Але Бэкі вельмі аслабла, яе ахапіла апатыя, і яна не хацела рухацца з месца. Яна казала, што застанецца тут, дзе сядзіць, і будзе чакаць смерці. Яна параіла Тому ўзяць шпагат і ісці самому, калі яму хочацца, але ўпрашала яго часцей вяртацца, каб пагаварыць з ёй, і ўзяла з яго слова, што калі прыдзе апошняя мінута, ён будзе сядзець каля яе і трымаць яе руку, пакуль усё скончыцца…

У Тома сціснулася горла. Ён пацалаваў Бэкі і пачаў запэўняць, што выхад з пячоры знойдзецца, калі яшчэ раней не знойдуць іх тыя, хто шукае. Потым ён узяў у руку шпагат ад змея і вобмацкам папоўз па адным з калідораў, адчуваючы голад і блізкую гібель…

## Раздзел XXXI

Мінула раніца аўторка, прышоў і вечар, а гарадок усё сумаваў: загінуўшыя дзеці не знаходзіліся. У царкве служылі малебствы аб выратаванні іх. Нямала ішло ўгору і па-асобных малітваў, што выходзілі з глыбіні душы, а з пячоры ўсё яшчэ не прыходзілі радасныя весткі. Большасць шукаўшых пакінулі пошукі і вярнуліся да сваіх звычайных заняткаў, кажучы, што дзеці, відаць, ужо не

знойдуцца. Місіс Тэчэр была зусім хворая і большую частку часу ляжала ў непрытомнасці. Тыя, хто яе бачыў, казалі, што аж сэрца рвецца, слухаючы, як яна кліча сваю дзяўчынку, гледзячы, як яна падымае галаву і доўга прыслухоўваецца, а потым, уздыхнуўшы, зноў млява апускае галаву на падушку. У цёці Поллі шэрыя валасы ад тугі зрабіліся бадай што зусім белымі. У аўторак вечарам увесь гарадок пайшоў спаць смутны, страціўшы ўсялякую надзею.

Сярод ночы раптам пачаўся трызвон, і ў адзін момант вуліцы напоўніліся поўадзетымі людзьмі, якія шалёна крычалі: «Выходзьце, выходзьце! Яны знайшліся! Знайшліся!» Званілі ў званы, білі ў бляшаныя скавародкі, трубілі ў ражкі. Усё насельніцтва горада бегла да ракі, насустрач дзецям, якіх везлі на сабе ў адкрытым экіпажы радасныя абываталі. Натоўп акружыў экіпаж і праводзіў яго дадому ўрачыстай працэсіяй, з крыкамі «ура».

Запалілі ілюмінацыю. Спаць ужо ніхто не клаўся. Такой вялікай ночы гарадок яшчэ не перажываў. За поўгадзіны ў доме суддзі Тэчэра пабывалі бадай што ўсе абываталі горада. Яны абыймалі выратаваных дзяцей, цалавалі іх, паціскалі рукі місіс Тэчэр, спрабавалі гаварыць, але не маглі, і залілі ўвесь дом сваімі слязмі.

Цёця Поллі была бадай такая самая шчаслівая, як і місіс Тэчэр. Місіс Тэчэр была-б зусім шчаслівая, каб з пячоры вярнуўся яе муж, да якога паслалі ганца з радаснай весткай.

Том ляжаў на канапе і расказваў прагным слухачам гісторыю сваёй дзіўнай прыгоды, дадаючы «дзеля аздобы» нямала выдуманых ім самім падрабязнасцей. У заключэнне ён расказаў, як ён, пакінуўшы Бэкі, пайшоў даследваць новыя калідоры, прайшоў трэці і ўжо хацеў-быў вяртацца назад, як раптам убачыў далёка светлую пляму, нібы дзеннае святло пранікала ў шчыліну; як ён кінуў вяроўку і пабег да гэтай плямы, прасунуў галаву і плечы ў невялікую адтуліну і ўбачыў перад сабою шырокую прастору Місісіпі. А каб гэта было ўначы, ён не ўбачыў-бы светлай плямы, і яму не прышло-б у галаву пайсці да канца калідора!

Потым ён расказаў, як ён вярнуўся да Бэкі з радаснай весткай, і яна сказала яму, каб ён не лез да яе з такім глупствам, бо яна стамілася і ведае, што хутка памрэ, і радуецца з гэтага. Ён расказаў, як ён угаварваў яе і як яна сапраўды ледзь не памерла з радасці, убачыўшы дзеннае святло; як ён вылез сам і дапамог вылезці ёй; як яны сядзелі і плакалі ад радасці, а ў гэты час міма ехала лодка, і Том гукнуў ехаўшых і сказаў ім, што яны трапілі сюды з пячоры і страшэнна згаладаліся.

Рыбакі спачатку не далі яму веры, кажучы, што тое месца, дзе яны цяпер сядзяць, на пяць міль ніжэй ад даліны, дзе знаходзіцца пячора. Але потым гэтыя рыбакі ўзялі іх у лодку, завезлі іх у нейкі дом, накармілі вячэрай, далі адпачыць дзве-тры

гадзіны і потым адвезлі дадому. Яшчэ да світання суддзю Тэчэра і некалькі быўшых з ім чалавек выцягнулі з пячоры пры дапамозе вяровак, якімі яны абвязаліся, спускаючыся туды, і паведамілі ім радасную навіну.

Тры дні і тры ночы пакут, голаду і страху ў пячоры не маглі прайсці дарма, як хутка пераканаліся Том і Бэкі. Усю сераду і чацвер яны праляжалі ў пасцелі, адчуваючы вялікую знямогу. Том пачаў уставаць ужо ў чацвер, у пятніцу пайшоў бадзяцца па горадзе, а ў суботу быў амаль малайцом; але Бэкі да самай нядзелі не выходзіла з свайго пакою, ды і вышаўшы, мела такі выгляд, нібы перанесла сур'ёзную хваробу.

Том, пачуўшы пра хваробу Гека, яшчэ ў пятніцу пайшоў наведаць яго, але яго не пусцілі да хворага не толькі ў той дзень, але і ў суботу і ў нядзелю. Потым ужо яго пускалі кожны дзень, але з папярэджаннем – не расказваць пра падзеі ў пячоры і наогул не весці гутарак, якія хвалююць хворага. А для вернасці ўдава Дуглас увесь час сядзела з імі. Дома Том даведаўся, што ўдаву ледзь было не аграбілі і што цела аднаго з валацуг знойдзена было ў рацэ каля паромнай прыстані: відаць, ён утапіўся, ратуючыся ад дагону.

Тыдні праз два пасля свайго вызвалення з пячоры, Том пайшоў наведаць Гека, які за гэты час набраўся ўжо досыць сілы, каб весці ўсялякія гутаркі, а як дом суддзі быў па дарозе, то наш герой зайшоў, каб пабачыцца з Бэкі. У суддзі былі госці; яны ўцягнулі Тома ў гутарку, і нехта жартам спытаў яго, ці хацеў-бы ён яшчэ раз пабываць у пячоры. Том адказаў, што гатоў адправіцца туды хоць зараз.

– Я ніколі не сумняваюся, Том, што ў цябе знайшліся-б пераймальнікі,– сказаў суддзя,– але мы зрабілі захады, каб у гэтую пячору больш ужо ніхто не трапіў.

– Як? Чаму?

– Таму што я два тыдні назад распарадзіўся ababіць гэтую дзвер лістовым жалезам і замкнуць яе трыма замкамі. А ключы ў мяне.

Том збялеў, як палатно.

– Што з табой, хлопчык? Эй, хто-небудзь сюды, дайце шклянку вады!

Прынеслі ваду, пырснулі ёю ў твар Тома.

– Ох, суддзя, там у пячоры… індзеец Джо!

## Раздзел XXXII

У пяць мінут навіна разнеслася па ўсім горадзе, і праз некаторы час дзесятак лодак, нагружаных людзьмі, ужо накіраваліся к пячоры, а хутка за імі пайшоў і паром, перапоўнены пасажырамі.

Том Соўэр ехаў у адной лодцы з суддзёю Тэчэрам.

Як толькі дзверы адчынілі, у змроку пячоры ўбачылі сумнае з’явішча. На зямлі ляжаў мёртвы метыс, прыціснуўшыся тварам да шчыліны ў дзверах, нібы прагны зрок яго да апошняй хвіліны не мог адарвацца ад святла і радасці вольнага знадворнага свету.

Том расчуліўся. Ён з практыкі ведаў, якія пакуты павінен быў перацярпець гэты няшчасны. Яму было шкода метыса, але ў той-жа час ён адчуў вялізнае палягчэнне, і толькі цяпер добра зразумеў, якім вялікім цяжарам ляжаў у яго на душы вечны страх з таго дня, калі ён выкрыў на судзе гэтага лютага злодзея.

Тут-жа побач ляжаў вялікі нож метыса, зламаны напалам. Тоўсты ніжні брус дзверы быў увесь пакрышаны гэтым нажом, але цяжкая праца была дарэмнай, бо знадворку пад парогам выступаў камень і з ім нож нічога не мог зрабіць. Нават, каб тут і не было каменя, праца метыса ўсероўна прапала-б дарэмна, бо і зрэзаўшы брус, ён не мог-бы праціснуцца ў шчыліну,– і ён ведаў гэта. Небарака рэзаў дрэва толькі затым, каб што-небудзь рабіць, каб як-небудзь змарнаваць цягучы час, як-небудзь заняць змучаны розум.

Звычайна ў расколінах сцен гэтай пярэдняй часткі пячоры заўсёды былі дзесяткі сальных агаркаў, якія пакідалі тут турысты; цяпер-жа іх не відаць было аніводнага: вязень усе іх з’еў. Ён ухітрыўся нават злавіць некалькі кажаноў і таксама з’еў іх, пакінуўшы толькі косці. Няшчасны памёр галоднай смерцю.

Недалёка павольна вырастаў з зямлі сталагміт, створаны на працягу вякоў каплямі вады, якія капалі з вісеўшага над ім сталактыта. Вязень адламаў верхавіну сталагміта і выдзеўбаў ямку для збірання дарагіх капель, што падалі праз кожныя дваццаць мінут з суровай рэгулярнасцю гадзінніка. Праз дваццаць чатыры гадзіны такім чынам набіралася лыжка.

Індзейца Джо пахавалі недалёка ад уваходу ў пячору, і на гэтыя хаўтуры з’ехаўся народ у лодках і на конях з усіх суседніх ферм і вёсак на сем міль навакол.

На другі дзень пасля гэтага Том з Гекам схаваліся ва ўтульным месцы для сур’ёзнай гутаркі. К гэтаму часу Гек ужо ведаў аб прыгодзе Тома ад валійца і ўдавы Дуглас.

Але – як сказаў Том – яны не сказалі Геку аднаго, самага галоўнага, і аб гэтым яму і хочацца пагаварыць з прыяцелем. Твар Гека нахмурыўся.

– Я ведаю, у чым справа,– сказаў Гек.– Ты быў у «нумары другім» і не знайшоў там нічога, апрача віскі. Мне ніхто не сказаў пра цябе, але я зразумеў, што гэта быў ты, і зразумеў таксама, што ты не атрымаў грошай, бо іначай ты ўжо знайшоў-бы спосаб дабрацца да мяне і паведаміць гэтую навіну. Том, мне заўсёды здавалася, што нам не дасца ў рукі гэты скарб.

– Што ты, Гек? Я ніколі не даносіў на гаспадара. Ты-ж ведаеш, што ў суботу, калі мы ішлі на пікнік, у карчме ўсё было спакойна. Хіба ты не памятаеш, што ты ноччу павінен быў пільнаваць каля карчмы?

– О, так! Ведаеш, мне цяпер здаецца, што гэта было даўно-даўно, які год назад. Гэта было ў тую самую ноч, калі я ішоў да ўдавы Дуглас, сочачы за гэтым д'яблам метысам.

– Ты пайшоў за ім следам?

– Так. Толькі аб гэтым маўчы! Я ўпэўнены, што ў яго засталіся сябры. Я не жадаю, каб яны зрабілі са мной якую-небудзь паганую штуку. А ўжо гэта ты мне можаш даць веры: каб не я, ён быў-бы цяпер у Тэхасе!

І Гек пад сакрэтам расказаў усе свае прыгоды. Том да гэтага часу чуў толькі частку гэтых прыгод ад валійца.

– Разумееш,– скончыў Гек, вяртаючыся да галоўнай тэмы іхняй гутаркі,– тыя, хто цягаў гарэлку з «другога нумару», выцягнулі адтуль і грошы. У кожным разе наша справа скончаная, Том.

– Гек, гэтыя грошы не засталіся ў «другім нумары».

– Што такое? – Гек дапытлівымі вачыма ўтаропіўся ў твар таварыша. – Том, ты зноў натрапіў на след грошай?

– Гек, яны ў пячоры.

У Гека загарэліся вочы.

– Паўтары, што ты сказаў, Том.

– Грошы ў пячоры.

– Том, скажы сумленна, ты сур'ёзна гаворыш, ці жартуеш?

– Сур'ёзна, Гек, я ніколі яшчэ не казаў так сур'ёзна. Хочаш пайсці са мной туды і памагчы мне ўзяць грошы?

– А як-жа ж? Вядома, пайду! Толькі ці можна прабрацца туды, не заблудзіўшы?

– Гек, мы смела можам прабрацца туды, зусім без рызыкі.

– Добра! Але чаму ты думаеш, што грошы...

– Пачакай, Гек, пакуль мы прыдзем туды. Калі мы не знойдзем грошай, я табе аддам мой барабан і ўсё, што ў мяне ёсць. Далібог, аддам!

– Добра, ідзе! Калі, ты кажаш, трэба ісці?

– Ды хоць зараз, калі ты згодзен. У цябе сілы хопіць?

– А далёка ісці да пячоры? Я ўжо тры ці чатыры дні на нагах, але больш мілі мне не прайсці,– прынамсі я так думаю, што не прайсці.

– Кожнаму іншаму, апрача мяне, прышлося-б ісці міль пяць, але я цябе павяду туды карацейшай дарогай, якую, апрача мяне, ніхто не ведае. Я цябе завязу туды ў лодцы, Гек, давязу да самага месца і сам буду грабсці туды і назад, – табе не прыдзецца рук стамляць.

– Едзем зараз, Том!

– Добра! Нам трэба ўзяць хлеба і мяса, ды люлькі, ды пусты мяшок, ды два-тры клубкі шпагату ад папяровага змея, ды яшчэ гэтых толькі што выдуманых штучак, якія называюцца сярнічкамі. Колькі разоў я шкадаваў, што іх не было ў мяне, калі я сядзеў там у пячоры.

Пасля поўдня хлопчыкі, скарыстаўшы адсутнасць суседа, узялі яго лодку і адправіліся ў дарогу. Калі яны праехалі некалькі міль, Том сказаў:

– Бачыш вунь тую кручу, што ідзе ўніз ад «пячорнай западзіны»? Яна здаецца гладкай і роўнай, адны толькі кусты, усе падобныя адзін да аднаго. Але вунь там, дзе апоўзень, бачыш, бялеецца нешта? Гэта мой знак,– мы тут і выйдзем.

Яны прысталі да берага.

– Вось адсюль, дзе стаім, Гек, ты можаш дакрануцца вудачкай да той дзверы, праз якую я вылез. Паспрабуй, брат, знайсці яе.

Гек вышукаў усё навакол і нічога не знайшоў. Том з гонарам палез у самую гушчу кустоў, кажучы:

– Во ён! Гэта самы патаемны лаз ва ўсіх тутэйшых месцах. Толькі глядзі, нікому ні гу-гу! Я даўно ўжо збіраюся ісці ў разбойнікі, ды ўсё зручнага прыстанішча не знаходзілася, такога, як гэтае, а без прыстанішча, як вядома, разбойнічаць немагчыма. А цяперака мы знайшлі і нікому пра яго не скажам, хіба толькі Джо Гарперу ды Бэну Роджэрсу,– бо трэба-ж набраць банду, а калі ўдвох, дык якія-ж гэта разбойнікі! Банда Тома Соўэра–ці не дзівосна гэта гучыць, Гек?

– Але, Том, дзівосна. А каго-ж мы будзем грабіць?

– О, каго прыдзецца! Праезджых, прахожых людзей, як належыць разбойнікам.

– І забіваць іх?

– Не, не заўсёды. Лепш трымаць іх у палоне ў пячоры, пакуль не заплоцяць выкуп!

– А што гэта такое–выкуп?

– Грошы, значыцца. Ім кажуць сабраць з сваіх прыяцеляў, колькі яны там могуць, і калі праз год яны не заплоцяць выкупу, тады іх забіваюць. Але жанчын нельга забіваць. Жанчыны заўсёды красуні і багатыя і страшэнна баяцца. У іх адбіраюць гадзіннікі і ўсё такое, але гаварыць з імі трэба заўсёды далікатна і зняўшы капялюш. Разбойнікі надзвычайна далікатны народ! Гэта ва ўсіх кнігах гаворыцца. Ну, жанчыны, звычайна, пачынаюць кахаць разбойнікаў. Пасядзеўшы ў пячоры тыдзень-другі, яны перастаюць плакаць і потым ужо самі не хочуць пакідаць разбойнікаў. Так ва ўсіх кнігах пішуць.

– А гэта-ж цудоўна, Том! Гэта, мусіць, лепш нават, як быць

піратам.

– Ну але, лепш… з усіх бакоў – бліжэй да дому і наогул…

Тымчасам хлопчыкі перацягнулі з лодкі ўсе рэчы і праз дзіру ўлезлі ў пячору. Том ішоў наперадзе. Яны дайшлі да стромкага канца падземнага калідора, прымацавалі свае вяроўкі да выступа скалы і рушылі далей. Праз некалькі крокаў яны апынуліся каля крыніцы, і Том адчуў, як дрыжыкі пайшлі па ўсім яго целе. Ён паказаў Геку рэштку кнота, прылепленага да скалы і расказаў, як яны з Бэкі сачылі за знікаючым полымем.

Хлопчыкі, самі таго не заўважаючы, сцішылі голас да шэпту: цішыня і цемра навакол прыгняталі іх. Яны завярнуліся ў другі калідор і ўсё ішлі, пакуль не дабраліся да «пляцоўкі для скакання». Пры святле свечак выявілася, што пад пляцоўкай была не прорва, а толькі стромкі гліністы спуск, футаў на дваццаць-трыццаць глыбіні.

– Цяпер я нешта пакажу табе, Гек,– шапнуў Том.

Ён высока падняў сваю свечку.

– Зазірні за рог, як мага далей. Бачыш вунь там, на вялікім камені, копаццю выведзена?

– Том, гэта крыж!

– Разумееш, дзе «нумар другі»!? Пад крыжам – а? Зразумеў? Тут я і бачыў індзейца Джо са свечкай у руках.

Гек уздрыгнуўся і дрыжачым голасам прамовіў:

– Том, пойдзем адсюль!

– Як! – Пакінуць скарб?

– Але, пакінуць. Здань індзейца Джо, пэўна, бадзяецца ў гэтай пячоры.

– Не, Гек, не! Ён, калі і бадзяецца, дык у тым месцы, дзе памёр метыс, ля ўваходу ў пячору, за пяць міль адсюль.

– Не, Том, няверна ты гаворыш. Ён будзе хадзіць іменна каля грошай, грошы сцерагчы. Здані заўсёды так, я ведаю, і ты таксама.

– Глупства! Глупства! Давай злезем у ніз і будзем шукаць скрыні.

Том палез першы, высякаючы па дарозе ступенькі ў гліністым спадзе. Гек следваў за ім. У невялікую пячору, дзе стаяла скала, выходзілі чатыры калідоры. Хлопчыкі даследвалі тры з іх і нічога не знайшлі, апрача невялікай нішы; у бліжэйшым ад скалы калідоры былі пасланыя коўдры, вісеў стары кацялок, валялася скура ад шынкі і некалькі чыста абгрызеных птушыных касцей, але грошай не было. Хлопчыкі ўсё вышнýралі і вышукалі, але дарэмна. Нарэшце Том сказаў:

– Ён казаў: «пад крыжам». Гэта і ёсць пад крыжам. Не могуць-жа ж яны быць пад самай скалой: яна-ж шчыльна

злучаецца з зямлёй.

Яны пашукалі яшчэ, а потым прыселі адпачыць. Гек нічога не мог прыдумаць. Нарэшце Том сказаў:

– Глядзі, Гек, на адным баку скалы відаць сляды ног і сальныя плямы ад свечкі на гліне, а з другога боку нічога няма. Чаму гэта так? Я ўпэўнены, што грошы пад скалой. Я зараз пакапаюся ў гліне.

– Нядрэнная думка, Том! – жвава падхапіў Гек.

Том выцягнуў свой ножык і як толькі зрабіў маленечкую ямку, ножык стукнуўся аб нешта драўлянае.

– Гек, ты чуеш?

Гек сам ужо старанна капаў, дапамагаючы яму. Хутка яны дакапаліся да дошак, якія закрывалі адтуліну, што вяла пад скалу. Том пралез у сярэдзіну і выцягнуў руку са свечкай, але не мог асвятліць усёй расколіны да канца і парашыў даследваць яе. Нахіліўшыся, як мага, ён пайшоў далей. Вузкі, звілісты ход паступова паглыбляўся ў зямлю. Том ішоў наперадзе, Гек следам за ім. Яны завярнулі направа, потым налева, прайшлі яшчэ згіб, і раптам Том крыкнуў:

– Гек, глянь сюды!

Гэта быў той куфэрак са скарбам, а побач з ім пустая скрынка ад пораху, пара стрэльбаў у скураных чахлах, скураны пояс і featrознае барахло, замочанае вадой, якая капала зверху.

– Вось дзе яно! – сказаў Гек, запускаючы руку ў цмяныя манеты. – Ну, Том, багатыры-ж мы з табою цяпер!

– Гек, я заўсёды быў упэўнены, што мы разбагацеем. Цяпер грошы нашы, гэта ўжо напэўна! Але няма чаго тут валаводзіцца,– трэба выносіць скрынку. Дай паглядзець, ці здолею я падняць яе.

Скрынка важыла фунтаў пяцьдзесят. Том сяк-так мог яшчэ падняць яе, але несці не мог.

– Я так і думаў,– сказаў ён,– яна мне і на выгляд здалася важкай,– памятаеш, калі яны неслі яе там, у доме са зданямі? Вось і добра, што мне прышло ў галаву захапіць з сабою мяшкі.

Хлопчыкі перасыпалі грошы ў мяшкі і ўсцягнулі іх на скалу.

– Цяпер давай перанясем стрэльбы і ўсё іншае,– прапанаваў Гек.

– Не, Гек, пакінем іх там. Яны акурат спатрэбяцца, калі мы пачнем разбойнічаць. Мы там і будзем іх трымаць і тамака-ж будзем наладжваць оргіі. Гэта надзвычайна добрая мясціна для оргій.

– А што гэта за оргіі?

– Не ведаю. Але ў разбойнікаў заўсёды бываюць оргіі,– значыцца, і нам прыдзецца іх рабіць. Ну, хадзем, Гек; мы і так даўно тут сядзім. Час не ранні, ды і згаладаўся я вельмі. Мы ўжо

там на лодцы паямо і пакурым.

Яны вышлі з густога хмызняку, асцярожна агледзеліся навакол, убачылі, што бераг пусты, перабраліся ў лодку і пачалі закусваць. Калі сонца пачало схіляцца да гарызонта, яны рушылі назад. Том увесь час веславаў, трымаючыся каля берага, бо плысці прыходзілася супроць цячэння, і весела балбатаў з Гекам. Калі сцямнелася, яны прысталі да берага.

– Ну, Гек,– сказаў Том,– цяпер мы пакуль што схаваем грошы пад страхой дрывотніка ўдавы Дуглас, а раніцою я прыду, мы іх палічым і падзелім, а потым пашукаем надзейнае месца ў лесе, каб закапаць іх. Ты пакуль застанься тут і сцеражы грошы, а я збегаю, прывалаку тачку Бэні Тэйлора. Я мігам вярнуся.

Ён знік і сапраўды хутка вярнуўся з тачкай, палажыў у яе абодва мяшкі, прыкрыў нейкай анучкай, і хлопчыкі пачалі ўзбірацца на гару, пхаючы перад сабой тачку. Дайшоўшы да дома валійца, яны спыніліся адпачнуць. І калі яны хацелі ўжо ісці далей, на парозе з'явіўся гаспадар.

– Эй, хто тут?

– Гек і Том Соўэр.

– Гэта добра! Ідзіце за мной, хлапчукі, мы вас даўно чакаем. Ну, марш наперад скокам! Я павязу вашу тачку. Але-ж яна не вельмі лёгкая. Што ў вас там? Цэгла, ці што, або старое жалеза?

– Старое жалеза.

– Я так і думаў. Нашы хлапчукі гатовы патраціць колькі хочаш часу на здабыванне старога лому, за які ім дадуць шэсць цэнтаў на ліцейным заводзе, а за працу, дык не бяруцца, хоць яна прынесла-б удвая больш. Але такая ўжо чалавечая натура! Ну, марш, жывей!

Але хлопчыкі пацікавіліся, чаму-ж гэта ім трэба спяшацца.

– Вось прыбяжыце да ўдавы Дуглас, тады даведаецеся.

Гек, які на сваім вяку прызвычаіўся да дарэмных абвінавачанняў, спытаўся з трывогай:

– У чым справа, містэр Джонс? Мы нічога дрэннага не зрабілі.

Валіец аж пакаціўся ад смеху.

– Не ведаю, Гек, не ведаю, мой хлопчык. Наконт гэтага нам нічога не вядома. Але-ж ты сябруеш з удавою Дуглас?

– Так. У кожным разе яна становіцца да мяне добра.

– Ну, вось бачыш,– чаго-ж тады баішся?

Гек, які не вызначаўся асаблівай кемлівасцю, не паспеў прыдумаць адказу, як яго разам з Томам пхнулі ў гасцінуую да місіс Дуглас. Містэр Джонс пакінуў тачку за дзвярыма і ўвайшоў услед за імі.

Гасціная была ярка асветлена, і там сабраліся ўсе важныя людзі гарадка. Тут былі Тэчэры, Гарперы, Роджэрсы, цёця Поллі,

Сід, Мэры, поп, выдавец газеты і яшчэ шмат народу, усе ўбраныя па-святочнаму. Удава сустрэла хлопчыкаў так шчыра, як толькі можа гаспадыня сустрэць гасцей, якія з’явіліся да яе ў такім выглядзе, як нашы героі: запэцканыя салам і глінай.

Цёця Поллі ўся пачырванела ад сораму і, нахмурыўшыся, з дакорам ківала галавой, гледзячы на Тома, але больш за ўсіх адчувалі сябе няёмка самі хлопчыкі.

– Тома не было дома,– растлумачыў Містэр Джонс,– і я нават не прабаваў знайсці яго, але потым сутыкнуўся з ім і з Гекам ля самай маёй дзверы і вось паспяшаўся прывесці іх сюды.

– І добра зрабілі,– сказала ўдава. – Хадзем за мной, дзеці!

Яна прывяла іх у спальню і сказала:

– Цяпер памыйцеся і пераапраніцеся. Тут два новыя касцюмы, кашулі, панчохі – усё, што трэба. Гэта, уласна кажучы, для Гека... Не, не, Гек, не дзякуй: адзін купіла я, другі містэр Джонс, але яны падыходзяць вам абодвым. Апранайцеся-ж, а калі будзеце гатовы, прыходзьце ўніз,– мы вас чакаем.

## Раздзел XXXIII

– Том,– сказаў Гек,– мы можам уцячы праз акно, калі толькі знайсці вяроўку; тут вокны невысока ад зямлі.

– Што за глупства? Навошта нам уцякаць?

– Ну, ведаеш, я не прывык бываць у такім натоўпе. Я гэтага цярпець не магу. Не пайду я туды, Том.

– Глупства, нічога! А мне дык усёроўна. Я ніколечкі не баюся. Я і аб табе паклапачуся.

На парозе з’явіўся Сід.

– Том, цёця чакала цябе ўвесь час пасля абеду. Дзе ты быў? Мэры падрыхтавала табе святочны гарнітур; усё непакоілася, дзе ты. Што гэта ў цябе на адзенні – сала, гліна?

– Містэр Сід, раю вам займацца ўласнымі справамі і не соваць нос у чужыя. Але што гэта яны выдумалі? дзеля чаго?

– Ды проста ўдава наладжвае ў сябе свята, як яна гэта часам робіць. На гэты раз яна дае вячэру ў гонар валійца і яго сыноў за тое, што яны выратавалі яе з бяды тады ўначы. І ведаеце, што я вам скажу,– калі толькі, вядома, вы хочаце?

– Ну, што такое?

– А вось, што: стары містэр Джонс збіраецца сёння нечым усіх здзівіць, але я падслухаў іхні сакрэт, калі ён сёння расказваў яго цётцы, і думаю, што цяпер ужо гэта ні для каго не сакрэт. Усе ведаюць, нават і ўдава, хоць яна і прытвараецца, што не ведае. Вядома, містэру Джонсу трэба было прывесці сюды Гека. Без Гека нічога і не вышла-б з яго сакрэта.

– Ды ў чым-жа сакрэт, Сід?

– А ў тым, што гэта Гек прасачыў разбойнікаў да дома ўдавы. Містэр Джонс думае, што ён зробіць усім вялікі сюрпрыз, а на справе нічога і не выйдзе.

Сід хіхікнуў, відаць, вельмі задаволены, што ў старога сюрпрыз не выйдзе.

– Сід, гэта ты ўсім расказаў?

– Ці не ўсёроўна, хто сказаў? Ведаюць – і ўсё.

– Сід, ва ўсім горадзе ёсць толькі адзін чалавек, які можа зрабіць такую подласць,– і гэта ты! Каб на месцы Гека быў ты, ты ўцёк-бы з гары і нікому не сказаў-бы пра разбойнікаў. Ты толькі і здольны на подласці і цярпець не можаш, калі перад табой каго-небудзь хваляць за добры ўчынак. Вось табе! А падзякі не трэба, як казала місіс Дуглас. – І Том выцягаў брата за вушы і выпхаў яго за дзверы. – Цяпер ідзі сабе! А калі паскардзішся цётцы, глядзі, заўтра яшчэ не тое будзе.

Праз некалькі мінут госці ўдавы ўжо сядзелі за сталом і вячэралі: дарослыя за галоўным сталом, а дзеці – побач, за маленькімі бакавымі столікамі, паводле звычаю таго часу і той мясцовасці. За апошняй стравай містэр Джонс сказаў маленькую прамову. Ён падзякваў удаву за гонар, зроблены яму і яго сынам, але ў той-жа час растлумачыў, што ўся заслуга належыць не ім, а трэцяй асобе, скромнасць якой і г. д. і г. д.

Містэр Джонс вельмі ўдала падрыхтаваў слухачоў да раскрыцця сакрэту ўдзелу Гека ва ўсёй гэтай справе, але цікавасць да яго расказу была значна зменшана папярэднім выкрыццём, і здзіўленне выявілася не так шумна, як гэта магло быць пры іншых умовах. Тым не менш місіс Дуглас прытварылася, нібы яна вельмі здзіўлена, і выказала Геку такія пахвалы і такую падзяку, што той бадай забыўся на сваё цёмнае становішча і на новае адзенне, якое перашкаджала яму.

Місіс Дуглас абвясціла, што яна парашыла ўзяць Гека да сябе ў дом і даць яму адукацыю, а потым памагчы яму знайсці сабе які-небудзь занятак.

Тут выступіў Том.

– Гек не мае патрэбы ў гэтым,– сказаў ён. – Гек сам багаты чалавек.

Каб усе госці не былі такога добрага выхавання, яны, безумоўна, сустрэлі-б дружным рогатам гэты наіўны жарт, але і маўчанне вышла досыць няёмкім, і Том паспяшаўся парушыць яго:

– У Гека ёсць свае грошы. Вы можаце не даваць мне веры, але ў яго ёсць куча грошай. Не смейцеся, калі ласка, я вам зараз пакажу. Пачакайце хвілінку!

Том выбег з пакою. Усе з недаўменнем і цікавасцю глядзелі

адзін на аднаго і на Гека, але той маўчаў, як забіты.

– Сід, што такое з Томам? – спытала цёця Полі – Ён... не, з гэтым хлопчыкам ніколі не ведаеш, чаго чакаць. Я за сваё жыццё...

Цёця Полі не скончыла фразы, бо ўвайшоў Том, згінаючыся пад цяжарам двух мяшкоў. Ён высыпаў на стол кучу золата і ўрачыста ўсклікнуў:

– Во! Што я вам казаў? Палова ўсяго гэтага належыць Геку, а другая мне!

Убачыўшы столькі золата, гледачы затаілі дыханне. Некалькі хвілін ніхто не мог вымавіць ні слова, потым, вядома, усе патрабавалі тлумачэння. Том ахвотна даў яго. Расказ яго быў доўгі, але востра цікавы. Яго амаль не прыпынялі, каб не парушыць ачаравання. Калі ён скончыў, містэр Джонс сказаў:

– Я думаў, што падрыхтаваў для публікі маленькі сюрпрыз, але ў параўнанні з гэтым мой сюрпрыз нічога не варты. Гэта я сам скажу!

Палічылі грошы. Іх аказалася больш за дванаццаць тысяч даляраў. Такой сумы адразу ніхто з прысутных і ў вочы не бачыў.

## Раздзел XXXIV

Удача, якая трапіла на долю Тома і Гека, у такім глухім гарадку, як Пітэрсбора, зрабіла, вядома, вялізнае ўражанне. Такая вялікая сума грошай ды ўсё чыстым золатам гэта здавалася проста непраўдападобным. Пра знаходку гаварылі, перагаварвалі з захапленнем, а некаторыя абываталі ледзь не страцілі розум ад такога незвычайнага ўзбуджэння.

У Пітэрсбора і ваколічных вёсках ператрэслі ўсе дамы, дзе вадзілася «погань», уздзёрлі кожную дошку з падлогі, капаліся пад фундаментам, шукаючы скарбы,– і не хлопчыкі, а дарослыя мужчыны, да таго-ж людзі сур’ёзныя, паважныя, зусім не лятуценнікі.

Тома з Гекам песцілі, завіхаліся каля іх, дзівіліся на іх, куды-б яны ні з’явіліся. Хлопчыкі не маглі прыпомніць, каб калі-небудзь раней хто-небудзь звяртаў увагу на іхнія словы; цяпераках-ж кожная іхняя заўвага паўтаралася ўсімі, як нешта каштоўнае; у кожным іхнім учынку бачылі нешта асаблівае, нібы яны ўжо страцілі здольнасць рабіць і казаць звычайныя рэчы; мала гэтага, нават у ранейшым іхнім жыцці вышуквалі словы і факты, якія-б дзівілі сваёй арыгінальнасцю. У мясцовай газеце надрукаваны былі біяграфіі абодвых хлопчыкаў.

Удава Дуглас палажыла ў банк грошы Гека, а суддзя Тэчэр, па просьбе цёці Полі, зрабіў тое самае для Тома.

Суддзя Тэчэр адчуў вялікую павагу да Тома. Ён казаў, што звычайны хлопчык ніколі не здолеў-бы вывесці яго дачку з пячоры.

Калі-ж Бэкі, пад сакрэтам, расказала бацьку, як Том даў сябе адлупцаваць замест яе ў школе, суддзя быў расчулены, і, калі яна пачала прасіць яго, каб ён не асуджаў Тома за ману, якую яму прышлося сказаць для таго, каб выратаваць яе з бяды і ўскласці гэтую бяду на ўласныя плечы,– суддзя ў захапленні абвясціў, што гэта была высокая, благародная, самаахвярная хлусня. Бэкі ніколі яшчэ не бачыла свайго бацьку такім велічным, як у тую мінуту, калі ён казаў гэта, шпарка шагаючы па пакоі і прытупваючы нагой. Яна зараз-жа пайшла і перадала ўсё Тому.

Суддзя Тэчэр спадзяваўся ўбачыць калі-небудзь Тома вялікім адвакатам ці вялікім палкаводцам. Ён казаў, што паклапаціцца аб тым, каб хлопчыка прынялі ў нацыянальную ваенную акадэмію, а потым, каб ён праслухаў курс у лепшай школе юрыдычных навук і такім чынам падрыхтаваўся да абодвух гэтых кар'ер.

Багацце, якое дасталося Гекльберы Фіну, і пратэктарства ўдавы Дуглас прывялі Гека ў грамадства, не – уцягнулі, уціснулі яго туды сілком, і яго пакуты перавышалі яго сілы. Служанкі ўдавы мылі яго і чысцілі яму адзенне, зачосвалі і прыгладжвалі яму валасы, на ноч укладвалі яго спаць у абсалютна чыстую пасцелю, дзе на прасціне і коўдры не было ніводнай бруднай плямкі, якую ён мог-бы шчыра прыціснуць да свайго сэрца; прымушалі яго есці нажом і відкай з талерак і місак, карыстацца сарвэткай, вучыцца па кнізе, хадзіць у царкву, гаварыць так зграбна, што ў яго словы застравалі ў роце. Куды ні павярніся, усюды путы і кайданы скоўвалі яго па руках і па нагах, і бар'еры загараджвалі яму дарогу.

На працягу трох тыдняў ён мужна цярпеў свае нягоды, але потым, у адзін добры дзень, знік. Цэлых двое сутак хвалявалася місіс Дуглас, усюды шукаючы яго. Публіка была ў поўным недаўменні. Гека шукалі на горах і ў далінах, вышукалі нават раку, шукаючы яго цела.

Нарэшце, на трэці дзень раніцою Тому Соўэру прышла ў галаву добрая думка – пашукаць у пустых адрынах за пакінутай бойняй, і ў адной з іх ён знайшоў уцекача. Гек спаў. Ён толькі што паснедаў, недзе сцягнутымі аб'едкамі, і цяпер, выкурыўшы люльку, з камфортам адпачываў. Ён быў нямыты, нячосаны і адзеты ў ранейшыя лахманы, якія рабілі яго такім цікавым у тыя дні, калі ён быў яшчэ вольны і шчаслівы. Том пабудзіў яго, расказаў, колькі прыкрасці ён зрабіў усім, і ўгаварваў яго вярнуцца дадому. Твар Гека страціў спакойны выгляд і зрабіўся сумным.

– Не кажы пра гэта, Том,– сказаў ён. – Я прабаваў, але нічога не выходзіць, Том! Не для мяне ўсё гэта, не прывык я да гэтага. Удава добрая да мяне і ласкавая, але не магу сцярпець усіх іхных выдумак! Яна, напрыклад, прымушае мяне ўставаць кожную раніцу ў адзін і той-жа час, мыцца загадвае; усю галаву мне падралі,

чэшучы, і спаць мне не дазваляюць у дрывотніку,– калі ласка, лажыся ў ложку А гэта праклятае адзенне! Разумееш, Том, я ў ім проста душуся! Яно, здаецца, не прапускае паветра, і такое яно – чорт бы яго пабраў! – прыгожае, што ў ім нельга ні сесці на зямлю, ні легчы, ні качацца па ёй. Я не катаўся на дзверах скляпоў вось ужо, здаецца, цэлыя гады! Удава есць па званку, кладзецца па званку, устае па званку,– усё так страшэнна правільна, што проста цярпець няма моцы.

– Ды ўсюды-ж так, Гек.

– Том, гэта мне зусім усёроўна. Я не ўсюды, і цярпець больш не магу. Гэта проста смерць–быць так звязаным па руках і па нагах. Гэта мяне ў магілу загоніць! Мне ўжо ежа ў горла не лезе. Здаецца, хутка і дыхнуць без дазволу нельга будзе. Мяне прымушаюць гаварыць так мудрона, што ў мяне і наогул гаварыць прапала ахвота. Мне даводзіцца часам ісці на гару, каб добра вылаяцца і пацешыць сваю душу,– а то я не вытрымаў-бы! Удава мне не дазваляе курыць, не дазваляе ні крычаць, ні пазяхаць, ні пацягвацца, ні чухацца пры кім-небудзь. Мне трэба было ўцячы, Том, неабходна было! І потым хутка пачнуцца заняткі ў школе; мажліва, мяне яшчэ і туды пасылаць будуць,– ну, а гэта я зусім не вытрымаю! Бачыш, Том, мабыць багацце не для мяне. Ад яго толькі прыкрасць і непрыемнасці,– проста ўвесь час смерці жадаеш. А вось гэтае рыззё для мяне, і больш з ім разлучацца я не жадаю. Ніколі не здарылася-б са мною такая бяда, каб не гэтыя праклятыя грошы. Том, вазьмі ты сабе, калі ласка, маю долю і карыстайся ёю як сваёй, а мне выдавай часам толькі па дзесяць пенсаў – і то не часта, бо мне падабаецца толькі тое, што не лёгка даецца. А ты за гэта ідзі і адпрасіся за мяне ў удавы.

– Кінь, Гек, ты ведаеш, што я не магу,–гэта нячэсна. І... калі ты пастараешся яшчэ трохі, то потым прывыкнеш.

– Прывыкну? Хіба можна прывыкнуць сядзець на распаленай пліце... Не, Том, не хачу я быць багатым, не хачу жыць у гэтых агідных вылізаных дамах. Я люблю лес, рэчку, люблю начаваць у бочках, – вось гэта для мяне. Акурат цяпер, калі ў нас ёсць і стрэльбы, і пячора, і ўсё, што патрэбна для разбою,– трэба-ж было трапіць гэтым грошам і ўсё папсаваць.

Том паспяшаўся скарыстаць гэтую тэму:

– Пачакай, Гэк, багацце-ж не перашкодзіць мне зрабіцца разбойнікам.

– Ну? Ды ты гэта ўзапраўду, Том?

– Яй-права, узапраўду. Але-ж толькі цябе нельга будзе прыняць у банду, Гек, калі ты не будзеш мець прыстойнага выгляду і адзення.

Радасць Гека была атручана.

– Нельга будзе прыняць мяне? Як нельга? Ты-ж прыняў мяне ў піраты!

– Так, але гэта іншая справа. Разбойнік благароднейшы за пірата: ён і трымаць сябе павінен лепш.

– Але паслухай, Том! Ты-ж заўсёды быў маім сябрам: ты не выставіш мяне,– так, Том? Ты гэта не зробіш? Скажы!

– Гек, я, вядома, хацеў-бы мець цябе сваім таварышом, але што скажуць людзі? Яны скажуць: «Фу! Банда Тома Соўэра! Ды там усё нейкія валацугі!» І яны будуць намякаць на цябе. Гэта-ж табе самому будзе непрыемна, ды і мне таксама.

Гек хвіліну маўчаў, заняты ўнутранай барацьбой. Нарэшце ён сказаў:

– Добра, Том. Калі ты абяцаеш узяць мяне ў тваю банду, я вярнуся на месяц да ўдавы Дуглас і пастараюся прывыкнуць. Толькі ты ўжо вазьмі мяне.

– Добра, Гек, абяцаю! Пойдзем, браце, а я папрашу ўдаву, каб яна не надта прыціскала цябе.

– Праўда, праўда, папросіш, Том? Вось гэта добра! Калі яна не будзе прыціскаць у самым галоўным, то я буду курыць ціханька і лаяцца таксама ціханька і як-небудзь перацярплю. Калі-ж ты збярэш банду і пачнем разбойнічаць?

– О, хутка! Мы можа сёння-ж увечары збярэм хлапцоў і зробім прысвячэнне.

– Што такое зробім?

– Прысвячэнне.

– Гэта што за штука?

– Гэта значыць, што мы ўсе паклянемся стаяць адзін за аднаго і не выдаваць таварышоў, нават калі нас парэжуць на кавалкі, і забіваць кожнага, хто пакрыўдзіць каго-небудзь з нашай банды, і не толькі яго, але і ўсіх членаў што сям'і.

– Вось гэта здорава, Том!

– Але. А прысягу трэба даваць абавязкова ў поўнач, у самым глухім месцы, якое толькі можна знайсці,– самае лепшае ў доме, дзе водзяцца здані.

– У поўнач?

– Ну, але. А прысягаць мы будзем на чыёй-небудзь магіле і распісвацца крывёю.

– Вось гэта так! Гэта, куды цікавей, як быць піратам. Хай ужо так, Том, я буду трымацца ўдавы, пакуль не выйдуся зусім, і калі зраблюся сапраўдным, заўзятым разбойнікам, і ўсе загамоняць пра мяне,– яна сама будзе ганарыцца, што вывела мяне ў людзі.